## ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Бал.: | Калёнка: | Радок: | Надрукавана: | Трэба чытаць: |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 19 згары | Пасьля пыл захістаўся над лозамі | Пасьля Юр'я адно |
| 2 | 1 | 3 зьнізу | Далягляд імкунлі | Далягляд імкнулі |
| 2 | 2 | 33 згары | зелязьнём | зелязьзём |
| 3 | 1 | 6 згары | канапляцьнікаў | канапляньнікаў |
| 3 | 2 | 4 згары | Доўга дні | Доўга, дні |
| 5 | 1 | ад 8-га зьнізу — радкі трэба чытаць у такім парадку: 8, 5, 7, 6, 4, 3, 2, 1. | | |
| 7 | 2 | 13 згары — радок чытаць, перавярнуўшы | | |
| 16 | 2 | 9 зьнізу | грумзёх | грудзёх |
| 25 | 1 | 39 згары | хвалюся | хвалююся |
| 25 | 1 | 48 згары | мачынае | пачынае |
| 29 | 1 | 35 згары | вішня вішня | вішня |
| 32 | 1 | 29 згары | Сабачая | Сабачыя |

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

# ЗЬНІЧЫ

**ФРАГМЭНТЫ.**

## УСТУП

Памутнела й жыцьцё, і навокальле,
Мала цешыць, ды мала й баліць.
Як калісьці, дзяцьмі сінявокімі
Ня імкнём мы у сонца, ў палі,
Ня трывожым сон соснаў лопатам
Жвавых, босых, дзіцячых ног,
Ня губляем сьлядоў бясклопатна
На гарачым пяску дарог.
Сядзеш, возьмеш пяро, —
зь нейкім скрыгатам,
Церазь сілу йрве аркуш яно.
Дзіва, — горкія сяньня мы сіраты,
З хаты вырвана зьвяно.
Ня суцешыць нас звонкай лірыкай:
З найзванчэйшай — жыцьця-ж ня зьвіць.
Дні ідуць, а мы зь лёсам ня зьмірымся,
Штоначы сьнім далёкіх, сваіх...
Дзе яны?
Ёсьць адны, ды з папелішчаў
Іншых сьлед замялі ўжо вятры,
І зноў зьнічам пурпурным,
велічным,
незагаслым
Душа гарыць.
Ня суцішыш яе, не адчэпішся
Ад таго, што ўстае скрозь туман.
А ці лірыка гэта, ці эпіка, —
Я ня ведаю і сама.

## I

Зазлавала вясна,
Была золкая, позная.
Не хацелі красы апранаць,
— Бо й каму на уцеху — палі.
Пасьля пыл захістаўся над лозамі
Жоўты пыл захістаўся над лозамі
І спакойнаю, сіняй вадой
Паплавы за сялом заплылі.
Тры дні цёплы туман
Як кудзеляю, нівы укручаваў.
Тры дні ў мгле жаўрукоў пераймаў
З залатымі ключамі ключар.
І калі ўрэшце сонца ўзыйшло
Над зямлёю зялёнай, пахучаю, —
Трапіў сьвет да вясны у сіло:
Выйшлі ўсе чараўніцу страчаць.
Ня стрывала, панесла надзей
Плойму й Зоська ў палі перад вечарам,
Ды ля весьніцаў стала...
Ну й дзень!
Хоць каго-б, раззалочаны, зьвёў!
(Хутарок Дзянісоў у кустох,
Можа стая ад вёскі, над рэчкаю.
Калі ў золаце й лозы, і лог,
Колькі пчолаў там і салаўёў!)
Вось і сяньня — пяюць!
Ня супяць!
А няхай іх, з палотнамі.
Пазьбірае... Вясна!
Раз-жа ў год так буяе зямля!
Хай з дакорам, авечкамі котнымі
Пад рукою і мэкаюць весьніцы,
А часінку ў лазе, у валешніках
Так і паліць туга пастаяць.
— «Зоська!» — «Божухна, Ясь!
Напалохаў!
Ды што ты?
Зьнямовіўся?»
— «Уцякайце... Ідуць!»
— «Хто?»
— «Хутчэй, уцякай... ды... старых...
Бачыш? Сьценкай... Зіхцяць...
Тыя-ж, з трупімі пруцца галовамі»...

Й салаўёў, і усплёскі зары
Жах іржавым лязом пераццяў...
. . . . . . . . . . . . .
Зазванілі вёдры на трывогу ў сенцах,
Зарыпелі дзьверы восецяў сьляпых.
Гул пайшоў па вёсцы:
ад гасьцінца, сьценкай
Ружавеў празрысты, залацісты пыл...
Ружавеў, аж мглою зацярушыў вочы
І паклаўся важкім воладам ля ног,
Як загралі марша радасна, ахвоча
Кулі па застрэшшах, па старых платох...
Енкі,
плач,
звон шыбаў,
брэх сабак,
праклёны,
Трэск варот, пагамі выбітых з шульлі, —
Колькі-ж гэткіх дзікіх, жудасных сымфоній
Чужынцом на нашай створана зямлі!
Каб забраць усе іх, каб узяць і грымнуць
Бурай пяруновых дысанансаў, —
сьвет
Задрыжэў-бы, ўспыхнуў...
І з чырвоным дымам
Гвалт, і зло, і крыўда адплылі навек!
. . . . . . . . . . . . . . .
— «Гэй,
— пашлі па йстопках,
па сьвірнох, —
дзе сала?»
І ў худыя плечы угрызаўся штых.
— «Што? Няма? Паглядзім!
Партызаны смаляць
Парсюкоў вясковых штоначы, а ты...»
— «Усіх старых — у царкву.
Ды і баб з малымі!
Маладых...»
— «Гэй, матка, дзе твой партызан?»
— «Я адна, паночку, я...»
— «Ну, досыць сьлініць,
Ведзьму, разам з тымі —
раўс, і пад паркан!»
Пацяглі салому на царкоўны ганак...
Зноўку дождж сталёвы ў пыл завулку лёг...
Ноч зыйшла нарэшце...
мглой змачыла раны,
Напаіла вусны,
спырскала пясок...
А калі, прыкладам штурхаючы ў сьпіну,
Павялі ў няволю моладзь паўз палі, —
Вёску, нібы сьвечку, прад аблiччам сіняй,
Ледзь расьцьвілай ночы злыдзень падпаліў.
І да золку, цемру ірвучы на пасмы.
(Заляканы ветах у пагары зьнік),
Паланеў у неба шырака, нязгасна,

Велічны,
Крывавы,
Зыркі,
Зыркі,
Зьніч.
А над ім ірдзеўся золатам найшчыршым
Рукі разгарнуўшы, распрастаўшы — крыж.
І сьцішаў звуглелых Хтось Найвышні
з вышы:
— «Хай зытлелі целы,
дух ваш — не згарыць».
. . . . . . . . . . . . . . . .
Дзянісы не згарэлі... Сьцярог
Бог сялібу над рэчкаю шпаркаю.
Але Зоська і Гэлька ў кустох
Не пасочаць ужо салаўёў.
Навет клунка узяць не далі.
Маці сьледам і бегла і плакала.
Ды ці можна такіх умаліць?
Па крыжох перацялі — і ўсё...
Ноч ня спалі... Ў лазе
Калаціліся, пацеры шэпчачы.
А у вочы узапар глядзеў
Праз лазоўе зьдзічэлы вагонь.
Жаль аж дух пераймаў...
Раз, яшчэ неяк зь вечара,
Ясь прыходзіў... Пабачыў — няма
І зноў скочыў у ночную тонь.
Ночы!
Ночы мінулай вайны!
Колькі вас пурпуровай пагараю,
Плачам, сагамі гвалту й маны
Так над стрэхамі хат адцьвіло!
Прыйдзе час...
Вас у песьні ўплятуць.
І атрутай,
і помстай,
і караю
Вы ўзрунееце й нейдзе,
і тут.
І ня будзе больш так, як было!

## II

Лета выдарылася сухое, навальнічнае.
Часта хмарылася, білі пяруны.
Пашчапалі дуб стары,
над ніцаю каплічкаю.
Але што яны у дні вайны?
Трэйці дзень ужо й пылеў, і гуў разгублена
Старавечны, у сівых бярозах шлях.
Гуў і ўночы ён, аж наквецць жоўтых лубінаў
Нейкі жах ці жаль няўхопны ахапляў.
Ледзьве раньне - ў небе мак таўклі сталёвыя
Камары, зьвінелі над сялом,
Іківалі мужыкі галовамі,
І шчырэй хрысьцілі грудзі за сталом...
Дзянісы ня слухалі за працаю
Як гулі у звон глухі палі.
Мо таму, што радасьцяй гарачаю
І тугою напаіў іх — ліст.
Першы ліст!
(Шкада і Зоські, ведама,
Але Гэля — горкае-ж дзіця.
Ці даўно зьбірала казкі дзедавы?)
Ясь дарогаю яго, ня вытрываў, расьцяў.
— «Мамачка, ня плачце...
Нам із Гэляю
Добра й працаваць ня цяжка тут ані.
Толькі дзіўна ўсё... А гэтаю нядзеляю
Ліст дазволілі вам выслаць...
хіба сьніць
Мы маглі аб гэткай радасьці?
Каханыя,
Страх падумаць, як вы жывіцё.
Патрывайце... Ведайце, із вамі мы
Думкай скрозь. Мо сходаем жыцьцё.
Ня сумуйце-ж,
Мы тут — не галодныя.
Як дзядуля ,тата? Ў хаце Ясь?
Здароў?
Ну, бывайце...»
А, унізе: «родныя,
Прышліцё мо нам хоць трошкі сухароў?»
Плакалі старыя... перачытвалі
Кажны сказ па дзесяць раз...
Сяло-ж,
Як мурашнік пад вырваным бурай выкратнем,
І жыло з глухой трывогі... й ня жыло.
Аж аднойчы,
ледзьве серп замурзаны
Маладзік у Нёман акунуў, —
Запалала чырвана і спуджана
Неба летняя, начная муць.
Закурэлі хвойнікі, што пасмамі
Далягляд імкнулі апляські.
І усім да болю стала яснае:
Сенаваньню сёлета — канцы.
Мала хто спаў гэтай парнай ночаю.
(Утрымаюць, не? Каб іх пярун!)
І з надзеяй, ледзьве, праўда, сточанай,
Спаглядалі вочы у гару.
А назаўтрае віталі раніцу
Галасы нядоеных кароў:
Усімі сьцежкамі і межамі, у паніцы
«Фронт» імкнуў шумліва паўз двароў.
Гуд машын,
іржаньне,
крыкі,
тупаньне
Сотняў ног, падкутых зелязьнём,
Пыл і дым,
вазы з жывымі й трупамі, —
Ўсё зьмяшалася у пекла ля паўдзён.
Адыход сачыла вёска із пярэкляцяў,
З-за парканаў безьлічай вачэй.
«Жучкі» вылі, пеўні кукарэкалі,
Дзеці браліся усхліпаваць, пішчэць.
Хто зь сякерай тупаў,
хто падмазваў,
Сам ня знаючы навошта, перадок.
А гарматы аж канали спазмамі
І шчымелі сэрцы... Незнарок...
Бо яшчэ ня села на куросадні
Сонца жутлае, чырвонае, —
загад
Выгнаў вёску на гасьцінцы босыя
І парыпалі вазы — пад далягляд.
Не хацеў стары Дзяніс сваю аселіцу
У бядзе кідаць, і то каму?
Ды прыйшлі...
Спрачацца-ж ці асьмелішся?
А і дзеці ў сьвеце. Каламуць,
Глум такі пайшлі цяпер,
што й не пабачыцца!
Маці-ж плача вось па іх ці мала дзён?
Дык сабралі воз,
і, вёскі не загачыўшы,
Пацягнулі сонцу наўздагон.
— «Ну, бывай, хай спалены, разбураны,
Родны кут! Надоўга, назаўжды?
Што чакае там, дзе змрокі бурыя,
Дзе густы, пякучы, чорны дым?»
Жвір сухі і колы й ногі мералі,
Сэрцы-ж упіраліся — ня йсьці.
Нахіляючыся, грудкі глею шэрага
Бабы ўкручвалі ў ражкі хусьцін.
Аж ірваліся яны, каптан расхрыстаўшы,
У разору рынуць і загаласіць:
«Ой, жытцо маё сівое, каласістае,
Для каго сьпяліш ты каласы?
Хто цябе із песьняю журліваю

Будзе шчыраю рукою зажынаць?»
Але вось і ўзгорак...
Сьцяўшы сківаіцы
Раз апошні глянулі назад.
А ўнізе —
ўнізе, між канапляцьнікаў,
Чыста выбраных навалаю гаыьні, —
Паланеў ужо, паўнеба ахапляючы
Вялізэзны,
пурпуровы
зьніч.
— «Хто там стаў? Далей!
Глядзець — няма калі»,
Із чырвонай цемры выплыў цёмны сьцень.
Крык... усхліп глухі... і зноў заплакалі
Колы,
колы,
колы
ў тумане.
Доўга дні, мо й тыдні, як шырокая
Крывічанская зямля, —
уцекачы
Палівалі, мерачы далечы крокамі,
Крывяной сьлязой крывавыя зьнічы.
А яны...
Яны шугалі у бязьмежнае
Быццам з жыл сыноў Тваіх, мой Край,
жывая кроў,
Пакідаючы і сэрцамі, і межамі
Нязмывальнае нікім,
нічым,
таўро.

III

Плылі, плылі дымы над сьцерплай
Беларусяй.
Зьмяталі сьлед па тых, што мусілі пайсьці.
З пабітых шыб, з пустых сяней
глядзела вусьціш.
А ліпень, хоць бы што, іх сонцам залаціў.
Пад хатай Дзянісоў —
як мур быльлё буяла,
Ды ластаўкі крыльлём чыркалі цішыню.
І веяла з пустых кутоў старой навалай
І новаю,
якой — і ім не абмінуць.
Але...
Адны пайшлі, а тых — яшчэ чакалі.
Ніхто, ніхто ня спаў у хаце... Палатно,
Кажух, што лепшы, — ўсё ў жытох лягло
высталых,
Якіх ня кратаў серп, хоць вырасьлі сьцяной.
З аселіц, позна ў ноч, сагнуўшыся, старыя
Чырвонымі вачмі сачылі далячынь.
А той, хто не хацеў ізноў гнуць долу шыю,
Зыйшоў на дно лясных урочышч і лагчын.
Пайшоў і Ясь...
Лясы!
Чароўнае багацьце
Радзімае зямлі! Ці раз вы ўжо, ці два
Былі асочаным, выгнаньнікам і хатай
І сховам, што яшчэ нікога ня ўдаў?
Што год, ледзь сакавік на рэках скрышыць
крыгі,
Чужыя вас чужым шлюць і сьвяціць, і грэць
Ды вы — ўсё жывіцё...
І ўсё такі-ж застыглы
Ваш супакой, ваш гарт,
і мхоў сівая шрэнь.
. . . . . . . . . . . . . . .
Сачылі далячынь старыя й дасачылі...
Кружылі пчол раі над жоўтай пенай ліп,
Асыпаныя залацістым пылам,
Ледзь калыхаліся жытнёвыя палі.
У сонцы, лена мух зганяючы, драмалі
Пад ганкам Лыскі...
Зманны супакой!
А перад вечарам ужо вялізны Сталін
Ківаў над гмінай вусамі й рукой.
— «Хадзяін дома? — Не?»
— «Няма... забралі немцы.
— «Забралі?» І нагой, што моцы, у вушак.
— «Ну, выхадзі!
Давай давай, давай у сенцы.
Няма тут месца для фашыстаўскіх сабак!»
У сенцах — крык... і стрэл...
Зноў — стрэл... і крык...
Нічога,
Мо іншым чым старых і бабаў частаваць?
Ужо й не разабраць, пагараю вячорнай,
Ці цёплаю крывёй чырвеніцца трава?
Пад могілкамі — суд.
Крыжы магілаў ніцых
Глядзяць, як дзяк худы павіснуў на суку.
І надарма заход зіхціць і залаціцца:
Нікога
ні з жуды, ні з жалю не раскуць.
А па судзе, ўначы, залапаталі крыльлем
Чырвоным пеўні і...
зноў над бязьмежжам ніў,
Над грабянямі стрэх,
Над пенай ліп расьцьвілых
Шугнуў жывой крывёй
Вялізны,
зыркі
зьніч.
Аж на лясное дно ляглі пагары пасмы.
Лес сотняю вачэй угледзеўся ўгару.
А ён гарэў, гарэў,
Магутны,
незагаслы,
Правечны зьніч —
Мая Радзіма — Беларусь!

---

Беларусь, Беларусь зялёная,
Палыменны, балючы сон.
Із Табою гарым сягоньня мы
І ня згасьнем, так дай нам Кон.
З намі Ты, хоць драты калючыя
Аплялі нашу ростань,
Ты
Ў нас жывеш і шумлівымі пушчамі
І бязьмежжам жытоў залатых.
Ты...
далёка, але і блізка, тут.
Дзе ў нас Ты, а дзе мы — не пазнаць.
Не згадаць,
ці ў нас — вёсны Твае цьвітуць,
Ці мы, Край наш —
Твая вясна.
Хай мутнее й жыцьцё, і навокальле,
Лёс ня праўдзіць, а толькі маніць,
Хай мы парабкі сяньня і лёкаі, —
За Цябе мы
нязгаслы
зьніч!

В. БІРЫЧ

# ЭМІГРАНЦКАЯ ПЕСЬНЯ

**(НАВЭЛЯ).**

...І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.
М. Багдановіч.

Ён і цяпер ніяк ня мог даць веры, што запраўды, паважна можа быць у чалавека такая хвароба-настальгія. Сам у сваім дасюлешнім жыцьці меў мо і рэдкае шчасьце (прынамся — дзякуй Богу!) — аніразу ніяк на нутро не занядужаць. Давялося, праўда, мець сякое-такое дачыненьне зь хірургіяй, і ў выніку займелася пэўная пашана да гэтае галіны мэдыцыны, большая, як да ўсіх іншых ейных спэцыяльнасьцяў. Бо гэта-ж усяроўна, як у навуцы матэматыка: двойчы два — чатыры, раскроена, выдалена, вычышчана, выпампавана — і ўсё тут, прынамся — усё магчымае, за якім толькі або-або, або плюс, або мінус. А ўся гэтая «псыха» — адно настроі, часта вельмі зыбістыя, няўхопныя, думкі, уявы, лятуценьні, маячэньні — усё гэта ці паддаецца якому ўняцьцю, сфармуляваньню навукаю, хоць-бы сабе й мэдыцынаю? І галоўна — ці можа яно быць запраўднаю прычынаю нейкіх зьніначаньняў і заломаў у фізычным чалавеку? «Панская хвароба» — нездарма ахрысьціў народ усе такія рэчы, трапна падгледзеўшы ўсю іхную незапраўднасьць, непаважнасьць, годную толькі разамлелага, расьпешчанага дзяньгуба, абібока й вычваракі — «пана», а ніяк не чалавека паўнавартаснага, нечым занятага й затрудненага. Навет і такія зьявы, як вар'яцтва... Паспрабуйце ўявіць сабе, але зусім паважна, як гэта можа чалавек звар'яцець? А тымчасам — рана, скула, вывіх рукі ці нагі, задушлівы кашаль, кроў — уяўляюцца лёгка, адразу, і толькі аб такім чым-небудзь можна гаварыць, як аб хваробе, а не ўдаваных «псыхах», пустых прымхах і «панскіх» вычварах.

Пэўна, Раіна нядужала, і то моцна. Вось і цяпер, сплючы, выглядала зусім на цяжка хворую — цяпер **асабліва** выдавалася наўзьверх ейная жахлівая змарнеласьць за гэтыя апошнія месяцы. Божа мой! Сьлёзы жалю самі набягалі на вочы, гледзячы на яе, такую-яшчэ гэтак нядаўна паўнакроўную, цьвітушчую-красную, вясёлую маладзенькую жонку-верную й шчырую сяброўку жыцьця... А найгорш — якая рада? Зусім натуральна і першым чынам падазраваліся злыя сухоты... Але-ж усе дактары, аналізы й прасьвятленьні адкінулі наводлег і найменшы сьцень такіх падазрэньняў... Мо які страшны рак, ці іншае падобнае што, супраць чаго наагул яшчэ-ніякае рады? Не, і з гэтым зусім тое самае. А нарэшце сяньнягэтае кастамарае нямецкае сьвяціла, зорка навукі — пазіраючы паўзьверх таўстых шклоў падвойных акуляраў, выцадзіла няхібны дыягназ: «настальгія». Настальгія-туга за бацькаўшчынай — і гэта мае быць цяжкая, уедлівая хвароба, што так фізычна вынішчае-выпятрае чалавека? Гэтая... лірычная тэма паэтаў, часьцей навет-проста толькі поза, ну, у найгоршым выпадку — паганы настрой напару... Не, гэны флюк проста захацеў пазьдзеквацца з узвышша свае кастамарае наўчонасьці й нямецкасьці. Хіба-ня гэтак выглядае зь ягонага глыбака-навуковага «рэцэпту» лячэньня — «зьвярнуць хворай тое, за чым туга»? За гэтым-жа — нічога больш, як звычайнае іхнае злапыхлівае — «чаго вы ня едзеце дадому? І які там страх, хто не зрабіў нічога благога і працы не баіцца? Спадабаўся, бач, дармовы хлеб і шакаляда? Або — ад кары хавацца, ці дармаедзтва спаганяць тут?» Ці раз даводзілася выслухваць падобныя тырады, і самому «даваць здачы» такімі-ж. І сяньня, на гэткі кароткі, але такі красамоўны «рэцэпт» таксама затоўпіліся былі нейкія падобныя, горкія й дзёрзкія словы «падзякі». Толькі абавязак ветласьці перад «сьвяцілам» не прапусьціў іх праз вусны, выціснуўшы горлам адно глухое: «Es ist unmöglich»...

І сьмеху варта: такі «дыягназ» ён лёгка мог паставіць і сам .Туга за бацькаўшчынай — пэўна, было й гэта. Было, ды як на ўзьдзіў і на злосьць ўсё больш пачало азначацца якраз пасьля таго, як нарэшце прыйшоў з-за акіяну той панадны «афідавіт», якога абое раней горача так жадалі, так аб ім лятуцелі... Тады, якраз тады й затужыла, праўда, па тым неўзабаве й пачала нядужаць-марнець. І гэта тады пачаліся ўздыханьні — а як там, там — не за акіянам, а там — дома... І як мама, і старэнькая хатка на Пагулянцы... А Войструю Браму ўжо ўзарвалі бальшавікі, і ўжо больш ніколі-ніколі, ды адтуль, з-за мора... Не пахаваюць навет у роднай зямлі, а мо й зусім — у мяшку, у вакіян ды рыбам, калі часам падарозе, ня вытрываўшы гойданкі... А яна й ня вытрывае, не, нізашта ня вытрывае... І тады пачынала лашчыцца падзіцячу, падзіцячу прасіцца — «дадо-ому хо-чу»... Перш думалася — проста дурасіцца, як часта мела за звычай. «Дык мо рэпатрыюемся «на родину» давай?» — прапанаваў і ён, каб зьвесьці ўсё на жарт. «Не-не, што ты, — паважнела тады адразу й навет устрывожвалася, — гэта я так, дурніла. Я-ж ведаю — ні табе, ні мне, ды навет і дзеля іх там няможна...» І змаўкала, але ўсё-ж толькі больш і больш зануралася ў сабе да маўчала так, гадзінамі нязьмігутна талопячыся некуды ў далячынь, толькі зрэдку адзіночным якім словам ці адказам зраджваючы ўсё той-жа настырлівы ход думкі — «дадому»... Ну, але-ж і яго самога так нудзіла часам пустое, дзяньгубнае лягернае жыцьцё, да таго-ж у глухім такім заканурку... І таксама ўсплывалі перад вачыма напару мілыя, родныя зьявы... Але-ж больш, куды больш цягнула «пабываць у краёх незнаёмых» — яшчэ ад школьнае лаўкі ў спадчыну перанятая рамантыка прастораў і прыгодаў. Здаецца, раней у гэтым абое былі так аднадушныя, а вось-жа... Ды толькі, што-ж, і зноў-жа, ці з гэтага-такога можна хварэць і чэзнуць? Зьмена месца, а калі йшчэ й клімату — і ўсё — як рукой...

Ды зь месцам-ужо паспрабавалі былі, і дармо: традыцыйнае «вясельнае падарожжа» ня прынесла нічога, ня вывела з тугі й навет зь бязуважнасьці хоць-бы. Мо таму, што спозьненае — праўда, што за «вясельнае», калі ўжо на другі год па вясельлі? А мо й таму, што традыцыйнае-ды ня ў нас. І ці ня больш яшчэ нагняло і тугу і нядужнасьць... Што-ж цяпер? Каб баржджэй хаця надыйшла тая радоўка — на карабель... Толькі — ці зрушыць і гэта? Каб не пачало й запраўды разьвязваць цёмных тых ейных прадчуваньняў-страх да заакіянскага падарожжа міжволі перадаваўся й яму часам...

Ды не-якая дурніна й блазнота! І блышыць баржджэй уся тая кастамарая, хвалёная й наўчоная нямецкая мэдыцына, із сваёй пустаслоўнай, мудзёра й мудрагельска, «панавуковаму» стэрміналёгізаванай «настальгіяй». Хіба ад тугі душы-няўздуг цела? А мо якраз ды наадварот? Мо якаясь такая глыбака-нутраная пахібка, залом дзесь у нетрах фізычнага ці фізіялёгічнага — і ўсплывае гэнай тугой на вярхі псыхікі, прыступныя назіраньню няўзброеным вокам? Не, трэба яшчэ добранька шукаць, дасьледаваць, дабірацца да карэньня, усю тую мэдыцыну на ногі паставіць, абкалаціць. Бо што-ж гэта, запраўды?

А сяньня пакуль заставалася хіба толькі адно: «пераначуеш — болей пачуеш». Ды кладучыся ў ложак асьцярожненька, каб ня стрывожыць яе (бывала-ж часам ужо й бяссоньне на цэлыя ночы, дык балазе, што пакуль спачывае гэтак глыбака-спакойна) — прыгадаў раптам, кінуўшы вокам па насьценным календарыку над вузгалоўем: гэта-ж заўтра — 14 красавіка... Якраз два гады іхнага жанімства... За гэтым клопатам навет забыўся на такую дату... Ды яе — ці ўзрушыць, ці ажывіць яе цяпер гэта?

I ў цемры, непрагляднай адразу пасьля згашанага сьвятла, перад незамжонымі яшчэ вачыма — зараіліся ўспаміны такіх нядаўных — а ўжо, здаецца, нейкіх аж дагістарычных — тых часоў. Але-ж, два гады... Адно што—мо таму, што ў цемры? — не разгорталася тая мінуласьць цяпер сьвятлянай істужкаю каляровага фільму, а загучэла раптам нейкай панурай і цяжкой, цяжарнай злавесным канаваньнем, увэртурай: —

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Амэрыканскія танкі зь цяжкім грукатам пераможна каціліся вузкімі й завілымі вулачкамі невялікага нямецкага гарадка. Дрыгацелі дробнымі дрыжыкамі шыбаў мяшчанскія камянічкі, ашчадна будаваныя ў ваднў цагліну, уздрыгвалі, здавалася, навет самыя сярэднявечныя патужныя муры, сівыя сьветкі суворага, ды ўсё-ж не такога кручанага часу... Ды ці ня дрыжэлі-калаціліся таксама нутром сваім і людзі, што маўклівымі й недаверліва-насьцярожанымі кучкамі ляпіліся-туліліся да дрыгаткіх сваіх камянічак. Больш із сполахам, як ізь цікаўлівасьцяй талопіліся яны на тое новае й нязнанае ліха ведае што, якое віхурай імчала паўзь іх цяпер із бразгатам і пылам ды вось-вось, здаецца, пагражала захапіць і павалачы за сабою ў нейкі шалёны вір пякельнага гэтага паходу ўсё — і вутлыя іхныя камянічкі-каўчэгі, і іх самых, нябогаў... Och, Gott, Gott... Хто яго ведае, як гэта ўсё яшчэ будзе...

Бо пакуль выглядала ўсё яно, папраўдзе, як сон. Жаданы ці нежаданы, але нарэшце-ткі сон пасьля апошніх, бяссонных навылёт ночаў і дзён, што блізу бязвылазна мусілі перадрыжэць усе ў сваіх «кэлерах» — сьмеху вартых і жалю годных «сховішчах»-скляпкох пад гэтымі-ж камянічкамі. Дык хіба цяпер ужо нарэшце можна будзе заснуць і... прачнуцца? А можа якраз наадварот — можа гэта ўжо ня сон, а той прачын-абуджэньне? Абуджэньне ад гэнага жудліва-нудлівага і злавеснага гуду тысячных выраяў сьмерці й зьнішчэньня, што бязупынна, а памаленьку, мэтадычна, не сьпяшаючыся цягнулі й цягнулі былі ды ўсё-проста над галавамі... А гэныя траскатуны-нізалёты, „Tieffliеger"-ы — штогадзіны два апошнія дні... Не, яшчэ балазе, што ўсё абыйшлося пакуль бяз шкодаў і ахвяраў. Цуд проста, што не абарвалася й ня гухнула адтуль на гарадок што небагавое, шчасьце, што й не падкруціўся ніхто з гарадчанаў пад якую шалёную кулю з „Tieffliеger"-а. Няйначай, сама сьвятая Барбара і гэтым разам не папусьціла ў паняверку шчыра адданы ёй гарадок, ацаліла сваёй высокай апекаю... Дык можна было-б ужо пры гэтым і ўздыхнуць із палёгкаю — «Gott sei dank, Gott sei dank» — каб толькі ня...

То-ж бо й то-ня ймелася йшчэ веры, што гэта так-такі ўжо і ўсё, «aus», «vorbei»... То-ж бо й то, калі гэны жудасны гуд толькі-ж як спусьціўся на зямлю й каціўся па ёй яшчэ цяпер гэтым танкавым грукатам. А гэныя чарнаскурыя, з бліскучымі бялкамі вачэй і мясажэрнаю чырваняй таўшчэразных лупаў-страхата... Не, хіба ня сон і не абуджэньне, усяго-ўсяго яшчэ накруціцца можа... I дрыжэць-калаціцца гарадку й ягоным людцам — відаць, ці адзін яшчэ раз...

I раптам тут-жа ўжо ўсе аднагрудна ахнулі: чалавек, што адзін ня туліўся да сьценкі, але зусім спакойна стаяў дагэтуль на саменькім ускрайку ходзішча супраць свае собскае крамкі — але-ж, гэты суважны й сумленны дробны гандляр, сухарукі Кляйнганс — якга рынуў, як доўгі, нага танку, які, пасьля павароткі, сама што разганяў тут сваю груваздкую, валюхатую хаду... Сталася нешта зупроста перад сабою й прасьцютка пад вусяні цяжэразсім неспадзяванае й зусім незразумелае. Навет ці не таму спынілася зараз-жа, за колькі сягнёў, і само грыматлівае гаргарышча, расьцягнуўшы толькі па бруку крывавымі сьлядамі шматкі свае непрадбачанае ахвяры... I зараз-жа пазыскоквала адтуль колькі гэных страшных чорных з аўтаматамі ў руках, замітусіліся, нахінаючыся да крывавых кавалкаў, загергеталі піскліва-танкліва штосьць пасвойму... Адно-ж зблізку не выглядалі зусім на груганоў над сьвяжынаю — дармо, што чорныя — а барждкэй наадварот, пачувалася ў іх ужо штосьць дзіцячае, навет як быццам свойскае. Цмокалі, жваючы сваю заўсёдную жуйку, круцілі каскамі-галавамі... Стала й цэлая калёна адзадзя, надбеглі й з наступной машыны. Ды адразу-ж схамянуліся й гарадчане, падагнаныя кім, ці мо й самі, завіхаючыся з чыста нямецкай спорнасьцяй і маўклівай дысцыплінай у працы, бязь мітусьні й заходзістага бабскага галашаньня падабралі тое, што засталося ад іхнага чалавека, ачысьцілі дарогу... I рушыў зноў далей увесь зялеза-грымотны паход, заціраючы-выгрызаючы вусянямі танкаў чырвоныя пляцьмы на бруку.

I што собіла рынуцца проста ў маглі страшэннае, зусім не канаванае яму сьмерці, што валадарна пхнула туды гэтага сухарукага крамніка? То-ж добра ведалі ўсе-ня быў ён ніколі ніякім «нацы», ані хоць сымпатыкам — наадварот, навет часам любіў уштыліць штосьць упоперак, асабліва ў гаворцы зь якім даверным «аўсьлендарам», да якіх, неўнарай сваім сурозічам, пачуваў і выказваў прыхільнасьць. А апошнімі часамі зусім нядвузначна закідаў-дамаўляўся да жаданага й чаканага яму прыйсьця якіх «Tommi» ці «Ami» (абы толькі ня «Russen»...). I калі стаяў вось так кагадзе, адзін з усіх выдаўшыся далёка наперад, выглядала, няйначай — вітае й запрашае... Дык што-ж гэта-таксама сон? Так і заснуў, стоячы, ды гэтак і рынуў зь месца ў сон вечны? Ці мо зноў — у вабуджэньне? Як у нейкай тэй, усходняй ці што, сьпірытуалістычнай філёзафэме: «Жыцьцё — гэта толькі сон, а сьмерць — абуджэньне»... Абуджэньне — у гэтых крывавых шматкох...

I толькі, прайшоўшы далей, на самую ўскраіну гарадка, давалася разважыцца ад міжвольнае прыкрасьці гэтых першых уражаньняў і думак. Бо тут было ад пачатку й да канца ўсё наадварот: толькі жыцьцё й толькі абуджэньне. Ля вялікае мясцовае малачарні, найбольшага тутэйшага прадпрыёмства-«Betrieb»-у трыўмфавала запраўды, аж шалела ад радасьці, грамада гэтых самых «аўсьлендараў», вітаючы сваіх дачаканых выбаўнікаў. Сыпаліся на іх краскі з усіх, бязьлітасна спустошаных дзеля гэтага, а так дрыжоных гаспадарамі, кагадзе расьцьвілых і запушнелых нямецкіх гародчыкаў (нашае права цяпер!), не перасьціхала бушаваньне выгукаў і вопплескаў. I быццам найбольшыя ордэны заслугі, горда красаваліся на грудзёх — учора яшчэ сарамліва прыхоўваныя — сінія «осты» й жоўтыя «пэсты»... Быў-ткі нарэшце кірмаш і на гэтай вуліцы!

I не стаяў больш перад вачыма, кануў, здаецца, навек у прадоньне няпамяці й сухарукі Кляйнганс у крывавых шматкох, і ўся тая прыглушаная няпэўнасьць — «сон-абуджэньне»... Бо была тут, з усімі разам аж падзіцячу цешылася-сьвяткавала — яна, нядаўна пазнаная ды ўжо адзначаная дзесь у глыбі падсьведамасьці, запалая там — залаціставалосая Раіна, свая Крывічанка, нейкай іроніяй выпадку заклейнаваная — цяпер, праўда, як узнагароджаная — жоўтым лапікам із чорным «Пэ»...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дык чаму-ж усплыло й гэна панура-прыкрае аж цяпер, калі даўно пакінуты і той гарадок, і іншых, больших і меншых, яшчэ абкалацілася колькі, і пара год, як лёду, лягло між тым днём і сяньняшнім гэтым? Ці ня хоча засьціць злавесным сваім даўгім сьценем сьветлыя ўспаміны таго, што адразу-ж за ім, ды глыбей урэзалася ў жыцьцё разьмежавальным рубяжом — заўтрашнім юбілейнай датай?

..Гэтак, пад вечар таго-ж дня зыйшліся невялікай грамадкай суродзічаў, зблізканых яшчэ цясьней супольнаю доляй — уцёкамі ад сьмерці, што ўжо, здаецца, мінула-ткі ўсіх тады ў гэным апошнім прыпынішчы гарадка. Зыйшліся, зусім не змаўляючыся загадзя, самі сабою, бо кажны роўна пачуваў канечнасьць спаткацца й дзяліцца старымі й новымі ўражаньнямі, здогадамі, спадзяваньнямі, ці проста хаця гаварыць, лятуцець, адпачываючы ў цесным гуртку сваіх людзёў. І дзе-ж было зыйсьціся, як ня ў добрага чалавека, музыкі й кампазытара Рамана Рымкі, якому наверх пашчасьціла было наняць такі вялікі, запраўды «панскі» ці «буржуйскі» пакой дый яшчэ ў прыязных нарэдзь, вельмі інтэлігентных гаспадароў — у самога мясцовага лекара. Дык усе пачувалі тут сябе зусім вольна і ў прасторы, і ў настроі. А тут яшчэ, як дзеля надзвычайнага выпадку, гаспадары раздабрухаліся зусім і шчыра пачаставалі ад сябе ўсю кампанію із шматгадовых багатых запасаў свайго вінасховішча — няйначай, прадчуваючы ўжо, што неўзабаве дадуць духу й дарэшцяць да капачкі ўсе гэныя запасы іншыя, зусім непакліканыя й бадай неспадзяваныя тады госьці...

Падхмеленая падзеямі й добрым, даўно нікім няўжываным наагул вінам, загаладамірыла грамадка.

— Я адчуваю, сябры, — натхненна ўстроміўшы вочы паўз усё і ўсіх кудысьці ў даль, мала не дэклямаваў і так заўсёды захоплены, бязумоўны й непапраўны аптыміст (і такі-ж самы кавалер), інжынэр Мікола, — я адчуваю, што перад намі разгорнецца цяпер нейкая зусім новая эра, нейкая, я-б сказаў, музыкальная эра, але, — кіўнуў ён у кампазытараў бок. — Але, што, як ня музыка, як не гармонія найбліжэй і найжаданей цяпер цэламу змучанаму чалавецтву пасьля тае какафоніі сьмерці й зьнішчэньня? «Музыкі, музыкі перш за ўсё!» І загучыць, мусіць загучэць, у тым ліку і для нас, і для нашага народу — новая вялізманая сымфонія, нячуваная яшчэ песьня песьняў... Але, вось пабачыце, — закончыў ён сваёй заўсёднай падмацавальнай формулай, пераходзячы з патасу на звычайную бытавую скарагаворку.

— Каторы раз ты ўжо адчыняеш «новую эру», — глуха, як трэснутым голасам азваўся з глыбі выгоднага фатэлю гарбаценькі Рыгор, вечны студэнт і вечная кантравэрса ня толькі Міколу, а і ўсім, із заўсёдным карценьнем гаварыць усё ўпоперак іншым, абы каму, вялікі скептык і навет цынік. — Я дык наадварот — не разгортаньне чую, а нейкае згортаньне й скручваньне, скурчваньне. І гэта якраз для нас, для нас самых найперш. Ня ведаю, як хто, але я дык сягоньня пераважыў, войстра й канчальна адчуў сябе нарэшце ясна-азначаным э-мі-грантам, — расьцягнуў ён, прыціскаючы, каб больш падчыркнуць гэтае слова. — Бо дасюль яшчэ надвая варажылася: туды-сюды, фокусы вайны, пераменнае ваеннае шчасьце... Цяпер-жа шлюс, як кажуць тут. І ніякая ня «песьня песьняў» загучэць мае нам, а проста сабе-ужо рыпіць звычайнюсенькая, будзённая, нудлівая «разлука»... Дык хіба што гэтатвая «новая эра»? Дык-жа й пачалася яна ці цяперсяужо тады, як ступілі мы першы раз на чужую зямлю. Толькі, што сяньня гэта да цяму дайшло — прынамся, у мяне. Але-ж,

Разлука ты, разлука,
Чужая старана... —

закончыў ён, паспрабаваўшы зацягнуць сваім панурабражджыстым голасам, і ўсе аж міжволі здрыгнуліся, як запраўды ад павеву ня толькі нуды, а й нейкай жудоты бязвыходнасьці.

— Во-во, — падхапіў Рыгораву тэму сам гаспадар-кампазытар, адначасна сягаючы па адну із сваіх нотных папак. Ён зазвычай больш любіў слухаць, як гаварыць, а калі ўжо меў патрэбу выказацца, дык хапаўся за родную сваю стыхію музыкі й песьні. — І я гэта чую, адчуў, і яшчэ раней. Яшчэ нейкі месяц таму... — ён шукаў нечага сярод сваіх нотаў. — Памятаеце, можа, ёсьць у Максіма Багдановіча «Эмігранцкая песьня»?

— Ёсьць на сьвеце такія бадзягі,
Што ня вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сьцягі
Караблёў акіянскага порта, —

зацытаваў адразу-ж вельмі памяткі на вершы, увесь як напханы імі Мікола.

— Во-во, — пацьвердзіў кампазытар, падаючыся з нотным лістком да невялікае фісгармоніі, што была аднэю з найдаражэйшых яму рэчаў ува ўсім абсталяваньні ягонага «буржуйскага» пакою. — Яшчэ зь месяц таму, калі пераглядаў я нек том вершаў паэты, зь якім ніколі не расстаюся, загачыла мяне, што называецца, гэтая «Эмігрантка»... Раней я нек ніколі ля яе ня спыняўся. А тут раптам аж закарцела — на ноты... Ня ведаю, ці мне ўдалося... Можа паслухаем?

— Просім, — згодна сьцьвердзілі ўсе.

Пакуль кампазытар усадаўляўся ля свае фісгармоніі, Рыгор не акінуў, каб не папусьціць гіроніяй на адрыс дрыжонага музыкам інструмэнту:

Стоит древесно,
К стене примкнуто,
Поёт чудесно,
Быв пальцем ткнуто...

— Найвялікшы паэта «вялікага рускага народу» Васіль Традзякоўскі, — пачаў ужо быў ён камэнтаваць сваю цытату, але ўсе дружна зацыкалі, наставіўшыся слухаць музыку.

Кампазытар узяў цягучы й крыху рыплівы на ягонай фісгармоніі акрод і, памагаючы сваім слабым і таксама крыху падобным да тэмбру інструмэнту, сіпаватым галаском, стараўся як мага лепш падаць слухачом свой твор. І дармо, што такі галасок, і што фісгармонія наагул ня зусім пасавала да акампанімэнту ягонае рэчы-уражаньне на ўсіх было проста надзвычайнае. Бо музыка, здавалася, закрануў якраз тыя самыя струны, што так напяліся-нацягнуліся ўва ўсіх сяньня й гатовыя былі ўжо вось-вось загучэць, задрыжэць самі. Гэта былі струны заўсёднае людзкое тугі за новым і нязнаным, за прасторамі тых «краёў незнаёмых» — ды разам із тым — і жальбы па старым і пакінутым, родным і дарагім. А за акордамі акампанімэнту — бы ўдараў раз-по-раз прыбой «хваляў салёных белапеннага сіняга мора» і, здавалася, у ім-жа ці зь ім гуў яшчэ усё той кагадзешні ваенны гуд і рокат, толькі хіба больш і больш аддаляючыся і аддаляючыся, мінаючы, мінуўшы... І з усяго выланялася-выплывала, пакрываючы нарэшце журбой тых маячэньняў «вёсачкай, Нёмнам» — тужліва-безнадзейная нота як-бы тае народнае нашае песьні:

Ой, загуду, за-агуду-у,
Ой, загуду, за-а-агуду,
Што я й
дома-
ня буду,
Ой, ня буду,
ой, ня буду...

Усе маўчалі, пераважываючы ўражаньне кажны ў сабе.

— Але, праўда, — ня «песьня песьняў» — «Эміграцкая песьня», — ціха й засмучона пpаказаў адзін Мікола.

І толькі верны сабе Рыгор ізноў быў усім упоперак.

— Слаба, зусім слаба, — аж злаваў ён. — І словы ня тыя, а музыка — пагатоў... Вы даруйце, што я так проста ў вочы, — павярнуўся ён да кампазытара, ведаючы, што і так усе даруюць, бо йначай не цярпелі-б яго наагул у сваёй грамадзе.

— Першае — ці-ж мы тая калішняя заработкавая эміграцыя, тыя «амэрыканцы», што дзеля хлеба куса...

— Хлеб бывае й духовы, — перапыняючы, паспрабаваў пярэчыць кампазытар.

— Кіньце Вы Ваш «духовы хлеб», — як адсек даланёю Рыгор. — Ну, але наагул. хлеб гэты-Багдановічаў, дык няхай сабе — зь нябожчыка што спагоніш? А вось

сьцягвае словы? «Дадо-ому»... Ці ня мора гэта, само мора, мора-акіян?

Мора. Акіян. Нарэшце...

...Але, найперш — якім уздыхам палёгкі здавалася гэтае чаканае й жаданае «нарэшце»! Ды дармо: ніякага адхланьня, ні на кароткую часінку, ні на малую макулінку... Зноўку тая-ж песьня не з прад гадоў, не арыштанцкая — «эмігранцкая песьня»... — Дый яшчэ магутней, яшчэ настырлівей і гнятлівей.

...Гэтак і было. І тыя злыя прадчуваньні назіркам пайшлі сьцігаваць ад першых-жа крокаў... А як жаласнасьлёзна прасілася яна, Раіна — зусім неразумнае малянё- ужо нат узыходзячы на карабельныя сходкі: «Застанемся, вярнемся, ня хочу, баю-уся» (вось хто так расьцягвае словы...). А тут адразу-ж, яшчэ, як папісанаму, калі ласка — на моры шторм, і лютая гойданка, і — злая морская хвароба ў такім разьюшаньні й разьятраньні — навалілася, круціла й скручвала й без таго кволую ўжо, выценчаную, як сьцень...

...Божа мой, што рабіць, што пачаць? Хоць-бы паваротдык-жа няма ўжо павароту сярод бязьмежжа вады і вады, пашалелай стыхіі. Мые й выкручвае, і палошча сіберная мараніца, іківае галавой, разводзіць рукамі карабельны лекар (усе яны—на адзін капыл, кастамарыя «сьвяцілы»...). Хоць-бы самога як узяло, ці што, мо лягчэй-бы было, падзяліўшы пакуты фізычна, дык не-сталёвы, ці дрыўляны які арганізм толькі кепкуе і з гэтае, таксама «панскае» хваробы... Але, якое тут «панства», калі ўжо пакуты, фізіялёгічныя выявы — аж надта — у гатоўцы... Што, як і праўдаю, жудаснаю праўдаю, абернецца гэты нясьціханны, а ўсё слабейшы й слабейшы стогн: «Памерці—дайце атруты—о, дайце чаго—дайце паме-эрці»... Божа, Божа!

Ён ужо ня мог трываць і сам — стараўся ўцячы пры кажнай зручнасьці хоць на часінку, каб ня бачыць, ня чуць... Ды ўсюды — і ў дзікім шале акіянскае навалы, і ў вар'яцкім ветравым кулдыячаньні, навет у вапанаваным, здаецца, разьмераным тахканьні й пыхканьні вялізманых параплаўных машынаў — усюды назіркам сьцігаваў ўсё той-жа адчайны голас-стогн: «паме-эрці»... І здавалася, што ён ужо даўно чуе гэтую сьмерцявейную, вусьцішную сымфонію гукаў з тым тужлівым і жудлівым ляйтматывам — даўно, аддаўна, проста адвеку. А ці ткі не—ці ня была ўжо яна тады, калі—зноў суворай напаканаванасьцяй выштырвала памяць — калі пераможныя танкі зь цяжкім грукатам каціліся вузкімі й завілымі вулачкамі невялічкага нямецкага гарадка... І — сухарукі Кляйнганс — раптам — як доўгі, проста перад сабою й прасьцютка пад вусяні цяжэразнага танку... І — крывавыя шматкі на бруку... «Паме-эрці»... «Жыцьцё — гэта толькі сон, а сьмерць — абуджэньне»... Ну але, жыцьцё — гэта толькі жудасны сон сярод разбушаванае навалы акіяну... А й далей — ці ня тое-ж адгортае памяць? «Новая эра», кампазытар за фісгармоніяй («быв пальцем ткнуто» — гарбаценькі Рыгор і «разлука») — так, «разлука» і — «эміграцкая песьня»:

І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора...

Бо яшчэ раней, куды раней, адзадзя — было тое-ж, усё тое-ж:

Разьлеглася мора шырока,
І хвалі бушуюць здалі.

Вось-жа вось і падходзіцца, пад'яджджаецца, падплываецца цяпер да гэтага «загінуць у хвалях салёных», бушуючых хвалях... Вось-жа вось — «загінуць» — «паме-эрці»... Сьмерць — абуджэньне...

...Калі яго знайшлі, каб-барждж эй, барждж эй да яе! — ён ужо ведаў, што гэта яно — фінал, абуджэньне. Навет ня пытаўся, не ўглядаўся ў стрывожаны твар нейкае незнаёмае дзяўчынкі — ведаў. Ну але, яна ляжала на прасьціні выпраставаная й супакоенная. Хвалямі сплывалі сьветлазалацістыя валасы — хвалямі, дый змочаныя акіянскімі хвалямі, «хвалямі салёнымі»... Зусім, як тады сухарукі Кляйнганс — проста перад сабой і прасьцютка — не, не пад вусяні ўжо — пад сівыя грабяні разьятранае стыхіі... Ён і бее тлумачэньняў адразу зразумеў і ўявіў сам усё. Ну але, ніхто не дагледзеў, як высьлізнула-выцікалася — а ледзь-жа магла хадзіць! — і на пострап, і — апошнім, пэўна, намаганьнем усіх сілаў — кволаю сьценяй — за борт, у хвалі — «паме-эрці»... Звочылі толькі гэты апошні акт — прорыну ў прабуджэньне, беглі, рынулі адчайныя адважнікі-рызыканты, паляцелі ратавальныя кругі... Ну, але, цела-уратавалі. Мучылі яго яшчэ, ужо няжывое, гайдалі (хіба мала нагойдаў карабель?), «штучнае дыханьне»... То-ж бо й то, што штучнае, а няма ніякае штукі на яе, на самую абуджальніцу — сьмерць... Паме-эрці...

І цяпер — як прарахавала сабе — у мяшок, рыбкам... Ды ці ня ўсёдна цяпер? Усёдна, усяроўна, «egal» — разумееце вы? І ён бязуважна адыйшоўся прочкі — ня было больш чаго глядзець. Бязуважна пайшоў туляцца па пострапах і паверхах, хістаючыся ад гайданкі. Пачуваў, што назіркам сачылі яго — каб хаця не зрабіў тое самае ў вадчаі, у ціхой — думалі, заходзістай роспачы. Хо-няхай сабе сочаць, зробіцца, як будзе трэба, як надыйдзе мамэнт-сыгнал абуджэньня. Ня ўпілнуюць, як і яе не ўпілнавалі (ах, то-ж ён-ён не ўпілнаваў...). Ды-усёдна, усяроўна, egal. Зробіцца. Няхай сабе...

Дзівакі — забягаюць, намагаюцца навет разважыць, разьвесяліць. Што можа разважыць цяпер яго, што не ўпілнаваў, яго-душагуба... Бо ткі-ж гэткі ён, гэта-ён, толькі ён... І чаго прысукаў гэты нейкі палячок, настырлівы аж занадта — «пане, пане»... Ну й пане — панская хвароба, ну і што, няма хваробаў, усе яны — панскія, няма панскіх хваробаў... Няма хваробаў, ёсьць сьмерць. Няма паноў. Таварышы...

Таварыш, мы едзем далёка,
Чымдалей ад нашай зямлі...

...Што ён там вярзе, і хто-вярзе? Ой, ты-ты... апоўзьлік. Мо й цябе туды-рыбкам, раз-два... Ды чакай, пажджы, што, што-о? Га, вар'яцтва, панскае вар'яцтва, ну але, і бабскія плёткі... Вайна-ха! Ведаем, колькі разоў ужо там, на цьвярдой зямлі, проста абабілі вушы: ужо вось-вось, пачалося, у Турэччыне, у Кітаі... Дурніна. А тут-жа, на гэтай чортавай гойдаўцы-пагатоў, адкуль тут? Выдумляюць сабе пацеху. А яму — няма цяпер пацехі... Ну, пэўна, ён ня верыць, як ня верыць цяпер ніўвошта — «ні ў Бога, ні ў чорта» — адно — у вабуджэньне... Гэта й ёсьць абуджэньне? Пане, пане, які пан... Ну, можна й пайсьці, паверыцца — усяроўна, egal. Радысты — свой чалавек, з нашых старонаў? Радысты — свой чалавек, качагар — свой чалавек... Ну, няхай сабе...

Таварыш, ня ў стане я вахту трымаць, —
Сказаў качагар качагару...

...Але ў радыё-кампаніі ўсё-ж ашаламаніла бяспрэчнасьцяй факту: **в-а-й-н-а.** Божа мой, вайна! Тая, што яе чакалі, прарахавалі, заклікалі, сустракалі і — зьнеяраліся, аж пакуль не зьняверыліся канчальна. Вайна — а ён тут, сярод акіяну... Вайна, што адчыніць-ужо нейдзе мо адчыняе вольныя вароты на бацькаўшчыну, а ён — перад носам у сябе, сам захлыснуў гэтыя вароты. Захлыснуў сабе і, галоўна — ёй, што ляцела так на крыльлі тугі туды, «дадо-ому»... Ляцела і падбітаю птушкаю рынула вось — у сьмерць, у сон вечны... У сон — ці ў абуджэньне? Не, у сон, глухі й цёмны, каменны сон... Рынула, бо ён — і толькі ён, душагуб, тхланіў, турыў, сюды патурыў, на ўсьпенены, дзікі прасьцяг, калі — вайна, бацькаўшчына... Патурыў і папхнуў — сам папхнуў — у віры... О, Божа вялікі, навошта й зашто так, зашто?

...Коцяцца, коцяцца з грукатам пераможныя танкі, ужо ня вузкімі завілымі вулачкамі нямецкіх гарадоў, а мо — і ўжо, з самалётаў спушчаныя — шырокімі роднымі шляхамі, палямі... Коціцца вайна, воля — туды — дадому, а карабель — далей ад дому імкне, адносіць, адшпургвае яго й яе, — не, не яе — ейны труп... І ягоны — не, ягоны таксама труп, жывы труп душагуба. Жывы? Дык-жа не — труп ня можа, ня мае права жыць. Дык-жа не-трасцаж, ня ўсочаць, ня ўпілнуюць і ня ўтрымаюць і яго: туды-ж, пад вусяні, пад грабяні, туды, сьледам тым, дарагім і адзіным — у хвалі, у вір галавой... У вір галавой, душагубе! У сон, вечны сон, ці — у вабуджэньне? — глух...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Абудзіся, што з табой! — Ейны твар нахінуўся над ім, і сыпкія сьветлазалацістыя валасы. Ейны твар і — жывы?

— Што з табой? Ты так кідаешся і крычыш немаголас. Мара, страшны сон?

Ейны твар, ейны голас. Бясьцямна спачатку яшчэ талопіўся на яе, і ня мог адразу пазнаць добра няўвыразьненыя ў ранішнім прыцемку абрысы пакою й знаёмых рэчаў. Што яна кажа — сон, страшны сон? Ну але, жыцьцё — гэта толькі сон, страшны сон, а сьмерць...

— Ну, што? Што так глядзіш няпрытомна?

Дык значыць-ткі сон, бо ўсё — як было, і яна, і пакой, і ніякіх хваляў, ніякае гайданкі... Дзякуй Богу — толькі сон. А гэтта — жыцьцё, ня сон. Гэтта — абуджэньне. Жыцьцё — абуджэньне.

— Сьмерць — гэта сон, а жыцьцё — абуджэньне, — закончыў свае думкі ўжо ўголас.

— Ты сьніў сьмерць? — затрывожылася яна. — Маю сьмерць?

— Нашую сьмерць, — адказаў ён, сядаючы на ложку. — І я ведаю цяпер: сьмерць гэта сон, толькі, ведаеш, такі поўны сон, глухі й цёмны, каменны, бязь нічога...

Ён закурыў ды, як мог і прыпамінаў, пачаў расказваць ёй свае думкі і ўявы гэтае начы.

Яна слухала ўважна, усьпёршыся на локаць. А тады чагось моцна задумалася — над сваім чым, ці над гэтым ягоным, ня зусім сувязным расказам?

— Пакінь разок пацягнуць, — папрасіла раптам, агоўтваючыся ад свае задумы й сягаючы рукой па канчар ягонае цыгарэты.

Апошнім часам поўнае свае апатыі да ўсяго яна навет пакінула была зусім курыць. Праўда, і раней ня была цалком самастойным, запраўдным курцом, а проста вось так, «насупалку», як казала сама, дакурвала ў яго часам. Больш забаўляла яе пры гэтым дурасьлівая гульня з дымам, выпушчаньне й нанізваньне ў паветры разнастайных пярсьцёнкаў і іншых фігураў зь яго. Аднак, і прышчэпленая, хоць і маленькай, а ўсё-ж ужо прывычкай патрэбнасьць у гэтым ужо мусіла быць. Дык поўная страта цікавасьці да здавальненьня яе толькі зноў лішне сьветчыла пра нейкую нутраную хваробу, што зьмяняла арганізм і ягоныя ўсталёўваныя ўжо нахілы, хоць, з другога боку й цешыла, бо хаця не памагала, як думаў ён, яшчэ больш разьвівацца гэнай хваробе, высушваць і так памалу высіляны той арганізм. Дык і цяпер, усё-ж падаючы ёй невялічкі ўжо канчар у папяросьніку, ён аднак зазначыў:

— Ня варта табе пачынаць ізноў. Ты-ж была ўжо зусім адзвычаілася і — добра. А цяпер гэта толькі можа пашкодзіць на тваю хваробу, толькі больш яшчэ ссушыць.

Яна не адказала нічога, толькі моцна зацягнулася, нейкі час моўчкі, спакойна й роўна дыхала дымам. А далей раптам заявіла тонам нейкае катэгарычнае пастановы:

— Дык-жа й пачну зноў, і буду курыць цяпер ужо, як трэба. Прынамся, кагадзе бо ўпяршыню пачула ў гэтым нейкі запраўдны смак. Мо якраз таму, што так даўно і ў губу ня брала? А што да шкоды, дык можа якраз наадварот — можа будзе гэта заміж гэных лекаў, што ніяк ня мог прыпісаць той ад свае, як яе... настальгіі... І нагул — ведаеш што — зноў, здаецца, варочаецца пакрысе да мяне смак, запраўдны ранейшы смак да ўсяго жыцьця. Ці гэта ад майго сну, такога моцнага й адсьвяжальнага сяньня, ці ад твайго, ад ягоных прарочых перасьцярогаў... А хвароба — ты-ж сам казаў, якая гэта хвароба? Панская прымха... Зьніме яе цяпер, як рукой, чую гэта, чую зноў смак да жыцьця, — паўтарыла яна яшчэ раз. — Бо запраўды, «жыцьцё — абуджэньне»...

«Салодкі й горкі смак жыцьця», — падумаў ён, прыглядаючыся да яе пытальна зь недаверам, спачатку навет зь нейкай трывогаю, выкліканай гэным ейным катэгарычным тонам. Ды пабачыў і сам: яна й праўда як-бы ачуньвала тут-жа ўвачавідкі, і навет зусім паранейшаму зайрдзелася-паружавела. І хоць гэта, пэўна-ж, барджджэй было ад тэй моцнай зацяжкі дымам — паверылася й яму, што ткі варочаецца да яе гэны «смак да жыцьця», варочаецца само жыцьцё. Гэта-ж бывае, як, калі па пераможаньні небясьпечнага крызісу, пакрысе пачынае йрдзецца-ружавець абліччa безнадзейнага, здавалася, хворага, скідаючы васковую, ды передчасную маску сьмерці й зноў наліваючыся сокам жыцьця. Дык і запраўды — крызіс мінуўся?

Яна зацягнулася глыбака зноў, аж затрашчэў папяросьнік ад моцна распальванага жару апошніх рэштак цыгарэты, і надоўга затрымала дым у сабе. А далей лятуценна прадэкламавала, як-бы навязваючыся да ягонага расказу:

І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора...

і, закінуўшы галаў назад, выдыхнула вузкай істужкай угару дзесь глыбака затойваны, тонка прафільтраваны там, далікатны шызаваты дымок.

— Не, бачыш, — сказала яму, паказваючы на гэную йстужку, — гэта дымам выходзіць дагарэлая злая туга — насланьне тэй настальгіі.

І, страсянуўшы купінаю сваіх сукрыстых і сыпкіх сьветла-залацістых валасоў, абвіла, — зусім, як раней — аднэй рукою яго за шыю, другой датушваючы тымчасам у попелцы вытрасеныя з папяросьніка дробныя рэшткі недакурка — пэўна, таксама-ж апошкі «дагарэлай тугі-настальгіі».

— Дармо, будзем жыць, а ня гінуць ці чэзнуць, — ажыўлена загаварыла, спачатку навет чамусь зашаптала яму на вуха: — Бо няпраўда, што жыцьцё — гэта толькі сон, ці іншае што толькі... Бо ў жыцьці, і толькі ў ім — усё: і сон і абуджэньне, а ў сьмерці — анічым-нічога, глухое, мёртвае й пустое нічога. І ў нашым эмігранцкім жыцьці, у нашай з табой «эмігранцкай песьні» — могуць быць і будуць яшчэ і сны бацькаўшчыны, «вёсачкі, Нёмна», ды няраз — горкае абуджэньне чужыны... Як таксама і сьненьні далекіх «краёў незнаёмых»... А тады... Тады мо нарэшце — як-небудзь — і вялікі прачын — дома, зусім дома... Толькі — жыць, любы, жыць! — выклікала яна, моцна туляючыся сваёй гарачай шчакой да ягонай.

Але раптам ён адхінуў яе ад сябе і, павярнуўшыся тварам, узяў аберуч за плечы, стараючыся зазірнуць як глыбей у вочы.

— Але-ж мы, любка, ізноў забываемся, які ў нас із табою сягоньня дзень — юбілейны дзень! Трэба-ж неяк ды адзначыць яго, пагатоў, што гэта — я веру — адначасна і дзень твайго ачуняньня, звароту да жыцьця, да «смаку жыцьця», як кажаш ты. Праўда, ня памятаючы аб гэтым аж да начы да ўчора, калі згледзеў у календары, я не пасьпеў падрыхтаваць ніякага адмысловага падарунку, і давядзецца табе ўжо як-ніяк, а выбачыць на гэта. Ды хоць адмысловага нічога й няма, я затое хочу прасіць цябе прыняць ад мяне на знак гэтага... адну рэч. Гэны... чортаў «афідавіт». Ты-ж гэтак баішся яго, і выезду, мора. Дык вазьмі-ж цяпер у свае рукі й падзяры, ці спалі, каб не палохаў больш і ня зводзіў нікога.

— Добра, «о-кей», — сказала яна station... становўка па кароткай надуме, таксама пільна ўглядаючыся ў ягоныя вочы. — Давай яго сюды барджджэй!

Ён проста з ложка борзьдзенька скочыў басанож да стала даставаць паперы — праўда-ж, ня было ані-ні жалю аддаць ёй на зьнішчэньне гэты, бясконца жаданы раней і дрыжоны такі «дакумэнт на шчасьце», як быў ён празваўшы (а барджджэй, відаць, якраз наадварот — магчымы прычынак да ўсяго няшчасьця...). Яна тымчасам узяла з начнага століка цыгарэту й закурыла-мо першы раз зусім самастойна. Ткі праўда, пачынае, шэльма «курыць, як трэба». Ну, няхай сабе...

Узяла ад яго паперы й пачала перагортаць іх, пільна перабягаючы вачыма ўвесь тэкст. Як паказваў ёй раней, упяршыню-тады ня выявіла была такой, а бадай і зусім ніякай цікавасьці. Цяпер-жа студыявала ўважліва ўсё, часта наморшчваючы чало — намагаючыся, відаць, як найлепш зразумець чужамоўны тэкст і пры гэтым як-бы памагаючы сабе кажны раз цыгарэтаю. Дым, прапушчаны праз тонкія ноздры, дзвюма роўнымі ручайкамі зьбягаў на паперу і, адбіваючыся ад яе, слаўся-ўздымаўся па ёй пакручастымі завіткамі, быццам засьцілаючы надрукаванае там тонкім вэлюмам імглы аддаленьня й адмаўленьня.

— Добра, — сказала ранейшым станоўкім тонам, скончыўшы перагляд. — «О-кей», — і, абтрэсшы вялікі коптур попелу, зацягнулася зноў ды гаварыла далей з дымам: — Я высака цаню гэты твой сьвяточны падарунак. Але-ж сяньня — супольнае сьвята ў нас абаіх, і я-ж мушу таксама падараваць табе нештачка. Дык вазьмі-ж гэта назад, ужо як мой дар табе, вазьмі й схавай, як было. І няхай будзе з гэтым, як быць мае. Я ўжо яго не баюся. А яшчэ вось табе — на закуску, як «люльку згоды», — усьміхнулася яна, працягаючы дакурапую да палавіны цыгарэту — зь мяне пакуль досыць, накурылася во-ўсмак, — правяла яна пальцам па горле, як паказваюць звычайна сытасьць. — Хоць канчары, здаецца, смачнейшыя за пачаткі. Дык хоць раз я табе пакінула саладзейшага, ня ўсё-ж у цябе прасіць-адбіраць, — прастарэквала сабе далей, боўтаючы спушчанымі з ложка босымі пагамі.

Ён ўзяў тыя ейныя «падарункі», цалуючы тонкія пальцы абедзьвюх рук.

Яна адхінулася зноў на падушкі і, раскінуўшы шырака рукі, праказала, працягваючы сваё ранейшае.

— І будзем жыць зноў супольна, у вадну душу. І яшчэ-ведаеш, кажуць-жа: жыць, як набяжыць. Каб ня мучыць — ні кажны сам сябе, ні адзін аднаго — усялякімі гэтымі...

— «Панскімі хваробамі», — падхапіў ён.

— Ну, але, панскімі хваробамі, — сьцьвердзіла згодна.

— І без нараканьня, бяз страху цягнуць далей сваю — «эмігранцкую песьню»? — паўспытаўся ён, падсядаючы зноў да яе на ложак.

— Ці тут, ці дзе, ці «ў краёх незнаёмых», — адказала яна, абвіваючы аберуч ягоную шыю.

І абое пачуліся зноў зусім-зусім такімі, як былі два гады таму — поўнымі надзеі й навагі пачынальнікамі вялікай і нясьціханай песьні песьняў — песьні жыцьця.

Таго жыцьця, у якім — усё: і сон і абуджэньне, і шчасьце і гора, і бацькаўшчына і «разлука»...

---

**АЛЕСЬ САЛАВЕЙ**

# БУКЕТ

## ВЕРШЫ

### БУКЕТ

**У раскошы цьвіцеў, а ў маркоце завяў,**
**пахаваўшы пагудку...**
**Пры ўспамінах вясны ля ўзварушлівых зьяў**
**мне балюча бяз смутку.**

**І пялёсткаў сухіх, нібы золата дрэў,**
**ня ўтрымаў ён у жмутку...**
**А за ім на душы мой агонь дагарэў —**
**не пакіну я смутку.**

1941.

### БЭЗ

**Там, за сьцяною, прывітаў заранку,**
**разам зь дзяньніцай зацьвіцеў агніста...**
**Я лятуцею: усьміхнуўся ранку,**
**з росаў празрыстых нанізаў маніста.**

**Бэз адзінокі! Мы ў мурох-чужынцы,**
**ды панад імі наш парыў узьняўся.**
**Бачу праз шыбы: на аднэй галінцы,**
**зроку даступнай, — ажыла вясна ўся.**

1943.

* * *

**Даволі спаць. Адчыніш вейкі —**
**вачэй ня змочыць сьлёз раса.**
**Сягоньня песьню салавейкі**
**пачула нівы паласа.**

**Туды з пахмурнага пругменьня**
**праз гай цьвяцісты мы ідзём.**
**Дарунак сонечны — праменьне**
**У поўных прыгаршчах нясём.**

**Зярняты сонца сеем. Глеба**
**усходы згодныя дае:**
**растуць яны, імкнуцца ў неба,**
**сьпяляць пад ім плады свае.**

**І пад прасьвядным ураджаем**
**цьвіцее ўцехаю прастор.**
**Прылівам сілаў адчуваем:**
**вядзе ў жыцьцё няхісткі тор!**

15. 5. 1944.

* * *

**Я прыйшоў ад зямлі, ад людзей**
**у сусьвет — час плыў хваляю хуткай.**
**Ад жыцьця не ўцякаў анідзе**
**у пагоню за таннай пагудкай.**

**О, зямля! Гэта ты, толькі ты**
**жыцьцядайнаю казкай шумцела;**
**ты адна майго зла нераты**
**разрывала, кукобіла цела.**

**Людзі, людзі! Вы — сіла зямлі,**
**розум ейны і ўзьлёту імкненьне,**
**як-жа так вы яе давялі**
**да руіны-сьлядоў спусташэньня?**

**Як-жа так?.. І калі мільгане**
**сьмерці меч — падарожны ёй посах, —**
**да жыцьця ўся істота імкне,**
**а спакой для душы — у нябёсах.**

**Як вяртаецца зь іх — і зямля**
**зноў кунежная; людзі з дагодай**
**засяваюць, надзеі сьпяляць,**
**дні ўсьцяшаюць зямной насалодай.**

**Толькі, толькі тады і жыву,**
**і твару, і душой спачываю,**
**і у сьне, і ня ў сьне — на яву —**
**пра зямлю і людзей я сьпяваю.**

17. 5. 1944.

### ШВАЙЦАРЫЯ

**Думкі сьледам — як рой.**
**Выгінаецца троп, як зьмяя...**
**А за стромай гарой —**
**Ты, Швайцарыя, казка мая!**

**Мне казала яна,**
**гэта казка: «Я сонечны дол**
**залатога руна,**
**я высокіх узвышшаў анёл.**

**«Пад паглядам маім**
**думкі сьмелыя лынуць ракой,**
**Зь імі — праўда, ня дым,**
**зь імі — доля, сугодны спакой».**

**...На яе паглядзець**
**я хачу хоць з высокай гары.**
**Пачынае хмурнець.**
**Палыскуе маланка ўгары.**

**Вецер скалы скрабе,**
**дождж бубніць ,як удары кап'я...**
**Не пабачыў Цябе**
**праз нахмуранасьць, казка мая!**

Форальбэрг, 1946.

* * *

З мройнай задумай моўкне бор.
мату пад ногі сьцеле сад.
З дрэваў скідае лістапад
 найраскашнейшы іхны ўбор,
жорсткім іржышчам, як сілом,
ловіць ён лісьце за сялом.

Смутак таполяў і бяроз,
змрочнасьць каштанаў, хмурасьць ліп.
Зорыш наўкола... Жальны ўсхліп?
Сьлёзы, што вецер зь лісьцем строс?
Радасьць і ўсьмешкі, ці наслань?
Гмур і маркота, ці талань?..

Гэтак нядаўна высь вітаў,
сяньня ў развазе долу рад;
заўтра шукацьме твой пагляд
сьцішы, спакою, мяккіх траў.
Але ці ўздымеш ты спад ног
тое, што ўбачыць шчэ ня змог?

Найкраскашнейшы чар-убор
з дрэваў скідае лістапад...
Знаеш узьлёты, іхны спад
ломіш дуб-волат, мал-чабор:
папараць бачыш, а ня цьвет —
зрокам няўлоўны панадсьвет.

1946.

## СЬНЕЖАНЬ

Ты прыйшоў... Хто, няласкавы,
нястрыманасьць зьвязаў?..
У прастор, у сьвет казкавы
ты свой шлях паказаў.

Зашумеў шугавеяю,
разаслаўся радном...
І няўжо ня сумею я
быць ізь сьнежанскім днём?

Ці адчую, як шчыплецца
Дзед Мароз (колькі ўцех!)?..
І лятае і сыплецца,
і мітусіцца сьнег;

шлях іскрысты ў сьвет казкавы
разаслаў, паказаў.
Хто, суровы, няласкавы,
нястрыманасьць зьвязаў?

І хіба ў непасталасьці
маладыя гады?
І няўжо я із сталасьцю
падружыў назаўжды?

Сталасьць, сталасьць хаморную
абыйду, абміну,
і маленства задорнае
 даганю я, вярну.

Перарэжу сьцяжынкамі
поле сьнежнае, гаць,
з пухавымі сьняжынкамі
я пайду танцаваць.

Панясуся ў сьвет казкавы —
дзень там сьветлы зазьзяў...
Хто, суровы, няласкавы
нястрыманасьць зьвязаў?

1943.

## МАЛЕНСТВА

Пад бельлю дрэвы маўчаць прарочa,
ля хаты ходзіць мароз дзябёлы...
А ён праз шыбы пабачыць хоча
сьнягоў сувоі — такі вясёлы.

На сьцежцы ежу знайшла сініца,
працяглым ветрам зіма ўздыхае.
Глядзіць, глядзіць ён, не наглядзіцца,
сьмяецца, ручкай, як птах, махае.

Мой сынку, сынку! І я з табою
такім пацешным, як ты, раблюся.
Ваюю сьмела із злой зімою,
імчуся ў звабнасьць па сьнежным пусе.

І за сініцай, за госьцяй з гаю —
хачу ўвагнацца — няўціхны, жвавы,
халодны вецер з двара ганяю,
у снох вітаю ўсясьвет цікавы.

Адплюшчу вочы... О дайце змогу
мінуць няспогадзь — пары шаленства! —
І я знаходжу сваю дарогу
у хорам сьветлы майго маленства.

1946.

## ЖЫЦЬ

На ейнае зьяўленьне — яскравую зарніцу —
глядзеў, нібы на шчасьце, і быў я не адзін:
усклікам: «ляля! ляля!» — спаткаў сваю сястрыцу
грыбок падгадаваны — усьцешаны мой сын.

Смутлівы позірк маці... Распачнае будзёньне...
Ці праўда — я шчасьлівы? Ці шчасьце — сны прыкрас?
Малыя птушаняты! Вы радыя сягоньня.
А як-жа, як-жа заўтра? Ці радавацьме вас?

Цяпер вам у калыбцы — раздольле, шмат прастору,
а станеце на ногі — і цесным будзе сьвет:
прыгоды сноў разьвее, як дробную атору,
па вёснах не пакіне ні знаку, ні прыкмет.

Ці праўда — я шчасьлівы?.. Дзіцячы сподум сына,
ягоных адчуваньняў, здавольля разам зь ім...
Чакае вас няўцеха, трывожная часіна.
Што скажаце на радасьць тады бацьком сваім?

Ці скажаце?.. Хай вісьнуць няўмольныя пагрозы —
а несьмяротнасьць грымне: жыцьця не заглушыць!
Махне крылом узьлёт ваш праз мужнасьць, не празь сьлёзы:
я зь цясніны ірвуся, каб жыць, каб жыць, каб жыць!

1947.

* * *

(На матыў Г. Гайнэ)

Пад змрокам жутлых перагас
твой дзень пагас.
Але ня згінуць у глухмені
сьвятла збуджальнага праменьні

Зладум, я ведаю, стакрат
нашкодзіць рад,
каб зачыніць навекі дзьверы
з пустэльні цемры і зьняверы.

О ня пушчай ягоных ног
на свой парог.
Тваё жыцьцё, тваё цярпеньне —
да вёснаў сонечных імкненьне.

1947.

* * *

(Паводля Гайнэ)

Зазьзяла неба, дол змаўкае ў сьне.
Ня гасьне зорка, шчасьце зычыць мне,
прарочыць новы дзень з высі —
о, ня хлусі!

Як месяц — мору, так душы маёй
ты шэпчаш словы казкі залатой
і кажаш — лёт увысь дасі —
о, ня хлусі!

1947.

## САНЭТЫ

### ЯШЧЭ НЯ МОЎКНУЦЬ...

Яшчэ ня моўкнуць стройныя санэты...
І супіць бровы хісткі век атому,
і ў нашы рукі хаасную ўтому
упарта сунуць модныя паэты.

Ды ў снох ня сьвянуць збожжавыя леты,
куток праўдзівы продкавага дому,
паклон удзячны спогаду зямному,
малітвы шчырай пошуг у сусьветы.

А вы жадалі-б зь векапомных стромаў,
культураў даўных зьмесьці веліч томаў?..
Пайду няўхільна сумны, адзінокі

(у суме — праўда, ў адзіноцтве — сіла)
туды, дзе думка клікала, будзіла,
дзе вам згібеньне прараклі прарокі.

1947.

### ЦЕМРА

Сьвятлу пагібель прагрымяць імгненна,
мана спапеліць вашыя аблоні.
А вас цікавяць рук маіх далоні?
Мазоль свай жорсткі я здабыў сумленна...

І мора дужым рада бурапенна,
імклівай хваляй у нязнанасьць гоне.
І гінуць людзі — іх зьмяняюць коні.
І цёмнай сілай дыхае гэенна.

А недасьпелы ападае колас,
а непачуты замаўкае голас.
Паўзе аблуда іхны сьлед зацерці.

Ты іх мінаеш — ня шукай збавеньня,
ты іх абходзіш — спатыкай згібеньне,
мацуй на скон свой валадарства сьмерці.

1947.

### ЯК ВАС...

Як вас прысыпле глейкі груд магілы,
ці хто стрывае ў сьвеце завіруху?
Душа — ня цела — абмінацьме скруху
аж там, дзе яснуць зьзяйныя сьвяцілы.

Над пусткай долі шчэ разгорне крылы,
як ён спачыне ад п'янога руху.
Абдорыць глебу чыстым зернем духу —
жывым насеньнем несьмяротнай сілы.

Яно ў тваім-жа неспакойным сэрцы
расло, буйнела, каб ня сьцерлі гэрцы, —
ты сам кунежыў, не аддаўшы звадам.

На месцы прышлых папялоў плянэты
зь яго пад сонцам зноў узыйдуць кветы —
пышнецьмуць буйна вылешчаным садам.

1947.

---

Л. ВАРОНІЧ

# ПРАКЛЯТЫ СТЭП

**(ФРАГМЭНТ З АПОВЕСЬЦІ).**

Начныя сьцені пахінуліся і, разьбіваючыся на дробныя частачкі, слабеючы й бледнучы, крок па кроку адступілі ў далёкія, бязьмежныя прасторы. Сьпераду прамільгнула зыркая чырвоная каса, спынілася і, змацаваўшыся крыху, выпусьціла на кругавід вялікі залаты дыск яскравага й суровага валадара гэтых шырокіх прастораў — казахстанскага сонца.

Сонечныя косы борзда выступілі ў паход супраць начы, і хутка ўжо ня было аніводнага сьледу начнага. Ды навет сьвежасьць радаснае раніцы ня была знаная ў гэтым краі. За колькі часінак ужо панавала звычайная летнімі месяцамі цяжкая бязьлітасная сьпёка.

Сонечныя косы асьвяцілі шматкі рудое, як-бы паржавелае, глебы, на якой дзе-ня-дзе стырчэлі ўжо засохлыя сьцяблiны калючае, калянае травы, што на працягу кароткае веснавое пары пасьпела прайсьці свой недаўгі жыцьцёвы шлях і да гарачых чырвенскіх дзён даўно ўжо была мёртвай.

Колькі мог бачыць чалавечы зрок, усюды, на дзесяткі кілёмэтраў навокал, быў усё той-жа малюнак: рудая, даўно засохлая зямля і на ёй такія-ж рудыя, зь лёгкім толькі зелянавым адценьнем, рэдкія копы таксама даўно засохлае травы.

Моцны зрыў гарачага ветру пранёс сваё дыханьне стэпам, зашамрэў сухімі сьцяблінамі, падкаціў колькі цьвярдых грудак зямлі і зноў сьціх. І зноў замоўк стэп, быццам на ягоным прасторы зусім ня было праяваў жыцьця.

Але першае даймо было зманнае. Жыцьцё было й тут, у далёкім куце пустэлі, за тысячы кілёмэтраў на ўсход ад грудаватых Уральскіх гораў, у стэпе, які Расейцы завуць «галодным», мясцовыя жыхары — казахі — «праклятым». Вось дрыгатнула з сухім трэскам сьцябліна на бліжняй купцы калішняе травы, і відаць было, як вялікі буры павук на высокіх валахатых нагах хутка перабег сюды й схаваўся ў рэштках куста. Ды адразу-ж выскачыў адтуль назад і падрыхтаваўся да бою. Трава зашамрэла яшчэ й выявіла невялічкую чорную кузурку, крыху падобную да нейкага сухаземнага рачка. Гэтая люта растапырыла свае клюшні й высока ўзьняла канец хваста, напоўненага сьмерцяносным атрутай.

Фалянга, — бо гэтак завецца вялікі валахаты павук, — ня вельмі баіцца рачка-скарпіёна, яна сама мае атруту. Аднак, хутка усё-ж яна зьмяніла свой намер бою зь ім і адступіла ўбок, каб зыйсьці з шляху новага ворага — вялікае, жоўтае гадзюкі, што, высака ўзьняўшы галаў, не хаваючыся, — каго і чаго палохацца ў далёкіх бязьлюдных стэпавых прасторах вялікай жоўтай гадзіне? — прапаўзла да шырокага, таксама бурага, каменя, і ўзьлезла на ягоны ўзьверх, каб адпачыць і адагрэць сваю сьцюдзёную кроў пад пякучым сьвятлом сонца.

Скарпіён спусьціў свой хвост і зноў палез, зашыўся ў карэньне сухіх калючак. І зноў ня было відаць, ня было чуваць аніякіх праяваў жыцьця. Толькі вецер ад часу да часу шамрэў сухімі сьцяблінамі й гарачымі датыканьнямі

сваймі яшчэ больш і больш засушваў і без таго быццам адвеку сухую глебу.

— «Дзе канчаецца сьцяга, там сьцеражэ цябе сьмерць», — кажа стэпавае прыслоўе. Толькі цяпер зразумеў усю справядлівасьць гэтых словаў чалавек, які ўжо шмат гадзінаў ішоў безь сьцягі. Спачатку яму гэта навет падабалася: для зьбеглага сьцежка магла быць згубнай, бо пагоня павінна была кіравацца якраз нячастымі стэпавымі сьцяжынкамі. Аднак, ужо хутка зразумеў ён, што ў пустэлі сьцяга — гэта ня толькі шлях да далёкага выхаду ў залюдненую мясцовасьць, але й кірунак да вады, магчымай ежы, бясьпечнага спачынку. Якраз — да вады. Колькі кавалкаў сухога хлеба зь лягернага рацыёну дагэтуль больш-менш задавальнялі ягоныя патрэбы ў ежы. Горш было із спачынкам, бо ў вадзінотных стэпавых зямлянках ці ў пакінутых на летні час нізкіх гліняных будынках казахскіх зімовак можна было, зачыніўшыся нанач, хоць у нейкай меры пачуваць сябе ў бясьпецы ад злых і няпрыхільных чалавеку жыхароў галоднага стэпу. Бо сухая, рудая зямля, быццам каб памсьціцца за адвечнае няшчасьце сваё, параджае атрутных гадаў і кузурак. Скарпіёны й фалянгі, жоўтыя гадзюкі, якіх так цяжка распазнаць на жоўтым-жа фоне рудое глебы, ды найбольшы страх стэпавых прастораў — невялікі, быццам-бы зусім просты, звычайны павучок, пры вестцы пра якога ў паніцы здымаюцца із свайго месца казахскія аўлы й зьмяняюць свой шлях стэпавыя караваны — карапурт *) — усе яны нясуць у сабе сьмерць прыбышу.

Штовечару, калі ночная цемра борзда зьмяняла колеры сонечнага дня, калі стэп як-бы аджываў, калі тысячы стэпавых грызуноў - тушканчыкаў агалошвалі яго сваім рэзкім, але тым-жа самым часам і нейкім бадзёрым сьвістам, — пачыналася трывога й мука чалавека, які мусіў выбраць сабе месца на кароткі спачынак.

Як выбраць месца, бясьпечнае ад сьмерцяносных пакусаў атрутных стэпавых жыхароў, якія ахоўваюць спакой свае зямлі ад прыходу дзёрзкіх людзей, што будуюць тут шляхі й чыгункі, разрываюць грудзі зямлі й шукаюць там медзь і волава, і цыну, і вугальле, ставяць электрастанцыі й пачынаюць узводзіць муры вялікіх хвабрычных гмахаў? Такога бясьпечнага месца ў пустэлі няма, і таму йдзе цяжкой хадой у варожай ночнай цемры чалавек, палохаючы даўганогіх тушканчыкаў, што высьвістваюць яму свой пратэст супраць ягонага зьяўленьня, а мо — рэзкім сьвістам сваім зьлева й справа, сьпераду й адзадля выяўляюць сваё зьдзіўленьне й зацікаўленьне. Нарэшце, зусім бязь сілы, падае ён на зямлю й засынае цяжкім, неспакойным сном, здрыгаючыся ад кажнага найменшага шолаху ці трэску.

Цяжкія й трывожныя сны не даюць адпачынку. Сьніцца дні арышту й допытаў, сьніцца даўгія, даўгія дні працы ў далёкай няволі, сьніцца пагоня. І зь енкам і крыкам прачынаецца ён, каб, крыху супакоіўшыся, зноў забыцца ў трывожным сьне.

Ды йшчэ больш цяжкімі былі іншыя сны. Лясы й нівы роднага краю разгорталіся перад ім ува ўсім харасьцьве сваім. Сьветлыя рэчкі зь зялёнымі берагамі ціха нясуць свае празрыстыя воды, ледзь палохае рэчную плынь пяшчотны ветрык, што нясе пах сьвежа скошанага сена і ўзьбярэжнае лазы. І зноў вада — у шырокай люстранай паверхні ціхіх вазёраў адбіваецца сіняе роднае неба й белыя каўзлакі воблакаў на ім. І яшчэ цурчаць, пераскокваючы з каменя на камень, гаманкія воды вясёлых ручайкоў. Яны так блізка. Вось падбягае да іх уцякач, вось набірае поўныя прыгаршчы празрыстае, чыстае, сьцюдзёнае вадзіцы, падносіць іх да засьмяглых вуснаў сваіх... і адразу зьнікае ўсё, а заміж вады — навокал бясконца прасторы цёмнае пустэлі.

Зусім разьбіты ўставаў ён пасьля трывожнае начы ды йшоў усё далей і далей на ўсход. Ён змушаў сябе верыць, што ўжо хутка разгорнуцца перад ім ува ўсім пышным харасьцьве сваім даўгія ланцугі засьнежаных гораў Цянь-Шаню. За гарамі-ж чакае на яго воля. Але гораў усё ня было відаць, а сілы ягоныя ўсё слабелі, і думкі былі запоўненыя толькі ўспамінамі пра ваду, нясьцерпным жаданьнем змачыць ў ёй свае засьмяглыя вусны. Ды ня было-ж на ягоным шляху аніводнага ручайка, ці калодзежу, ці крыніцы. Прасторы сухое рудое зямлі, здавалася, завалодалі ўсім сьветам і ня было ім ні мяжы, ні канца.

Спакваля ўсё слабелі й слабелі сілы. Усё больш і больш падгіналіся ногі й круцілася ў галаве. Усё цяжэйшым адчувалася яму ягонае цела. Усё часьцей і часьцей сядаў ён на першы-лепшы камень ці нейкую купінку, каб адпачыць хоць колькі кароткіх часінак.

Вось і цяпер, цяжка адсопваючыся, усёй вагой свайго цела сьпіраючыся на палку, ён змушае сябе зрабіць яшчэ колькі крокаў, каб апусьціць сваё сьцяжэлае цела на шырокі буры камень, які згледзелі ягоныя стомленыя вочы пасярод колькіх кусьцікаў сухіх калючак. Ён робіць пару крокаў, ён робіць яшчэ крок...

Цяжка йдучы, думкі не адразу рэагуюць на тое, што сталася. Спачатку — толькі адчуваньне болю ў назе. Потым пачуўся нейкі ціхі сьвіст і, угледзеўшыся, чалавек пабачыў жоўтае даўгое цела, што, зьвіваючыся, хутка адпаўзала ад яго ўбок. Праз пракушаную тканіну нагавіцаў ужо прасочвалася кроў...

Чалавек цяжка асеў на зьвольнены цяпер буры камень. Ён не пагнаўся за гадзюкай. Лена прамільгнула думка, што ў такіх выпадках трэба высмактаць кроў з раны. Ён адразу адкінуў гэтую думку, гэтую спакусу. Навошта? Дык-жа час ужо вызнаць, што ягонаму шляху ўжо надходзяць канцы. Ужо ня мае ён сілы йсьці наперад па бясконцых прасторах пустэлі. Ужо ня мае ён сілы цярпець цяжкую муку сьмяротнае смагі. І мо лепш, што гэтая прыгода каля бурага каменя прысьпяшае яму пажаданы канец змаганьня.

Нага значна пачала ўспухаць. У галаве адчувалася гарачка. Перад распаленымі вачыма пачалі насіцца вагняныя кругі. І здавалася чалавеку, што гэныя кругі — гэта адбіткі пякучага, што паліць усё навокал, сонца, — таго сонца, якое так пяшчотна ўмела кунежыць ягонае цела там, на далёкай радзіме, але тут было суровым, жудасным, бязьлітасным ворагам...

Моцным высілкам волі перамог чалавек сваю слабасьць, яшчэ раз апанаваў сабой і азірнуўся навокал. Навокал быў усё той-жа малюнак бяскрайнае пустэлі. Варожая яму, яна адпачывала пад пякучымі косамі сонца, і зноў ня было відаць на ёй аніводнае праявы жыцьця. Памогі ня можна было чакаць, і чалавек не чакаў на яе. Гарачая пустэля быццам сьцерагла ягоныя апошнія часіны, каб прыняць цела яго навекі ў лона свае, засыпаць пяском у часе першага-ж бурану, супакоіць, даць адпачыць назаўсёды.

Навокал было ціха, і нярухомай ляжала зямля. Але каля бліжэйшага кусту вочы хворага пабачылі вялікага, жоўтага павука, які ціхенька сядзеў і быццам разглядаў яго. Быццам сьцярог ён сваю ахвяру, якой няма ўжо куды ўцячы. Чалавек здрыгнуўся: ён ведаў, што фалянга жывіцца трупным мясам і што вялікі павук на валахатых нагах толькі чакае на тое, каб ён памёр, каб падбегчы да нярухомага цела і ўзглабацца на яго. А можа ён ня будзе чакаць на ягоную сьмерць, можа ён пачне адразу? Дзікі сполах апанаваў усімі пачуцьцямі чалавека, і ў вапошнім змаганьні сваім за жыцьцё ён узьняўся з каменя, ня ўтрымаўся на нагах, паваліўся, але папоўз далей і далей. Ён здолеў прапаўзьці ўсяго колькі крокаў... Скрывянелыя пальцы апошнім сутаргавым высілкам спрабавалі ўпіцца ў калянае цела гарачае зямлі... і — спыніліся. . . . . . . . . . . . . . . .

Мацей Каліноўскі прачнуўся на мяккой авечай поўсьці ў утульнай юрце. У галаве яшчэ крыху гуло. Ён пабачыў, што на яго зь цікавасьцяй і нейкай своеасаблівай пяшчотай глядзелі вочы казахскае дзяўчыны. Ейная рука пяшчотна папраўляла ягоную падушку і паднесла яму «кісэ», гляк салонаватае — але такое пажаданае — вады.

І чалавек зразумеў, што ня ўсё яшчэ скончана, што перад ім ізноў ляжыць даўгі жыцьцёвы шлях. І на гэтым даўгім шляху, у шырокім Божым сьвеце, можа ён спаткаць ня толькі страшнога ворага, але — мо зусім нечакана — і сябру, як спаткаў ён нявёдамых сяброў, якія адшукалі і ўратавалі яго ў бязьмежнай пустэлі праклятага стэпу.

---

*) «Карапурт» паказахску — «чорная сьмерць».

У. ДУБОЎКА

# ЗЬ НЕДРУКАВАНАЕ СПАДЧЫНЫ

* * *

...Забыўся ты. Схіліўся на далоні...
Язда... шляхі — і водбліскі пагоні...
Забыўся ты — галубіш сьвет шырокі,
Ня чуеш варты няспынянай крокі...
Забыўся ты... Табе ўсё воля сьніцца...
Мой брат! Ці-ж сьвет увесь — вязьніца?

1931

## ЗРАДНІКАМ

Вы, што звыклі поўзаць ракам
і на задніх танчыць лапках
перад кажным небаракам,
што трымае з маслам «папку»,
вы, прасякнутыя брудам
ад пяты да самай шыі,
звыклі біць тых, што пад спудам,
ліць на бліжняга памыі, —

дзе ваш сорам чалавечы,
дзе павага да людзіны?
Як ад вас нам асьцярэгчы
гонар нашае краіны?

Месца ваша ў ніцалозьзі,
ганьба вам наканавана,
бо пры вашай дапамозе
Бацькаўшчына ўкрыжавана...

1931

---

НІНА ЗМАГАРКА

# ЛІСТ СЫНУ

У шэрае памешканьне праз малое вакенца памалу прабівалася блядое сьвятло лістападаўскае раніцы. Гадзіньнік блізкое сьвятыні прабіў 9, але сьвятла было мала, каб разгледзець і пазнаць твары людзей, якія блізу ня розьніліся ад шэрых посьцілак ложкаў.

Гэта былі выгнанцы-змагары, якія, згубіўшы змаганьне й бацькаўшчыну, чакалі цяпер у чужой краіне выдачы варагом. У правым куце пакою, дзе ляжаў старшыня Дубіч, час ад часу гаманілі. Сказы былі нязьвязаныя, абарваныя, на якія Дубіч заўсёды адказваў аднаслоўна: трус. Калі Дубіч паўтараў гэтае слова 3-4 разы, на часіну супакойвалася. Тады, за тры ложкі далей слаба ўзьнялася нейкая шэрая постаць і пачала шэптам горача казаць:

— Чаго мы дасягнулі, скажы ты сам? Дык кажы, калі ты яшчэ ня страціў розуму! Ты думаеш, што дзеля колькіх наравістых чалавекаў, якія самахоць паміраюць з голаду, сьвет пашаволіць хоць малым пальчыкам, каб аддаць належную ім праўду?

— Сваю праўду мы дастанем тамака, за Эльбай, не палохайся, — адказаў з усьмешкай другі. — Сваё права й праўду памерці, як сабакам.

— Чатырнаццаць дзён ужо мінула, хутка нас ня стане. Таму... Гм, ці-ж у рэшце рэштаў ня ўсёроўна, як паміраць — з голаду ці ад рукі ворага? Уся розьніца — колькі дзён раней ці пазьней. Таму я — мы хочам узяць назад сваё абяцаньне і —

— прыймаць страву, — скончыў нехта іншы .

На мамэнт у памешканьні быў нейкі супакой, што можна было чуць навет найлягчэйшае дыханьне. Старшыня Дубіч маўчаў. У другім куце нехта нецярпліва выкрыкваў.

— Калі ты яшчэ чалавек, дык кажы. Маё нутро гарыць, а язык робіцца сухім, як трэска; біцьця сэрца я блізу ня чую. Увушшу звоніць, а чырвоныя зоркі мітусяцца перад вачыма. Дзесьці на сьвеце на мяне чакае жонка з трыма дзеткамі. Як яна іх выгадуе? Каб я быў дужым, я-б яшчэ меў надзею магчыма застацца жывым. Але я хворы.

— Каб я быў дужым, дык спрабаваў-бы ўцякаць, — умяшаўся іншы, закідаючы ад сябе.

— Спачатку казалі, што на сёмы дзень нешта здарыцца, а сяньня ўжо пятнаццаты дзень. Ці хто з нас ведае, колькі чалавек можа вытрываць бязь ежы?

— У Індыі адзін факір закапаўся ў зямлю й пражыў трыццаць год.

— Не пляці дурнота, — закінуў нехта.

— Мне хочацца шклянку сьцюдзёнае вады, гэткае сьцюдзёнае, каб звонку шклянка была-б у расе. І яшчэ — зьесьці талерку кіслае капусты ды кавалак сьвініны. Гэта дало-б сілы плюнуць у вочы нашым суседзям за Эльбай.

— Ня ты сам суліў, што сяньня да дзесятае гадзіны нешта выясьніцца? Дзе ты ўзяў тэрмін? Ці ня была гэта толькі мана, каб працягнуць нашае безнадзейнае галаданьне?

— Магчыма, — ціха адказаў старшыня Дубіч.

Напружаны слых сяброў пачуў у гэтым слове першы сумлеў. З усіх бакоў пасыпаліся войстрыя словы дакору. Хворыя людзі, якія самахоць далучыліся да заклiку старшыні Дубіча абвесьціць галадоўку, каб гэтак пратэставаць супраць выдачы ворагу, цяпер у сваім няшчасьці й роспачы пачалі шукаць вінаватага.

Тая самая шэрая постаць, якая пачала гаманіць, ізноў узьнялася і ўжо спакайнейшым голасам цягнула:

— Падумай сам, Дубіч: хто дастане меншую кару — ці той, хто ўпіраецца, ці той, хто прызнаецца? Зразумела, той, хто прызнаецца. А што мы робім? Пагражаючы галоднай сьмерцяй, мы асуджаем самых сябе ўваччу варагоў. Га, калі самахоць паміраюць, дык значыць маюць вялікія грахі, каб іх, выданых варагом, яшчэ шкадавалі. Гэта ясна. Вынік: упіраючыся, мы робім блага толькі самі сабе.

— Што ты балбочаш аб грахох, боўдзіла, — закінуў нехта. — Калі нехта мае за грэшніка змагара ці ваяку, які,

пакліканы бараніць сваю краіну й народ, б'ецца з ворагам, дык трэба спытацца, ці грашыць перш улада, заклікаючы людзей на зброі. Тэму сьпрок, кінь стагнаць аб шкадаваньні, грахох і прызнаньні. Нам ня трэба жаласьці, а праўда.

— Чакаючы свае праўды, ты здохнеш хутчэй. Ведаеш прыказку: дзе была праўда, там вырас... — выкінуў у злосьці папярэдні й хацеў плюнуць, але рот быў сухі.

— Не кажы, — ціха казаў першы. — Чалавеку трэба больш жаласьці, чым праўды. Што гэта праўда ў людзей? Кажны мае сваю праўду. Сіла, якая выдае, мае сваю праўду, і сіла, якая зьнішчае, ізноў-жа сваю. А мерка праўды толькі адна: не рабі іншаму таго, чаго не жадаеш, каб табе рабілі.

— Кіньце. Мне больш нічога ня трэба, толькі глыток вады й кавалачак хлеба. Няма ні Бога, ні праўды, ні справядлівасьці!

— Не багалаіць! — злосна крыкнуў старшыня Дубіч. — Ці яшчэ мала гора?

Ізноў на часіну настала цішыня. Тады нехта іншы, схіліўшыся да суседняга ложка, зьвярнуўся да сябры:

— Чаго глядзіш у столь, хлопча, ды маўчыш? Можа цішком глынуў вады ды зьеў кавалачак хлеба? Можа яшчэ маеш прыхаваны кавалачак?

Але хлопчык, да якога звараччаліся, не адказваў.

— Скажы праўду: ня еў цішком? Ну, кажы, я цябе ня выдам. Малады-ж, жыць хочацца, га? Хлеб? Адну скарыначку? Калі маеш скарыначку, дык смакчы яе гадзінамі, тады не памрэш. — Ну, добра. Дапусьцім, што ты ня еў. Але тады скажы ты мне, як гэта ты можаш глядзець у столь і не стагнаць?

— Я паўтараю матэматычныя формулы й тэарэмы. Гэтымі днямі дайшоў да трэйцяе клясы гімназіі. Летась я скончыў-бы гімназію. Не ўдалося. Пайшоў бараніць народ і край. Сяньня цэлую раніцу спрабую ўспомніць тэарэму Пітагора, але не магу. У падручніку ў левым кутку балоны. Гэта вельмі лёгкая тэарэма, ды ніяк не магу ўспомніць. Ці ня ведае хто, спадары, тэарамы Пігагора?

— Хлопча, ты пачаў вар'яцець, — уставіў нехта. — Я ведаю толькі дзьве тэарэмы або формулы. Першая: хлеб плюс вада — гэта жыцьцё; другая — мінус хлеб, мінус вада раўняецца сьмерці... Хлопча, што з табою сталася? Хлопча, паслухай! Схавай твар. Ня плач, хлопча. Ці не разумееш жартаў?

Але малады змагар, схаваўшы твар у саламяны кулёк, маўчаў.

Старшыня Дубіч павярнуўся ў бок хлопца й сказаў:

— Кавалёнак, калі ня можаш цяпер успомніць тэарэму Пітагора, паўтарай іншую, усёроўна якую, але пачынай адразу-ж, не чакаючы. Лічы, разьлічвай, нешта рабі. Табе трэба скончыць гімназію, і ты скончыш. Ня губляй дарэмна ні аднае часіны. Час — гэта твая маемасьць і будучыня.

Але хлопчык маўчаў. Плечы ягоныя ўздрыгвалі. Чулася толькі дыханьне хлапчыны, а абедзьве рукі схаваліся ў валасох.

У пакоі былі моўчкі. Тады той, які надовечы казаў, што ня хоча больш ні праўды, ні спачуцьця, а толькі шклянку вады, сьцяўшы зубы сказаў:

— І дзяцей не шкадуюць! Божа на небе, ці ня бачыш, што дзеецца на тваёй зямлі?!

Шэрыя постаці захісталіся, як ад раптоўнай віхуры, якая ўварвалася ў балотнае возера. Іншы стагнаў, іншы лаяўся, іншы сьмяяўся несваім голасам. Нехта адламаў нагою ад падмурку войстры кавалак цагліны і пачаў ім скрабаць сваю левую руку. Старшыня Дубіч выхапіў цагліну ды кінуў у кут із словамі: «Яшчэ ня прыйшоў той час, пачакай, пацярпі». Затым ён падыйшоў да хлапца, які дагэтуль ляжаў схаваўшы твар у саламяны кулёк.

— Кавалёнак! Слухай, Кавалёнак! Ці ня можаш ты мяне паслухаць?

Хлапец узьняў галаву, але хаваў твар ад старшыні.

— Я хачу паслаць ліст свайму сыну. Ці ня можаш ты напісаць? Левай рукой яшчэ не навучыўся пісаць, а правай я ня маю. Хадзі, Кавалёнак, я буду табе дыктаваць. Паперу й аловак я ўжо дастаў.

Хлапец устаў засаромеўшыся, і абодвы пайшлі да ложка старшыні.

— Мне лягчэй думаць, калі ляжу, дык хадзі, сядзь ля мяне. Пачынай:

«Мой сыну, я ня ведаю, дзе ты цяпер, ці ў нашай цёплай лясной хацінцы, або загнаны маскальскім палонам на сьцюдзёную, далёкую поўнач, або цягнеш жыцьцё сярод будзёншчыны заходняга мяшчанства. Будзь ты дзе-б ня быў, і ўсёроўна, як доўга-б не цягаў чужацкага ярма, прыйдзе час, калі ты вернешся да хаты й пойдзеш за плугам заміж мяне. Я ня ведаю, калі надыйдзе гэтая гадзіна, але прадчуваю: яна прыйдзе хутка. І каб прыйшоў час тваёго звароту хутчэй, я біўся з ворагам на фронце, і цяпер, калі я больш не магу змагацца на фронце, я дапамагаю падтрыхтаваць твой зварот тэй зброяй, якую мне яшчэ пакінулі. Гэтае змаганьне, мой сыне, ні каліва ня меншае і ані ня менш паважнае за бой на фронце. Гэтае змаганьне ня мае нечаканасьцяў, як на фронце, дзе кажная акопная наспа або дрэва маглі захаваць жыцьцё. У гэтым змаганьні мае сябры й я — мы сталі супраць ворага з пустымі рукамі й няўзброенай галавой. Апошняя зброя гэтага змаганьня — бязьмежная ненавісьць да ворага й нашая нязломная воля здабыць свайму народу нашую вольную Бацькаўшчыну. Таму, мой сыне, мы пайшлі на самаахвотную сьмерць, на галодную сьмерць, каб ня даць ворагу вялікае радасьці задавальняцца ў катаваньні й зьнішчэньні нас. Але мы ўсё-ж жывыя, і ворагавы рукі нас ня могуць схапіць, мы змагаемся, каб адчыніць вочы ўсяму сьвету на хітрасьць і жорстакасьць нашага гістарычнага й адвечнага ворага, каб сьцьвердзіць, што Крывічы — гэта не Маскалі й Крывіччына не Маскоўшчына. Ты мусіш ведаць, мой сыне, што ў гэтым змаганьні пераможам мы, бо калі вочы сьвету не адчыняцца, пакуль мы яшчэ жывыя, і вораг павязець нас судзіць, у тую-ж часіну мы памром і — пераможам.

Падрыхтоўваючыся да гэтага, я хачу, мой сыне, напісаць сабе нешта падобнае да тэстамэнту, г. зн., як ты мусіш бараніць нашую Бацькаўшчыну ад нашых адвечных варагоў.

Ты будзеш мець тваю Бацькаўшчыну вольнай, але вучыся бараніць Яе і таму ведай: ненавідзь свайго ворага, але будзь разумны й не ўважай сілаў ворага за нікчэмныя. Бачачы ў тваёго ворага толькі благое й чорнае, сваю зброю ты не загартоўвай толькі тады, калі пабачыш ворагаву моц.

Таксама, каб ведаць ворага, вучыся й чытай кнігі. Чытай кнігі аб нашай мінуўшчыне, аб старых часох. Тамака ты пабачыш, што нашыя варагі з усходу й з захаду, хаця й падбівалі нас, але заўсёды былі зноў пераможанымі. Я не навучоны, аднак тое, што ведаю, хачу пакінуць табе ў спадчыну.

Нашую краіну часамі руйнавалі й рабавалі ўсе нашыя варагі з усходу і з захаду. Калі ты чытаеш нашую гісторыю, зацем: усходні вораг заўсёды наскоквае з жорсткасьцяй, забівае, паліць, руйнуе, не шкадуе ні жанчынаў, ні дзяцей. Хто выжывае, тых шлець на далёкую сьцюдзёную поўнач у выгнаньне. Заходні вораг прыходзіць з хітрасьцяй і літасьцяй: пад вопраткай сьвятара ён хавае зброю, розныя дурніцы й шкелкі ён мяняе на нашае дарагое збожжа й лес; ён уцягвае нашых сыноў у шынкі, каб потым кінуць у склэпы вязьніцаў.

Сотнямі балонаў ты пабачыш напісанае аб вайне, пошасьцях і сьмерці. Ты прачытаеш шмат дзе, што па вялікіх войнах у нашай краіне тысячы вёрстаў падарожнікі ня чулі ні брэху сабакаў, ні крыку пеўняў, ня бачылі дыму з комінаў хатаў. Аднак, мой сыне, калі ты пабачыў сьвятло дня, твая Бацькаўшчына мела высокую культуру. Гэтую спадчыну ты атрымаў і павінен пакінуць гэткую-ж наступнікам.

Цяпер гэткі час, калі зладзеі абрабавалі Яе й зьнішчылі, вынішчылі народ, выгналі на далёкі сіберны зьдзек.

Ты мусіш вярнуцца, і ты вернешся ды будзеш узорваць гоні заміж мяне. Каб аднавіць жыцьцё з руінаў, ты мусіш мець больш сілы, чымся сыны іншых народаў. Таму, мой сыне, гары гоні глыбака й засявай чыстае зерне, каб твой хлеб быў мацункам. Таксама засявай шмат аўса

й кармі, даглядай, любі тваіх памагатараў коняй. І каб у тваёй хаце заўсёды быў добры сабака. Ён будзе пілнаваць хату, маемасьць і дапаможа пасьвіць статак. Хай ён ня знае сабачае долі, але будзе тваім сябрам. Ля варотаў і хаты насадзі маладых дубкоў, бо яны адцягваюць пагрозу пяруна, а абапал-жа дарогаў насадзі белых бярозак. Яны будуць весяліць цябе прыгаствам і пахам. Як помнік усяго мінулага, пад вакном пасадзі ліпу...

У жыцьці, мой сыне, табе яшчэ давядзецца спаткацца з горам і варагамі, і ты будзеш выглядаць сябру. Калі ты ня маеш вернага сябры, дык лепей застанься адзін, бо чалавек запраўды дужы толькі тады, калі ў няшчасьці ён стаіць адзін і ўсё-ж ня хіліцца.

Калі новыя горды рабаўнікоў наскочаць на тваю зямлю з абодвух бакоў, ды ў цябе ня стане рады й сілы, ды ты ня будзеш ведаць, у які бок найперш страляць і рубаць, бо сілаў будзе больш і ў вадным і ў другім баку, тады, мой сыне, вядзі сваю жонку й дзяцей у лес, у найцямнейшыя гушчары, а сам ідзі й рубай на абодвы бакі. Калі нехта скажа табе: гэта вар'яцтва, дык папытайся ў яго, зь якім-жа з абодвух варагоў ты мусіш ісьці разам? — Адказ можа быць толькі адзін: рубай на абодвы бакі! Калі-ж ты будзеш з жонкаю й дзецьмі ўцякаць на чужыну, твае варагі захопяць тваю краіну й пагоняцца за тваім жыцьцём і туды.

Ты, селянін, ня можаш пусьціць карэньня на чужацкай глебе; толькі на сваёй ты можаш гэта зрабіць, хаця ты, выкрыкваючы праклёны і шэпчучы малітвы, б'ешся за сваю краіну ўжо стагодзьдзямі.

Ды не палохайся вельмі сьмерці, мой сыне, бо калі ты будзеш баяцца сьмерці, дык не дастанеш жыцьця. Толькі Ўсемагутны ведае, колькі трэба скласьці галаваў за нашую кріану, але Ён і рупіцца, каб заўсёды йшла далей Ягоная творчая праца.

Гаспадарства праўды не паўстане гэтак хутка. Яшчэ шмат пакаленьняў будуць шукаць яго й клікаць. У імя праўды краі сьвету пакладуць міліёны на вынаход новае зброі, якая прыслужыцца не да палёгкі жыцьця, а дзеля вынішчэньня яго. Зацем: усё гэта адбываецца ў імя стварэньня гаспадарства праўды й спакою.

І твая краіна будзе яшчэ полем бою. Думаючы аб гэтым, мы, старыя змагары, пакінулі вам невялікую вайсковую спадчыну. Спытайцеся аб гэтым у старых лясьнікоў на нашых межах. Яны ведаюць тыя мясьціны. Тамака знойдзеце сьвятую зброю.

Больш таго, што мы зрабілі, мы не маглі зрабіць. Мы трымаліся, колькі маглі, пакуль скончылася родная зямля й пачалася чужына.

Сяньня 10 сьнежаня. Ужо пятнаццаць дзён мы ня мелі ні хлеба, ні вады. Я чуў, што сьмерць надыходзіць па чатырох тыднях галадоўкі. Калі гэта праўда й нічога ня зьменіцца, дык, мой сыне, мы памром 24 або 25 сьнежаня. Тады, мой сыне, сьвяткуючы Коляды, зрабі й пастаў па бярозавым крыжу й нам.

Нашая воля змагацца нязьменная й моцная, гэтулькі-ж моцная, як і нашае імкненьне здабыць нашую родную краіну.

Твой бацька старшыня Дубіч».

У гэтым-жа мамэньце дзьверы адчыніліся і ўвайшоў камэндант лягеру палонных:

— Інтэрнаваныя, можа раздумаліся? Або хочаце весьці далей самавынішчэньне? Адказ прашу ад усіх.

— Нашая пастанова нязьменная й канчальная.

— . . . да апошняга чалавека.

Слабымі, але пэўнымі й зацятымі галасамі загучэла песьня:

— ...Прысягаем табе мы сягоньня:
Покуль з нас хоць адзін шчэ жыве,
Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
Мы ня зрадзім, мы ўславім Яе.

---

**ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**

# НЕПАСЛАНАМУ

### ЗЬ НЕДРУКАВАНЫХ ВЕРШАЎ

Дзе Ты быў у дні нашы бунтарныя —
Я шукала Цябе кругом...
Сьцежкі слаліся толькі ахвярамі,
Кроў бязьвінна лілася ручвом...

Дзе Ты быў, як вачыма туманнымі,
Заглядзеўшыся нема у даль,
Між старымі шляхамі курганнымі
Выйшла Маці Цябе выглядаць?

І да рук Яе белых заломаных
Толькі вецер ласкава прыпаў,
Толькі краскі сярэбраным гоманам
Абазваліся недзе між траў...

Аб нас доля, Ты знаеш, ня рупіцца,
Казкі шчасьця для нас няма...
Недзе ў ноч маладая заручніца
Дзяцюка вызваляла дарма...

Доўга, прагна шукаючы помачы,
Пралятала, як птах, сяло.
Выйшлі людзі, зьбядована стогнучы,
Выглядалі — Цябе ня было...

Із руінаў, пажарам асмаленых,
Пакідаючы бацькавы кут,
Ішлі нашы суродзічы ў далі дзесь,
На спатканьне нязнаных пакут.

І пад іхнымі сьвітамі шэрымі
Да багатых чужых людзей
Сэрцы *біліся* горка-зьняверана,
А Цябе — ня было нідзе...

Усе, пустымі дадзетыя крыкамі
Ап'янелых крывёю дзён,
Твайго сэрца шукалі вялікага
І адвагі у мужных грумзёх.

І чакалі дарма яны раньня там,
Тыя людзі з пахілых хат,
І дарма яны сэрцам параненым
Так хацелі Цябе пакахаць...

Цяжка зь ніў было родных засеяных
У чужыну кудысь ісьці...
Ты быў казкаю, Ты быў надзеяю,
А Цябе ня было ў жыцьці...

За туманамі сьледу ня бачачы,
На бяспуцьці крывіцкіх дарог
Доўга, доўга стаяла я, плачучы,
Што цябе не паслаў да нас Бог...

---

АЎГЕН КАВАЛЕЎСКІ

# НАВАГОДНІ ГОСЬЦЬ

**(ДРАМАТЫЧНЫ ЭТУД).**

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

1. **Галіна Сьвірская** — маладая жанчына, 27-28 год.
2. **Алесь Зеляновіч** — інжынэр-мэханік, 35 год.
3. **Незнаёмы**, ён-жаж — Лявон Сьвірскі, 35 год.
4. **Ніна** — дачка Сьвірскай, 7 г. (бяз словаў).

---

Дзея адбываецца сучаснымі днямі ў вадным зь беларускіх ДП лягераў Нямеччыны.

Сцэна ўяўляе сабою пакой Сьвірскай у бараковым будынку ізь сьціплым, прымітыўным абсталяваньнем: стол, крэсла, шафка й два зялезныя ложжі. На адным зь іх сьпіць, пакрытая зялёнаю «унраўскаю» коўдраю, Ніна. Пакой пасьвяточнаму прыбраны, чысты і, дармо, што прымітыўнасьць абсталяваньня, выглядае ўтульным. На стале — ялінка. На ёй у сьвятле елачных сьвечак зіхцяць разнакаляровыя шкляныя кулі, цацкі, мішура. Пад ялінкаю — традыцыйны «Дзед Мароз».

---

Пры адчыненьні заслоны Сьвірская сядзіць на ложку дачкі, ціха напявае:

Сьпі, дзіця маленькае,
Вочанькі стулі.
Сьпі-ж ты, залаценькае,
Люлечкі-люлі.
За вакном асьнежаным
Ночка надыйшла.
За вакном асьнежаным
Зімачка-зіма.
Дык-жа сьпі ціхутка ты,
Прыйдзе Дзед Мароз —
Барада бялюткая
Ды чырвоны нос.
Падарункі зь елачкі
Ў хату прынясе,
Лялькі ды мядзьведзіка
З сабой прывядзе.
Сьпі, дзіця маленькае,
Вочанькі стулі.
Сьпі-ж ты, залаценькае,
Люлечкі-люлі.

**Зеляновіч** (бадзёра ўваходзячы, голасна) Добры вечар!

**Сьвірская** (прыкладаючы да вуснаў палец, шэптам) Ц-с-с-с... Не разбудзеце...

**Зеляновіч** (Сьціпаючы голас) Выбачайце... (Падходзіць да яе, цалуе ў руку). Ізь сьвятам вас.

**Сьвірская** Дзякую. І вас гэтаксама. (Папраўляе коўдру на ложку Ніны). Распранайцеся, калі ласка. У нас цёпла.

**Зеляновіч** Дзякую. (Распранае паліто, вешае яго на цьвіку ля дзьвярэй, кладзе партфэль на крэсла).

**Сьвірская** (узглядзеўшы партфэль, ціха, незадаволена). Ах, вы ізноў нешта прынесьлі. Навошта вы гэта робіце? Гэткае цяжкое жыцьцё цяпер, а вы раськідаеце грошы на непатрэбныя падарункі.

**Зеляновіч** (усьміхаючыся). Хіба-ж гэтыя дробязі можна назваць падарункамі?

**Сьвірская** Што-бы там ні было, але каштуе грошай. А з грашыма нам, дэпістым, цяпер вельмі цяжка даводзіцца.

**Зеляновіч** Эт, ня варта пра гэта гаварыць. Мы не дзеля грошай жывём... А тым балей — сяньня — пад новы год.

**Сьвірская** А ўсё-ж... (устае з ложка, падыходзіць да ялінкі, папраўляе сьвечкі).

(Паўза).

**Зеляновіч** (Падыходзячы да яе). Чым вы засмучаныя сяньня?

**Сьвірская** (Ціха, із смуткам). Прыгадалася мне старое... Даўно ўжо забытае...

**Зеляновіч** А што такое?..

**Сьвірская** (Паволі сядаючы ў крэсла, уздыхнула). Ах, усё гэта, пэўна, больш ня вернецца...

**Зеляновіч** (Гэтаксама сядаючы). Што-ж вам прыгадалася?

**Сьвірская** (Гледзячы ў задуменьні на ялінку, паволі). Ведама, як часам балюча, цяжка перажываць тое, што адплыло назаўсёды, што ня вернецца назад...

**Зеляновіч** Але. Гэта часта здараецца...

**Сьвірская** Я вось гляджу цяпер на гэтую ялінку й мне міжволі прыпамінаецца мая хата, мой муж. Гэта было шэсьць год таму. Тады ялінка была куды большая за гэтую... Здаецца, і сьвечкі гарэлі на ёй ярчэйшыя... Мы сядзелі ўтраёх за сталом: муж мой і я із сваёю Ніначкаю. Ёй ня было тады яшчэ й году. Яна чамусьці плакала. Здаецца, была крыху хворая, але мы... мы сьмяяліся. Нам было вясёла, хораша на душы. Шчасьце панавала ў нашай хаце ды ў нашых сэрцах, бо тады новы год нёс нам радасныя надзеі, тады верылася ў лепшае... А цяпер? Што-ж цяпер нас чакае?.. Цемра й туман наперадзе... (выразна) Туман...

**Зеляновіч** (пасьля паўзы, ціха). Можа яшчэ ня ўсё гэтак жахліва ,як вам здаецца?..

**Сьвірская** (гэтак-жаж смутна). Ах, не... не кажэце... Надзеяў на лепшае няма...

**Зеляновіч** (зьмяняючы тон на падбадзёрваючы). Нічога. Мы яшчэ вернемся да хаты. Я моцна веру у тое, што за 2-3 гады мы будзем на Бацькаўшчыне.

**Сьвірская** (няўпэўнена). Дай Божа.

**Зеляновіч** Гэтак яно й будзе (устае, дастае дзьве бутэлькі зь віном із партфэлю, стаўляе іх на стол). Давайце лепш... вып'ем. Новы год, хоць і на чужыне і ў гэткіх жыцьцёвых абставінах, мы павінны сустрэць з узьнятаю галавою.

**Сьвірская** Цяжка яе ўзьняць...

**Зеляновіч** А вы паспрабуйце. Памятаеце словы нашае паэткі: «Ня варта зьвешаваць чупрынаў...». Дазвольце мне сяньня быць гаспадаром у вашым пакоі?

**Сьвірская** (усьміхаючыся). Калі ласка.

**Зеляновіч** (загадным тонам). Спадарыня Сьвірская, прынясеце дзьве талеркі, нажы ды відэльцы.

**Сьвірская** (сьпяшаючыся). Але, я...

**Зеляновіч** (яшчэ суравей). Слухаць мой загад, пакуль я тут гаспадар.

**Сьвірская** (гэтак-жаж). Слухаю, слухаю, новы гаспададару. (Дастае з шафкі талеркі, нажы, відэльцы, кладзе гэта на стол).

**Зеляновіч** Цяпер прынясеце кілішкі. Борзда!

**Сьвірская** (гэтак-жаж). Слухаю, гаспадару. (Прыносіць кілішкі, стаўляе іх на стол. Вяртаецца да шафкі, прыносіць хлеб, крыху масла, селядцы).

**Зеляновіч** Гэтага ня трэба. Я тут усё маю. (Дастае з партфэлю закуску, раскладе па талерках).

**Сьвірская** Які будзе наступны загад?

**Зеляновіч** (гэтак-жаж). Сядайце.

**Сьвірская** (сядаючы). А далей?

**Зеляновіч** А далей? Далей — чакайце. (Разьлівае віно па кілішках).

**Сьвірская** Чаго чакаць?

**Зеляновіч** Дванаццатае гадзіны. (Глядзіць на гадзіньнік, сядаючы). Поўчасіны. Уздымаем кілішкі насустрач новаму 1948 году. Зразумела?

**Сьвірская** (Сьмяючыся). Усё ясна. (Хоча нарэзаць хлеб).

**Зеляновіч** Пакіньце. Я сам гэта зраблю.

**Сьвірская** Але-ж гэта зусім ня мужчынская справа.

**Зеляновіч** А хто тут гаспадар — я ці вы?

**Сьвірская** (Сьмяючыся). Сяньня — вы.

**Зеляновіч** Дык слухаць мой загад, калі ласка. Сядайце.

**Сьвірская** Даводзіцца падпарадкавацца (сядае ізноў).

**Зеляновіч** Пэўна-ж (Рэжа хлеб, сядае).

(Чуваць, як недзе далёка за баракам гадзіньнік б'е 12 гадзіну).

**Зеляновіч** (Лагодна, усьміхаючыся). Бярэце кілішак. (Сьвірская, усьміхаючыся ў вадказ, уздымае кілішак, глядзіць у чаканьні на Зеляновіча).

**Зеляновіч** (паважна, лічыць). Пяць, шэсьць, сем... Яшчэ колькі ўдараў гадзіньніка, і мы, нарэшце, разьвітаемся із старым годам. (Лічыць далей). Дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць... (Уздымаецца, Сьвірская гэтаксама).

**Зеляновіч** (Урачыста). З новым годам, з новым шчасьцем!

**Сьвірская** (Гэтак-жаж). З новым годам! Дай Божа, каб у новым годзе было-б усё пановаму.

**Зеляновіч** Дай Божа! (Стукаюцца кілішкамі, п'юць).

**Сьвірская** (Сядаючы. Прыемнае віно.

**Зеляновіч** Навагодняе. (Налівае ізноў кілішкі). Вып'ем яшчэ па адным?

**Сьвірская** (Сьмяючыся). Згода. Я хачу быць сяньня п'янаю.

**Зеляновіч** (Падаючы ёй кілішак). Калі ласка. (Абое ізноў п'юць).

**Зеляновіч** Яшчэ?

**Сьвірская** О не, досыць. Ужо закруцілася ў галаве. Пасьля хіба...

**Зеляновіч** А я хачу, каб вы выпілі. Гэтае віно бадзёрыць кроў. Калі ласка. (Падае кілішак. Яны зноў п'юць).

**Сьвірская** (Уздымаючыся з крэсла, адыходзіць крыху набок, затуліўшы твар рукамі). Гэта зашмат... Я ніколі гэтак ня піла.

**Зеляновіч** (Усьміхаючыся). Нічога. Раз на год дазваляецца.

**Сьвірская** (Вінавата). Здаецца, ужо прайшло... (Падыходзіць ізноў да ялінкі, папраўляе сьвечкі, ціха). Выбачайце...

**Зеляновіч** Калі ласка. (Паўза).

**Сьвірская** (Сьціха напявае).

За вакном асьнежаным
Ночка надыйшла.
За вакном асьнежаным
Зімачка-зіма.

**Зеляновіч** (Гледзячы на яе, у задуменьні, як-бы гаворыць сам із сабою). Вы сяньня нейкая... нязвычайная, казачная...

**Сьвірская** (Ціха, сарамліва). Жартуеце?

**Зеляновіч** (Горача). Наадварот. Я нарыхтаваўся выказаць вам сяньня вельмі паважныя думкі, але... але...

**Сьвірская** Але?

**Зеляновіч** Але не стае адвагі.

**Сьвірская** Дык выпіце яшчэ кілішак. Можа гэта вас падбадзёрыць.

**Зеляновіч** Магчыма. (Налівае ў кілішак, выпівае). Дык вось, што я хацеў сказаць вам...

**Сьвірская** (Ня гледзячы ў ягоны бок, усё яшчэ ля ялінкі). Кажэце, я вас слухаю.

**Зеляновіч** Чулі, як адбіла дванаццатая гадзіна? Гэта апошняя гадзіна старога году. Пасьля гэтага павінна прыйсьці нешта больш радаснае, бо старое ўсё аджыло, адмерла. Яно ніколі ня вернецца да нас. Кажны чалавек сяньняшняе начы прагне нечага новага... Ды, зрэшты, вы самі сказалі, што ў новым годзе ўсё павінна быць пановаму. Ці-ж ня гэтак?

**Сьвірская** (Зьдзіўленая). Але. Толькі я не разумею, да чаго вы гэта кажаце?

**Зеляновіч** Прызнацца, я й сам добра не разумею. Але ведаю толькі, што мы з вамі ўжо ў такім веку, дзе здаецца залішняю юнацкая сарамлівасьць, недамоўкі...

**Сьвірская** Пэўна-ж.

**Зеляновіч** (Сьцішаючы голас). Я адзін на гэтым белым, ці лепш сказаць, цёмным сьвеце... Я згубіў сваю жонку ўчасе вайны гэтак-сама як вы згубілі свайго мужа. Нашая доля — аднолькавая. А наперадзе, як вы казалі, — туман...

**Сьвірская** (Яшчэ больш зьдзіўленая). Але, здаецца — казала...

**Зеляновіч** Ці-ж ня лепш было-б ісьці нам разам у гэты туман? Усё-ж лягчэй было-б, радасьней... (Сьвірская адварачаецца ад яго, затуляе твар рукамі, маўчыць).

**Зеляновіч** (Пасьля паўзы). Вы маўчыцё? (Устае ўсхваляваны, падыходзіць ззаду да яе, пяшчотна абдымае за плечы). Галіна?.. (Сьвірская маўчыць, ня рухаецца). Галіна, хіба вы... ня згодныя?.. Адкажэце-ж.

**Сьвірская** (Паволі павяртаецца тварам да яго, схіліўшы галаў). Я не магу...

**Зеляновіч** Але-чаму?

**Сьвірская** Я дала яму слова, прысягнулася перад ім, што ніколі, ніколі ня зраджу яго.

**Зеляновіч** Але-ж гэта неразумна. Зрэшты, вы навет ня пэўныя ў тым, што ён жыве.

**Сьвірская** Усё адно — жыве ён, ці не, але гэта мой сьвяты жаночы абавязак перад ім, перад... мужам... І перад маім дзіцём...

**Зеляновіч** Тады... выбачайце мяне, што я... (не дагаворвае, схінае долу галаў, ідзе паволі да вакна, застыгае ў гэткім нямым хваляваньні).

**Сьвірская** (Поўная жалю, мала ня плачучы). Вы... вы вельмі добрыя, Зеляновіч. Я шчыра пакахала вас і... ня толькі, як сябру... Але я... Я прашу вас, не сярдуйце... Хіба ня можа ўсё гэтак застацца, як яно было?.. Хіба мы ня мелі з вамі запраўдных часінаў шчасьця?..

**Зеляновіч** (Ціха, з глыбокім жалем). Але. Ды гэта былі толькі часіны, а мне... мне хацелася, каб было на ўсё жыцьцё.

**Сьвірская** (Цяжка сядаючы ў крэсла). Ах, каб я была гэткаю жанчынаю, як іншыя...

(Чуваць лёгкі стукат у дзьверы. У пакоі ня чуюць яго. Стукат мацней. Сьвірская ўздымае галаву, прыслухоўваецца).

**Сьвірская** Хто гэта можа быць?

**Зеляновіч** (Павяртаючыся тварам). Можа лягерная паліцыя?

(У дзьверы грукочуць).

**Сьвірская** (У зьдзіўленьні). Што ім трэба гэткаю парой? (Усхапілася, ідзе да дзьвярэй, адчыняе іх і, раптоўна, з крыкам спалоху адбягае назад).

(У хату уваходзіць Незнаёмы: галава перавязаная, твар пасечаны, вусны скрыўленыя. Апрануты у старую, падраную жаўнерскую вопратку).

**Незнаёмы** (Глухім, хрыпатым голасам, пасьля нямое часіны). Не палохайцеся... Я зьмерз... Прыйшоў пагрэцца да ялінкі... Прыймеце навагодняга госьця?

**Сьвірская** (Усё яшчэ дрыжучы ад спалоху). Калі ласка... Сядайце...

**Незнаёмы** (Сядаючы ў крэсла, схіляе нізка галаў). Выбачайце, што гэтак уварваўся. Але я, дапраўды, зьмерз... Праходзячы па лягеры, выпадкам глянуў праз вакно ў ваш пакой. Ён мне здаўся гэткім утульным, цёплым.. Выбачайце, калі ласка...

**Сьвірская** (Няўпэўнена). Калі ласка.. (Сядае з другога

краю стала, пільна, у зьдзіўленьні разглядае яго).

**Зеляновіч** (Наліўшы кілішак, падае яму). Выпіце, гэта адагрэе вас.

**Незнаёмы** (Узьняўшы голаў, уважна паглядзеўшы на яго). Дзякую. (Выпівае).

**Сьвірская** Можа вы галодныя? Дык бярэце, што на стале ёсьць.

**Незнаёмы** Дзякую, я не галодны.
(Паўза, у часе якое Зеляновіч сядае ў крэсла, а Незнаёмы не адводзіць погляду ад Сьвірскае).

**Зеляновіч** А вы адкуль самі?

**Незнаёмы** (Неахвоча, гледзячы ўсё яшчэ на Сьвірскую). Здалёк... з Баранавічаў.

**Сьвірская:** (Усхапіўшыся). З Баранавічаў? Дык вы мой зямляк?

**Незнаёмы** Здаецца.

**Сьвірская** Можа навет і знаёмы?

**Незнаёмы** (Горка ўсьміхаючыся). Можа.

**Сьвірская** Як вашае прозьвішча?

**Незнаёмы** Маё прозьвішча? (Выразна). Хіба ня бачыце? Пакалечаны... Пакалечаны чалавек — вось маё прозьвішча. (Налівае сам сабе кілішак, хутка выпівае, апушчае долу голаў).

**Зеляновіч** (Па паўзе). Дык вы, магчыма, проста з Баранавічаў да нас прыйшлі?

**Незнаёмы** Не, з ангельскае зоны. З вайсковага шпіталю.

**Сьвірская** Вы вайсковы?

**Незнаёмы** (Пільна гледзячы ў вочы Сьвірскае). Чатыры гады змагаўся за Бацькаўшчыну на ўсіх фронтах і блізу два гады зь невялікімі перапынкамі змагаўся ізь сьмерцяй па шпіталях, ад апэрацыі да апэрацыі...

**Зеляновіч** Вы, пэўна, цяпер шукаеце каго?

**Незнаёмы** Так, жонку сваю. Я... ішоў да яе...

**Сьвірская** А дзе яна — тут, у Нямеччыне?

**Незнаёмы** (Выразна, устаючы з крэсла, да яе). Але, яна тут, Галіна.

**Сьвірская** Адкуль вы ведаеце маё ймя?

**Незнаёмы** Мы-ж — землякі. (Падыходзіць да ложка Ніны, нахінаецца на ёю). Якая вялікая вырасла. (Ціха напявае).
Сьпі, мая маленькая
Вочанькі стулі.
Сьпі-ж ты, залаценькая,
Люлечкі-люлі.
Сьпі спакойна, Ніна...

**Сьвірская** (Кідаючыся да яго, горача). Ды хто вы? Хто вы, урэшце?

**Незнаёмы** (Павяртаючыся да яе тварам, сьцюдзёна). Я? Я толькі зямляк ваш — ня больш. (Да Зеляновіча). Дзякую за віно й цяпло. Мне пара йсьці.

**Сьвірская** Ды куды-ж вы?.. Уночы?..

**Незнаёмы** Не хачу замінаць вам... Бачу, што мой выгляд ды пасечаны твар папсавалі вам сьвяточны настрой... Выбачайце... Сьвяткуйце далей... Дай Божа вам шчасьця...
(Схіліўшы нізка голаў, выходзіць).
(Сьвірская стаіць у пакоі ў застылым зьдзіўленьні. Зеляновіч ціха падыходзіць да яе).

**Незнаёмы** (Вяртаючыся). Выбачайце, але забыўся вось на гэтае... (Здымае з шыі мэдальён, аддае ў рукі Сьвірскай). Гэта памятка мая ад аднае жанчыны... Залатая... Вазьмеце ў падзяку... (Хутка выходзіць).

**Сьвірская** (Бярэ гэта мэханічна, адчыніўшы мэдальён, ускрыквае). Ах, гэта ён... Лявон, Лявон, чакай! (Бяжыць наўздагон за ім, па нейкім часе вяртаецца назад у пакой, плачучы).

**Зеляновіч** (Бяручы яе за плечы, садзіць у крэсла). Што?..

**Сьвірская** (Празь сьлёзы). Позна...

**Зеляновіч** Хто гэта быў?

**Сьвірская** Ён, ён... Мой муж...
(Голасна плача, упаўшы галавою на стол).
Ідзе паволі

ЗАСЛОНА.

Остэргофэн, 21. 12. 1947.

---

Я. ЮХНАВЕЦ

# ЦЯРНІСТЫМ ШЛЯХАМ

## ВЕРШЫ.

* * *

Дзень адшугаў. Ваўком крадзецца цемра.
Лагчына пыле ймглістасьць тумаלהў.
І гэты дзень маруднаю хадою
ў вабдымкі цемрыны ізноў прайшоў.

І я ваўком плятуся па чужыне,
Ад болю ран ня чую сваіх ног.
І толькі помніцца, што цёмнаю парою
Свае радзімы кінуў я парог.

Але-ж із гаю
зорнага
мой шлях,
мой ночны шлях асьвеціць зараз месяц.
Напэўна ён на помач нам, тулягам,
сябе самога ліхтаром падвесіў.
Напэўна нам даверана, тулягам,
пабачыць на зямлі, як зьнікне цемры сьцень,
і прывітаць той залацісты ранак,
што засьвятліць над краем Новы Дзень.

## МАЛЮНАК

Цэлы дзень скрабалі неба хмары,
ім цэлы дзень сьвяціла сонца.
А цяпер яны дайшлі да небасхілу
і яго чакаюць на спачын.

Пухам залатым яны набухлі,
мякка паляглі прад сонечным палацам,
і вячорны промень на кілімы
іх ступіў агністаю ступой.

І так пайшоў, пайшоў паволі
у глыбіню сваіх начных палацаў,
і толькі бронзавы адплыў паветра
у небе ціхай хваляй лёг.

1947.

## ОДА РЫДЛЁЎЦЫ

О, мая зялезная сяброўка,
табе танклявая, прыгожанькая Муза
йшчэ не сьпявала віншавальных одаў:
баіцца, каб чароўненькія вочкі
ты не засыпала пяском
і каб пантопляў, з шоўку шытых
ты не забрудзіла зямлёй.
Затое я табе пяю:
о, ты сваёй зялезнай жменяй,
засып памерлых між жывых,
каб жыць магло усё жывое.

1947.

**УНОЧЫ Ў ГОРАХ**

Грываў бель рашчэсавалі хмары.
на небасхіл паволі ймкнулі.
Каціўся месяц ім насустрач
і целы іх ірваў, як куляй.

Лятою птушкі рэха з долаў
лунала дзесь за перавалы.
І зоркі сходзілі з вышыняў
напіцца смагла ў плёсах з хвалі.

Так зырка вокны горнай хаткі
калолі цемру сьвятліцёю
і зіхацелі пад ваконьнем
бярозы срэбнай лісьціною.

А вусьціш сьцёбала каменьне,
свае рагозячы рады.
І паляцеў на хмарах вецер
на супачынак у сады.

І гэта ён прыносіў грукат:
руйнуюць горы верхавіны —
прадвечнасьць нішчыць, каб сюды аж
зыйшлі нябёсныя даліны.

І ўжо здавалася, былое
каля мяне лявінай — міма,
і зь небасхілу ужо хмары
далоў плылі, плылі нястрымна.

1947.

* * *

...І з таго часу спапялела шчасьце,
юнацкія гады і радасьць дзён.
Балонкі чорныя я часта
пачаў лістаць у сонме дзён.

Вандроўнік стаўся адзінокі,
сваё кароткае жыцьцё
шпурнуў у пыл дарог далёкіх,
забыўся я, што ёсьць жыцьцё.

А Зорка-Лебядзь зіхацела
з таёмнай высі (гэта-ты)
— Дзе пахаваюць тваё цела?
Здаецца, ты... пытала ты...

Красуня зор, нябёсных хваляў!
Я — лунь сівы пячор зямных
прыйшоў, каб толькі пахавалі
пакуты дзён маіх зямных.

1946.

* * *

Як капцюрамі кот,
дождж скрабе па даху.
Цемра прытулілася
да празрыстых шыб.
І крадзецца мякка
пад шум дожджу,
да мяне вясьняны, мляўкі сон...
Засынаю,
І сьніцца раздарожжа...
Як дзіцё, крычу:

— Куды ісьці?
— І дзе шукаць
таго сьвятога выйсьця,
што запаветам мне
ад прадзедаў, дзядоў?..
І голас гнеўны,
але срабрыста-чысты,
да мяне прамовіў з вышыні:
— Мужайся, брат! Цярністым шляхам
знаходзяць Сілу і Жыцьцё.

1947.

---

СЯРГЕЙ ХМАРА

# ЗАБЫТАЕ СЛОВА

**(ПАЛЕСКАЯ ЛЕГЕНДА).**

І каб зьнішчыць усё жывое на зямлі, створанае Богам, перавярнуў на зямлю Чарнабог акіян і шчынілася паводка вялікая.

А першы чалавек Адаш, і Іўка, жонка ягоная, што зь вярбіны-івіны на ягоную просьбу створаная Богам — на дрэва найвышэйшае ўзьлезьлі й Бога малілі, каб ратунак паслаў.

Пачула тады Мая, Богава жонка, людзкія маленьні, перакінула з выраю масток-вясёлку разнакалёрную да дрэва, і перайшлі людзі назад у вырай.

Але сумна было ў выраі чалавеку й жонцы ягонай. Работы ніякае. А да таго — ані пасварыся, ані пакалаціся, ані люльку выкуры.

А жонцы зноў не падабалася, што прыбірацца, прыхарошвацца няможна. А памяньціць языком — хоць-бы зь бярозкаю, што за хатаю расла.

І пачалі людзі худнець у выраі. З кута ў кут сноўдацца й месца сабе не знаходзіць...

Пусьці іх і пусьці назад на зямлю. Ня можам тут вытрываць. Занадта ўжо добра ды папанску! І ўсяго бойся! І таго не рабі, і таго! Тое грэшна, таго няможна! Лепей ужо на зямлю! Хоць цяжка, а сам сабе пан! Прычапіліся да Бога — не адчэпяцца.

— Ну, — кажа Бог, — пушчу, але памятайце. Не наракайце пасьля.

Узрадаваліся Адаш зь Іўкаю. А багавіца Рада на дарогу — людзей шкадуючы — раду дала.

— Як, — кажа, — вельмі цяжка на зямлі вам давядзецца, дык вось табе, Іўка, слова запаветнае. Як пабачыш жураваў ключ, што ў вырай лятуць, дык зараз адвярні дагары дном найбліжэйшы камень і слова гэтае прамоў. І спусьцяцца журавы на зямлю, і забяруць цябе разам з мужыком назад у вырай, і будзеце жыць тут без клапотаў вечна ды Бога славіць.

Пазьбіралі людзі манаткі свае й паехалі на зямлю.

Цягнула зямля, як у выраі сядзелі, на ўсім гатовым, нічога ня робячы... Але горай было, як давялося самым дзярно дзерці, жыта сеяць, лясы карчаваць, узімку ад сьцюжы касьцянець.

Пачаліся сваркі паміж Адашом і Іўкаю, нараканьні, вінавачаньні...

І захацелася людзём у прыгожы вырай вярнуцца.

І толькі захацелася, а тут у небе трубы быццам мядзяныя зазьвінелі — ключы пасланцоў боскіх — жураўоў з выраю паказаліся.

І ўспомніла Іўка, як яе вучыла багавіца Рада — ды да мужыка:

— Барджджэй, барджджэй камень перавярні! Замкні жураўом дарогу! А я слова запаветнае скажу, і спусьцяцца яны перад намі, і палятом зь імі ў вырай, на жыцьцё шчасьлівае, жыцьцё прывольнае.

Перавярнуў Адаш камень. Замятусіліся ўгары журавы, закруціліся над іхнымі галавамі, каменем на шляху сваім замкнутыя.

А Іўка слова боскае, запаветнае сказаць хоча... Але забылася боскае слова — сіліцца, сіліцца — прыпамінае — звоняць угары журавы...

Дарэмна!

Ня ўспомніць людзям яго ніколі — не вярнуцца ў вырай!

І так з году ў год, зь веку ў век, як пачуюць людзі мядзяныя зыкі жураўіных ключоў, камень перакідваюць, шлях замыкаючы жураўіны...

Закруцяцца журавы над галавамі —
але ня ўспомніць чалавек слова запаветнае!..

---

# ЗЬ ВЕРШАЎ 1946 ГОДУ*)

## КАМЯНІ

Гасьцей чакаў я, і яны
загрукалі ў парог —
ўсе камяні, ўсе валуны
крутых маіх дарог.

На іх усіх сьляды былі
маіх юнацкіх сноў;
на іх усіх шрамы ляглі
ад хмар і ад вятроў.

Я кажны камень пазнаваў:
калі сустрэў яго,
калі на ім адпачываў,
начлежны клаў агонь.

Вось гэты — ў роднай старане
быў пад вакном маім,
вось гэтым — кінулі ў мяне
і сьлед крыві на ім.

Але адзін валун з усіх
мне незнаёмым быў.
Хто ён, адкуль, з дарог якіх
няпрошаны прыбыў?

Адно, па сьнежнай бялізьне,
па тым, як ён дыхнуў
сьцюдзёным змрокам на мяне
і ў сэрца заглянуў, —

Я здагадаўся, што за госьць
і чаркай прывітаў.
— Калі прыйшоў ты, ягамосьць,
дык пі! — яму сказаў. —

Вось толькі нам няма аб чым
з табою гаварыць, —
я ўжо дамовіўся ўначы
зь вятрамі у бары,

з жывой птушынаю сям'ёй,
з расталаю вадой,
і з громам, каб яны вясной
ўзялі мяне з сабой.

## ВЯСНОЙ

Можа вам не карціць
Па гаёх, сьцежках роднага краю,
Па расе светаянскай прайсьці,
Калі рунь новых слоў прарастае.

Трэба, ведама, нашча устаць,
Бязь ніякіх там камандыровак.
Вось азёрныя хвалі шумяць
І гудзе галасамі дуброва,

Вось плывуць над зямлёй аблакі.
І ўсё гэта зусім непаўторна
Ў спалучэньні. у зьзяньні такім,
У сугуччы блакітнага з чорным.

Трэба рэхам быць, лесавіком,
Дрэвам, каб зразумець усе мовы,
Усе сполахі, зьзяньні і гром,
Што вясьняныя будзіць дубровы.

І ня класьці далоні на скронь!
Хай палае кроў полымем гэткім —
Белым, сінім — якім зь першых дзён
На зямлі загарэліся кветкі.

## САСНА

Каб ведала ў бары сасна,
Што шыбеніцай стане,
З малых ,юнацкіх дзён яна
Не распраўляла-б стану

І не цягнулася-б гальлём
Пад хмары ў цёмных нетрах,
А лепш лягла-б на буралом,
Падсечаная ветрам.

А то цяпер яе ніхто
Зычліва ня вітае.
Стаіць за дальнаю вярстой
І сумна уздыхае,

І ломіць рукі ад людзкіх
Ад сьлёз і ад дакораў,
А на галінах залатых
Крычыць, ахрыпшы, воран.

## РУБІКОН

Дык вось ён, гэты Рубікон,
які мяне трывожыў, мучыў
і за якім — міраж ці сон —
пязнаныя ўзьняліся кручы.

Мне гаварылі: — Пачакай
да летніх сухавеяў жніўня,
калі суцішыцца рака
шалець ад ветру і ад ліўняў, —

але мне дораг кажны дзень.
Я не баяўся небясьпекі
і ня пытаўся лёсу, дзе
мае зачыняцца павекі.

Я прызвычаіў крок даўно
да сонца, да штурвалу — рукі,
а слух і сэрца — да званоў,
набатных нясьціханных гукаў.

І вось ужо за мной рака,
агні вандроўшчаў знаёмых,
і вось мой сьцень на лядніках,
і голас на вяршынях стромых.

---

*) Перадрукоўваецца зь менскага часапісу «Беларусь»за 1946 г., каб пазнаёміць нашага чытача на эміграцыі з навейшымі (што ёсьць у нашых руках) узорамі творча сьці ведамага паэты каліцішняе Заходняе Беларусі.

М. ЛАГОДА

# БЯЗБОЖНІКІ

(АПАВЯДАНЬНЕ).

I.

Акупацыя Заходняй Беларусі Расеяй пачалася сямнаццатага верасьня, а за месяц памёр Ян Гуз. Памёр раптоўна. Ён ня меў ні ўнукаў, ні дзяцей, навет нікога з блізкіх. Жыў бабылём. Бо, трэба сказаць, што Гуз быў «закардоньнік». У дваццаць першым годзе ўцёк адтуль, «з-за кардону» — спад Менску. Купіў паўгэктара зямлі, паставіў хату, адбудаваў кузьню і — каваў коні, рабіў сярпы, ладзіў плугі... Быў карысным чалавекам у сяле, хаця — казалі — і «нялюдзкім». Яно й прыродна. Трэба ўзяць на ўвагу, што хоць чалавек жыў (калі праўду казаць) і не за межамі бацькаўшчыны, але пад іншай акупацыяй.

Прычына сьмерці? Праўда, быў стараваты: зубы зьеў, рукі дрыжэлі, крыху прыглух. Але й ня гэта было прычынай сьмерці. Кажуць :таго дня, як дачуўся, што йдуць... ізноў ідуць! — замкнуў кузьню, зачыніўся ў хаце і ўжо больш не паказваўся. Кажуць, дзесь кінуў перад гэтым:

— Ідзець мая сьмерць... Быў уцёк — ізноў ідзець...

І потым, сьцісьнуўшы кулакі, дадаў:

— У дамавіну зьлягу, а спакою ім ня дам...

Што гэта азначала, зразумець ніхто ня мог, бо неўзабаве знайшлі яго няжывым.

Ня было каму па ім і заплакаць, ніхто, таксама, не панёс красак, але да хаўтураў усе паставіліся з пашанаю. На сходцы дайшлі — пахаваць на грамадзкі кошт. Дамавіну дoff даручылі купіць і прывезьці шофэру спажывецкай каапэрацыі Пятру Іванову, які адначасна быў і за старшыню гуртка бязбожнікаў і якраз таго дня ехаў па тавары ў места.

Туманны ранак; хоць і лістапад, але пакрысе сыпле дождж; цёпла. Машына абганяе хадакоў, фурманкі, прабягае праз вёскі і масткі, грукоча па каменным бруку. На адным із заваротаў машыну спынілі жанчыны. Яны стаялі грудком з боку шашы і, сьмяючыся, махалі рукамі.

— Падвязеце!

— Узяць, ці ня ўзяць? — спытаўся Іваноў у свайго сябры, Міцькі Перцава, асавіяхімаўца, які разам зь ім ехаў у справах.

— Вазьмі. Усяроўна машына парожняя. Толькі я пералезу да іх, хачу быць бліжэй да масаў...

Машына зьвярнула крыху ўбок і спынілася. Адна па аднэй жанчынкі з гармідарам паўлазілі ў машыну, а сьледам за імі перасеў і Міцька Перцаў.

— Адкуль вас гэтулькі?

— Зь Ляхавіч.

— Усе?

— Усе.

— А вы, таварыш, адкуль? — спытала бялявая, сінявокая дзяўчына й засьмяялася.

— Я? Здалёку. Аж із самога Рыкава.

— Зь якога гэта Лыкава?

Усе засьмяяліся.

— А куды едзеце? — ізноў папытаўся Міцька.

— У места, па цукеркі... — адказала, сьмяючыся, тая-ж дзяўчына.

— Дык нашто-ж вам ехаць па цукеркі ў места, калі іх у нас у Восаве колькі хочаце.

— Вашыя ня добрыя. Мы хочам свойскіх, — адказала дзяўчына й папыталася: — А што вы робіце ў тым Восаве? То-ж зусім недалёка ад нас.

— А вось працую... Ужо зь месяц...

— А што-ж вы працуеце? Арацё ды пахаеце?..

Міцька ўсьміхнуўся; жанчынкі засьмяяліся таксама.

— І чаго вы сьмеяцёся ды сьмеяцёся? — ні то спыталася, ні то ўпікнула жанок маладая жанчына.

— Вось сьмяёмся, абы ня плакаць... — адказала старэйшая і ўздыхнула, і тады ўжо, раптам, усе заціхлі.

Міцька Перцаў стараўся яшчэ колькі разоў выклікаць жанок на гутарку, але — дармо — відавочна, і першы сьмех ня быў вельмі шчыры.

Як толькі машына спынілася ў месьце, жанчыны, вылазячы, спыталіся:

— А назад падвезяцё?

— Падвязём, падвязём, калі спаткаем...

Як толькі жанчыны адышліся, Міцька Перцаў загаварыў да старшыні бязбожнікаў:

— Хрысьціцца бабкі каля кажнай царквы й касьцёлу.

— Хрысьцяцца?

— Хрысьцяца.

— Опіюм рэлігіі атуманіў ім «мірасазерцаньне»... Шмат давядзецца нам тут папрацаваць... — і хапіўся за руль так, што машына аж заскавытала, ірвануўшыся з месца.

II.

Уявеце сабе: вы побач зь нябожчыкам. Зусім пэўна, што той, каля каго вы ў гэтым часе, назаўсёды разьвітаўся з нашым сьветам і нічога зрабіць вам ня можа. І раптам — гэны нябожчык пачынае ажываць, — заварушыўся, пазяхнуў і вылазіць із дамавіны. Твар у яго зямлісты, вочы быццам із шкла; хісткаю хадою ён ідзе да вас, махае рукамі, на якіх, як вяроўкі, сінія жылы. І — тхне гнілінёй. Хто-б вы ня былі: вернік ці ня вернік, інтэлігент ці не інтэлігент, у вадзіноце ці ў таварысьцьве сяброў, — вас агорне страх і мароз пратне па хрыбце аж да пятак. Падсьведама зьяўляюцца розныя падазраньні: можа ён такі, а можа гэтакі? Можа хопе за горла й пачне душыць, бо ўсяроўна-ж ён — нябожчык, істота безадказная? Ато сьцісьне ў вабдымках і захоча цалавацца ў захапленьні, што пабыў на тым сьвеце й вярнуўся...

Але, часам можа быць.

Скончыўшы свае спажывецка-каапэрацыйныя справы, Іваноў, а зь ім і Перцаў, пад'ехалі да пахавальнага бюра. За часінаў колькі вынесьлі дамавіну — чорную. Вечка дамавіны там, дзе яно зачыняецца, было абабіта тонкай белай паперай, наводля карункаў. Ян Гуз чалавек быў абхопісты, дамавіна цяжкаватая. У машыну яе ўпхнулі сябры абодвы разам.

Едучы назад, Міцька Перцаў не садзіўся ўжо ў кабінку — спадзяваўся спаткаць жанчынак. Хацеў быць «сярод масаў». Спачатку сядзець было магчыма: крыху распагодзілася, навет сонца выбліснула. Міцька сядзеў на дамавіне і пакурваў. Але неўзабаве неба зноў зацягнула хмарамі, і паліў дождж — сьцюдзёны й няпрыемны. Міцька пастукаў у вакенца кабінкі й крыкнуў:

— Пецька! Гэй, Пецька — хачу да цябе...

Той толькі азірнуўся, наколькі гэта было магчыма пры поўнай язьдзе — і паказаў зубы.

За часінаў колькі пачулася зноў:

— Пецька, спыніся! Дождж... Ато давядзецца лезьці ў дамавіну...

Машына імчалася. І было відаць, што шофэр спыняцца ня хоча. Міцька добра вылаяўся, абазваў Іванова нягоднікам і яшчэ чымсьці ды паглядзеў на дамавіну. Месца было-б даволі, дошкі добра выгабляваныя й прыемна тхнулі хвояй. Узьняў вечка. Апусьціў пад яго ногі, а далей схаваўся і ўвесь, з шапкі зрабіўшы падушку, каб ямчэй было пад галаву. Вечкам закрыўся ад дажджу.

Машына імчалася шпарка, у дамоўцы было, як у калысцы, і Міцька неўзабаве заснуў. Тымчасам Іваноў здагнаў жанок. Ён затармазіў і праз вакно кабінкі спытаўся:

— Хочаце пад'ехаць?

— Ой, калі ласачка! Гэта-ж і кропе і сячэць...

— Сядайце. Але ня ведаю, ці будзе вам добра: у машыне дамавіна, а ў ёй нябожчык...

Нейкі час жанчыны стаялі зьбянтэжыўшыся, — ехаць, як на катафалку, ня вельмі што прыемна, — але тая сінявокая спыталася:

— А хто ў вас памёр?
— А нейкі Ян Гуз, каваль...
— А! То-ж наш чалавек. Зямля яму пухам — мы яму прыкрасьці ня зробім.

Жанчыны ўлезьлі ў машыну, перахрысьціліся на дамавіну і адна каля аднэй паселі, як ластаўкі, на берагох машыны. Каб яны што-небудзь падазравалі, або, каб машына йшла цішэй, маглі-б адразу-ж пачуць, як нябожчык храпець на ўсе застаўкі. Але ім не магло і ўдум прыйсьці, што шофэр казаў няпраўду. А што Міцькі ня было, таксама не заўважылі, бо ня цікавіліся, а мо й падумалі, што той застаўся ў месьце. Сам-жа «нябожчык», як і належа, страціў прытомнасьць нагэтулькі, што навет ня чуў, як машына спынілася і як улезьлі жанчыны.

Вецер дзьмуў сьцюдзёны. Дождж падаў спорна. Пахаваўшы твары ў хусткі, жанчынкі сядзелі моўчкі. Ды ведама-ж — на ўсё канец бывае. За колькі часу скончыўся й дождж. Выбліснула сонца. Жанчыны ажывіліся. Успомнілі Яна Гуза, і пачалася гаворка. І гэтым часам, як настрой ува ўсіх узьняўся і стаў, так-бы сказаць, пад градусам містычным — дамавіна раптам заварушылася, вечка прыўзьнялося і адтуль пачуўся голас, як пасьля казалі, — «быццам спад зямлі»...

— Ну, як там, на тым сьвеце — дождж ужо перасьціх?..

Жанчыны мала не памлелі.

А машына імчалася...

І каб хто зацікавіўся зірнуць у вакенца шафэрскай кабінкі, мусіў-бы пераканацца, што шофэр сьмяецца. Але было не да гэтага. Сьледам за пытаньнем — ці сьціх ужо дождж? — спад вечка дамавіны паказаўся насок бота. Яго было даволі. Колькі здаралася, што перапалоханы чалавек скача праз вакно навет із чацьвертага паверху. Першай з машыны выскачыла маладая, тая сінявокая. І якраз удала, хаця і бразнулася вобземлю, і перакулілася разоў колькі, перш чым падняцца. За ёю рэшта, як куры з куросадні, пачуўшы небясьпеку. Скакалі й падалі, біліся аб каменьне, ламалі косьці... У найстарэйшай шырокая спадніца трапіла ў кола; жанчыну ўцягнула у рух машыны, разы два перакруціла, згняло пад шынамі...

* * *

А паслухайце суд, які разглядаў гэтую справу. Вось ягоная пастанова:

— Шофэр Іваноў — старшыня бязбожнікаў. Ён ня мог прадбачыць фіналу гэтае сцэны...

Жанчыны дзеялі пад уплывам містыцызму...

Што да Перцава. Ня меў злосных намераў...

Апраўдаць абвінавачаных...

---

МІКОЛА ВЯРБА

# ВІТАНЬНІ

### ВАМ ШЛЮ ПРЫВІТАНЬНЕ

Жылі мы у згодзе, жылі у нязгодзе,
Калі на радзіме тварылі сваёй.
А сяньня ў выгнаньні, ў чужым мы народзе,
На ласцы, няласцы і долі адной.

Пацісьнем далоні ў дарозе на згоду,
Як роўныя з роўнымі, як змагары!
Настроіўшы ліры, праз буру, пагоду,
Супольна пайдзема да яснай зары.

Вітайце, каханыя, вітаю Вас сяньня
У нашай за прышласьць дарозе цьвярдой.
Прыймеце, прыймеце й маё прывітаньне,
Ад сэрца Вам шлець Беларус за мяжой.

20. 5. 46.

### ДЗЕНЬ УРАДЗІНАЎ

Я маю сяньня дзень радзін.
Трыццаты год мінае сяньня...
Ў дарозе я. Я сам адзін.
Дзялю няшчасны лёс выгнаньня.

А там, на родных мне палёх
Чужынец сьлёзы гора сее.
Ляжаць палеткі ў дзірванох,
Раджайных ніў загон ня сьпее.

Зларэчна крумкае крумкач
Над папялішчам майго Дому,
Заводзіць Маці ціхі плач,
І нат суняць няма нікому...

Ў чужых праходзіць дзень радзін,
Учынкі лепшага зьлічаю
І верш пішу на успамін,
Каб адчытаць калісь для Краю.

9. 4. 47.

---

З. АЛЕСІЧ

# СЫНГАПУР

I.

Сумна ў клясе. Нас толькі трое сяньня. Праз тонкі перасьценак калыханкаю гучыць голас вучня ў суседняй клясе, што чытае рэчытатывам «Слова аб палку Ігоравым».

Думкі мае далёка ад лекцыі й школы...

Яснае сонейка зазірае ў вакно. Жвавыя зайчыкі ягоныя бегаюць па абразох, — спадчыне нямецкае школы, што яшчэ нядаўна была тут. Абразы густа разьвешаныя, каб закрываць сабою дзіркі ў картонавых сьценах ДП-гімназіі. На іх пад вясёлай гульнёй сонечных зайчыкаў ажываюць твары сынгапурскіх грушчыкаў, ківаюць ветла да сіняга мора шырокія лісты какосавых пальмаў, борзьдзенька завіхаюцца пальцы зборшчыкаў бавоўны, рыпяць колы цяжкога возу, поўнага бразылійскае кавы...

Яскравасьць і пярэстасьць хварбаў змушаюць мяне заплюшчыць на адзін мамэнт вочы. Калі я ізноў расплюшчваю іх, дык зь цікавасьцяй і страхам заўважаю, што даўно ўсім нам знаёмая літаграфія «Singapore» захоўвацца неяк дзіўна. Зьніклі рамкі, малюнак траціць сваю плякатасьць і дрыжучы, як у хвалях цёплага паветра, павялічаецца ў глыбіню, набліжаецца да мяне.

Хачу штурхнуць сябру, што сядзіць побач, але рука не сустракае нічога — пуста. Я азіраюся... і валасы стаюць дуба: як і раней, я сяджу на сваёй лаўцы, але замест сьценаў восьмае клясы вакол мяне паўголыя людзі. Я пазнаю Кітайцаў з даўгімі косамі, Нэграў, Індусаў зь іхнымі стаўбунамі на галовах, шакалядавых Малайцаў. Здаецца, вакол мяне стоўпіўся ўвесь далёкі й блізкі ўсход і паўдзён. Усе крычаць, паказваюць на мяне пальцамі, ківаюць галовамі. Пераканаўны, што сплю, моцна шчыпаю сябе (падумаць — заснуў на лекцыі!)... і падскокваю ад болю. Не. Людзі ня зьнікаюць, а наадварот, натоўп расьце, і гоман, зь якога я не разумею ані слова, усё павялічаецца.

Зьбянтэжаны, я адразу ня ведаў, што рабіць, як раптам дзесь заскавытала сырэна, і рознакаляровая грамада паволі пачала рассыпацца. Неўзабаве я быў зусім адзін. І тады ўсё сталася ясным.

Лаўка мая стаяла на дашчаным памосьце-прыстані, што быў высунуты далёка ў мора. Навакол, пад зыркім сонцам экватару гуло жыцьцё гавані. Пакалыхваліся на прыездзі швартовых колькі караблёў. Да найбліжэйшага зь іх пераkінутыя хісткія дошкі сходняў, па якіх зь дзесяткаў нэграў, абліваючыся потам (ад чаго іхныя чорныя сьпіны здаваліся як выпалітураванымі), цягалі цяжкія пакі й зьнікалі з ношай недзе ў глыбіні параплаву. Усім камандаваў эўрапеец у сьнежна-белым убраньні й такім-жа шырачэзным капялюшы.

Зусім каля мяне, на баркасе, поўным зялёнае гародніны, лаяліся дзіўной гартаннай мовай два бронзавыя барадачы; а яшчэ бліжэй жменька кітайскіх кулі ніяк не магла даць рады вялізарнай драўлянай скрыні.

Мне пачало здавацца, што я недзе бачыў ужо гэтыя твары, гэты краявід і наагул усё, што паўстала вакол мяне.

Тымчасам жоўтыя кулі ўсё-ж трошкі пасунулі наперад наравістую скрыню, і перад вачыма ў мяне апынуўся надпіс: «Smith & Company — Singapore». І раптам — я здагадаўся: дык гэта-ж, гэта-ж... Сынгапур! Здагадаўся, і ад гэтае здагадкі, што гарачаю іскрою пранізала розум, ад думкі, што сталася нешта немагчымае, непапраўнае, страшное, — страціў прытомнасьць.

А порт жыў сабе далей сваім, поўным руху і гукаў жыцьцём. Ніхто ня браў увагі на самотную фігурку, што поўляжала на школьнай лаўцы (і адкуль яна тут?) сярод гораў збожжа, лесу, бананаў...

Так мінула, відаць, ці мала часу, бо калі я ачуняў ад дотыку чыесь шорсткае рукі, сонца ўжо танула ў прадоньні акіяну. Нада мной схілілася нейкая знаёмая постаць. Ага, гэта той Турак, што ў чырвонай фэсцы стаяў нярухома ў левым куце праклятае літаграфіі. Жывы, ён выглядаў інакш, а водбліск чырвані сутоннага сонца надаваў яму загадкавы, таямнічы выгляд.

Турак нешта жвава гаварыў, паказваючы рукой на мёртвую ціхую гавань. Я нічога ня ўспрыймаў з гэтае ягонае тырады. Мой розум і ўся істота нагэтулькі былі поўнымі надзвычайным здарэньнем, што ня толькі на думкі пра бліжэйшую будучыню, пра пэрспэктывы начлегу, а навет пра бягучую часіну — ня было месца ў галаве. Я быццам скамянеў і не рэагаваў нінавошта.

Мой турчына заўважыў, відаць, што ягонае красамоўства цалкам мінае мае вушы, і замоўк, потым згроб мяне зя плячо й гэстамі паказаў, што хоча весьці кудысь. Я доўга не хацеў расставацца з дарагой лаўкай — адзінай рэчай, якая зьвязвала мяне з запраўдным жыцьцём. Турак мусіў шмат страціць сілаў, каб разлучыць мяне з драўляным сябрам. Урэшце мне абрыдла гэта, я ўстаў і абыякава паплёўся за чырвонай шапкай, што мільгала наперадзе пад сьвятлом месяца, які тымчасам управіўся ўжо ўзыйсьці на небе.

Памятаю, гэтак мы даволі доўга йшлі крывымі вузкімі вулачкамі. Раптам мой праваднік спыніўся і, загадаўшы мне знакам чакаць, зьнік у цёмным праходзе паміж двума вялікімі мурамі. Чакаў я доўга. Ніхто ня прыходзіў. Няўзнак ногі мае, застояўшыся, самі крануліся зь месца. Ня ведаю, колькі я йшоў і куды, прыгадваю толькі, як адчуў, што трачу раўнавагу і зрываюся кудысь у цемру.

Вразнуўся, яшчэ і яшчэ. Здагадваюся, што грымлю па сходах. Звон разьбітага шкла, грукат і — цішыня. Ляжу і думаю — крычэць ці не? Усё цела баліць. Мацаю сябе і даведваюся, што з носу цурком бяжыць кроў.

«Ach, mein Gott, mein Gott! Was ist denn wieder los?» — чую аднекуль дрыжачы старэчы голас. Адчыняюцца дзьверы, і я замружваюся ад сьвечкі, якую трымае ў руцэ маленькі згорблены чалавечак у шляфроку, шлёпанцах і войстраканцовай круглай шапачцы на сівой, як лунь, галаве.

II.

Я сяджу пры трыногім стале ў маленькім пакойчыку, рэшта ўмэбляваньня якога складаецца з двух крэслаў і нечага, што нагадвае ложак. Па шэрых пашчапаных сьценах разьвешаныя сама нечаканыя рэчы: рыцарскі шалом з палінялымі пыльнымі пёрамі побач з аўстралійскім бумэрангам і антычнай маскай. Вокны, затканыя павучыньнем, высака — пад самай столяй. Калі хто-небудзь ідзець па вуліцы, відаць толькі абцасы. Словам, няўтульны «Lebensraum» мае Karl Johann Hörner — стары, што знайшоў мяне ў сваім памешканьні па тым, як я пералічыў усе сходкі, разьбіў шкляныя дзьверы й яшчэ мо нешта.

Але што значыць няўтульнасьць, калі перада мною дыміцца так знаёмая нямецкая кава й жаўцеюць маслам апэтытныя «Brötchen». А стары ўсё турбуецца: «Essen Sie doch bitte, essen Sie!». Я й не адмаўляюся. Пад'ядаючы, весялею. Толькі трошкі дакучае спухлы нос і пячэць змазанае ёдам калена. Недакурак цыгарэты, першую палавіну якой я скурыў яшчэ там, перад пачаткам лекцыі, канчальна прывёў мяне ў добры настрой. Гаспадар, якога я адразу ахрысьціў «Карлем Іванавічам», страшэнна рады, што можа скарыстаць з нагоды гаварыць родную мову, і таму не зачыняе вуснаў. Я ўжо расказаў яму сваю прыгоду. Ясна,паверыць ён ня можа, але мой зьбянтэжаны выгляд, урэшце, паперы, часткава пераканалі яго ў праўдзівасьці маіх словаў. Памагчы ў маім выпадку цяжка. Адзінае, што мог параіць Карль Іванавіч, было — ісьці да ўладаў і прасіцца на наступны параплаў у Эўропу. Праўда, вялікае пытаньне, ці мне хто-небудзь паверыць, яшчэ больш няпэўна, ці возьме з сабой, але трэба спрабаваць.

Прыходзіць навет думка застацца — гэта-ж бо так ёмка

пашчасьціла выэміграваць — і бяз УНРР'ы, без консулятаў, лекароў... Аднак, адкінуў яе адразу-ж. Неўзабаве матура, я мушу нарэшце мець яе ў руках. На мяне чакаюць свае людзі, і можа сумуе тая — з карымі вачыма... Не! Я мушу назад.

Гадзіньнік, які сваім вонкавым выглядам мог-бы сьмела прэтэндаваць на гонар называцца прабацькам усіх гадзіньнікаў, жаласьліва прастагнаў дзевяць. Урадавы дзень пачаўся, і я наважыў крануцца зь месца. Але Карлю Іванавічу так хацелася гаварыць. З удзячнасьці да яго я мусіў слухаць, а ён усё сыпаў і сыпаў словамі...

Аказалася, паходзіў ён із заможнае сям'і, што ад даўных часоў жыла ў Браўншвайгу. У ягоных юнацкіх гадох яшчэ было ў модзе захапленьне прыгодамі й падарожжамі. Дзякуючы гэтаму, ён апынуўся аднаго дня ў Гамбургу на транспартоўцы «Oder», што выйшаў у мора адразу-ж, як толькі малады ўцякач ступіў на яго. У бадзяньні па белым сьвеце прамінула год з дваццаць, і быўбы Карль Іванавіч капітанам, каб у часе аднаго з асабліва разьюшаных штормаў у Ахоцкім моры не раструшчыла яму нагі грузам, абарваным з прывязі шалёнай хваляй. У Сынгапуры скалечанага сьпісалі на бераг. Усе свае грошы, зьбіраныя зь нямецкай акуратнасьцяй даўгімі гадамі плаваньня, Карль Іванавіч мусіў выдаць на лячэньне. Але ён не бедаваў. Думаў, што выйшаўшы із шпіталю, ізноў возьмецца за ўлюблёную працу і зьверне страчанае. Аднак, усе надзеі давялося пакінуць. Яму сказалі, што здаровым ён ніколі ня будзе. Разьбітая костка зраслася дрэнна, і бедны Карль Іванавіч назаўсёды застаўся кульгавым. Мора-ж патрабуе здаровых людзей... Транспартовая фірма, на караблёх якой небарака плаваў, плаціла яму пэньсію. Гэтага ставала толькі на сама марнае існаваньне. Сумленьне не дазваляла прасіць у сваякоў, якіх зьмяняў ён на вольнае жыцьцё матроса. Доля неміласэрна катавала Карля Іванавіча, гора борзда застарыла яго. Але праз чорную хмару, што сыпала на калеку безьлітасныя маланкі жыцьцёвых удараў, прабіўся й сьветлы праменчык... Праўда, сьвятло гэтае не ад жыцьця паходзіла. Памёр адзіны ягоны сябра на чужыне — антыквар. Паводля тэстаманту, уся маемасьць памёрлага пераходзіла да Карля Іванавіча. Так стары марак зрабіўся собсьнікам гэтага пакойчыку й крамкі, што была пасуседзтву.

III.

Час і надвор'е добра папрацавалі над літарамі, што калісьці ганарліва зьзялі пазалотай. Цяпер яны аблезьлі, палускаліся і, здаецца, саромячыся свайго выгляду, хочуць распаўзьціся па няпрыглядным брудным муры й схавацца ў шырокія ягоныя шчыліны, каб ужо ніколі не дабрацца больш у камбінацыю: «Charls Iohn Horner Antiquary». Я кажу аб гэтым Карлю Іванавічу. Ён усьміхаецца горка: «Ich weiß...» і кульгае побач далей. Добрая душа, ён выбраўся з хаты, каб паказаць мне дарогу, і галоўнае, каб служыць за тлумача. «Цяжкая твая задача», — думаецца мне.

Мы ўжо выйшлі із сумежных з портам кварталаў. Прывыкшы да руінаў Нямеччыны, мне дзіва бачыць зусім непашкоджаныя фэшэнэбэльныя вуліцы, бясконца прыгожыя дамы, кажны зь якіх выдаецца палацам. І сады, паркі, зеляніна. Пышная трапічная зеляніна.

Я хвалюся і, найгорш, што пачуваю поўную нястачу якой-бы ні было надзеі на добры вынік. Настрой жудасны. Ціхамірны від спакойных вуліцаў, усьмешкі на вуснах шчасьлівых людзей, якім ніколі ня думалася навет, што можа здарыцца такое, як у мяне, няшчасьце, проста катуюць мяне. Я прысьпешваю хаду. Небарака Карль Іванавіч ледзь пасьпявае.

За гадзіну, можа больш, мы стаём у вялікім габінэце каля масыўнага бюро, пры якім урадуе адзін з магутных гэтага сьвету. Мой «тлумач» мачынае гаварыць. Я бачу толькі вочы таго, што слухае. Спачатку абыякавыя, пасьля, калі я паказваю свае паперы — цікавыя, тады злосныя. Ён крычыць. Разумею ўрыўкі: «Не маглі дадумацца да нічога разумнейшага... дурняў шукаеце... выносьцеся адсюль...».

Мы зноў на вольным паветры. Стары шкадуе мяне, пляцець нешта, суцяшаючы. Я-ж у вадчаі... «Вазьмеце гэта, — чую я, — гляньце, што за надзвычайная шліфоўка». Карль Іванавіч падаець мне нейкую бліскучую бутэлечку. Мармычу: «Danke» й заціскаю яе ў руцэ.

Вось і гавань, і ласкавы плёскат хваляў, і брудныя тушы караблёў. Лаўкі няма... Не! ёсьць... Яе толькі адсунулі ўбок і засланілі кіпаю бавоўны. Проста падаю ад стомы. Горача. Пот залівае вочы. Лезу ў кішэню па хустачку, нешта перашкаджае. А, гэтая дурная пляшачка! Стаўлю яе перад сабой на лаўку... І позірк прыкоўвае фантастычная гульня хварбаў на запраўды надзвычай мастацка адшліфаваных гранях. Здаецца, што флякон поўны вясёлак. А ў сярэдзіне! Быццам нехта жартам напусьціў туды дыму ад цыгарэты. Дым калышацца й прыймае штораз новыя формы.

Якая дрэнь! Што рабіць? Хочацца крычэць на ўвесь голас: «Што рабі-і-іць?!» Можа хто адкажа...

Зьняможана схіляецца галава на сьцятыя кулакі. Нейкі звон. Уздымаю вочы... Бутэлечка. Над драбамі крышталу ўзьнялося маленькае вобалачка. Не расплываецца ў паветры, а пухне, расьцець. Ужо даходзіць да мяне пах дыму — салодкі, цяжкі. З другога боку вобалачка, што вырасшы ўжо па мой рост, стаіць Карль Іванавіч. Я барджджэй згадваю, чымся бачу ягоны твар. Ён гаворыць і чамусьці, як разьвітваючыся, махае рукой. Дым засьцілае ўсё навокал... Робіцца так прыемна, агортае спакой. Удыхаю больш і больш салодкага дурнап'яну. Звоняць у віскавіцах серабраныя званочкі... Ціха - ціха... Дым... Дым... Дым...

Подзьмух ветру разганяе чароўную імглу. «Зачынеце вакно», — кажа настаўнік. «Дык гэта была формула парабалі, а на заўтра зрабеце, калі ласка, практыкаваньні №№ 6 і 8. Лекцыя скончылася. Да пабачаньня».

На калідоры звоніць званок... Перепынак...

---

**РЫГОР КРУШЫНА**

# ВЕСЬНІЯ НАДЗЕІ

Зацьвілі надзеі
У ясны дзень вясновы:
Людзі-дабрадзеі
Дом збудуюць новы.
Будуць маладыя
Ладзіць навасельле.
І пайду тады я
Да іх на вясельле.
А сягоньня сініць
Смутак мае вочы.
Сьніцца мне гасьцінец
І сяло на ўзбоччы.
Маё сэрца бачыць
Абразы старога.
Мірсьціцца, маячыць
Простая дарога.
Чараты над рэчкай
І з каткамі лозы...
І мая засечка
На кары бярозы:
Памятка спадзеву,
Што калі вярнуся,
Соку таго дрэва
Смагнучы, нап'юся.
Я нап'юся соку,
Я памаладзею.
Так... Нясу высока
Веру і надзею.

# ІЗ СУСЬВЕТНАЕ СКАРБНІЦЫ

ДЭ ЛЕМ'ЕН

## ВЫГНАНЕЦ

### ІМПРЭСІЯ.

І пайшоў ён з роднае хаты, і блудзіў па сьвеце. Хай Бог кіруе шлях беднага выгнанца.

Ён прайшоў краіны людзей, і людзі бачылі яго, і ён бачыў людзей, і яны ніколі не пазналі адзін аднаго. Выгнанец усюды самотны.

Калі на сконе дзённага сьвятла ён бачыў з глыбіні нейкае нізіны, як уздыймаецца дым з комінаў, ён казаў сам сабе: шчасьлівы той чалавек, які ўвечары ў сваёй хаце і сядзіць сярод сваіх. Выгнанец усюды самотны.

Куды бягуць хмары, якія гоніць перад сабой навальніца? Гэтак і яго гоняць, як іх — і зь якой мэтай, куды? Выгнанец усюды самотны.

Дрэвы, якія ён пабачыць, — прыгожыя, і краскі — прыгожыя, але гэта дрэвы не ягонае бацькаўшчыны, і не ягонае бацькаўшчыны краскі, іхная мова чужая яму. Выгнанец усюды самотны.

Ручайка, што ён пабачыць, бяжыць кволай плыняй па роўных гонях, але ў ягоным бурбуляваньні няма таго гуку, які чуў ён у сваім маленсьцьве; ён ня будзіць у ягонай душы ўспамінаў. Выгнанец усюды самотны.

Песьні, якія ён чуў, гучаць цудоўна, але смутак і весялосьць, што яны выклікаюць, не ягоны смутак і не ягоная радасьць. Выгнанец усюды самотны.

Людзі пытаюцца ў яго: чаму ты плачаш? І калі ён адказваў, ніхто ня плакаў разам зь ім, бо ніхто яго не зразумеў. Выгнанец усюды самотны.

Ён бачыў старых сярод іхных дзяцей, як дрэва алівы, вакол якога вырас маладнік, але ніхто з гэтых старых ня зваў яго «сынам» і ніхто зь дзяцей ня клікаў яго «братам». Выгнанец усюды самотны.

Ён бачыў дзяўчатаў, якія ўсьміхаліся хлапцом, якіх іхнае сэрца выбрала было сабе за мужоў, усьмешкай гэткай ветліва-чыстай, як павеў раніцы; аднак, ніводная ня ўсьміхнулася яму. Выгнанец усюды самотны.

Бедны выгнанец, ня ўздыхай болей! Усе людзі ў выгнаньні, як і ты, усе яны бачаць адыходзячы бацькоў, братоў, жанок і сяброў. Няма бацькаўшчыны на гэтай зямлі; дарма чалавек шукае яе тут; тое, што ён уважае за бацькаўшчыну — толькі прытулак на адну ноч.

Ён ідзець далей і блудзіць па сьвеце. Хай Бог кіруе крокі беднага выгнанца.

Пераклала **І. Дальняя.**

---

ГЭРГАРТ ГАЎПТМАН

## ЗАТОНУТЫ ЗВОН

### НЯМЕЦКАЯ КАЗАЧНАЯ ДРАМА

Пераклад НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЕ

**АСОБЫ:**

ГАЙНРЫХ — лівец званоў
ІХНЫЯ ДЗЕЦІ
МАГДА — ягоная жонка
ПАСТАР
НАСТАЎНІК
ЦЫРУЛЬНІК
СТАРАЯ ВІЦІХА
РАЎТЭНДЭЛЯЙН — стварэньне ізь сьвету эльфаў
ВАДЗЯНІК
ЛЯСУН
РУСАЛКІ
ІНШЫЯ ДРОБНЫЯ МІТЫЧНЫЯ ІСТОТЫ.

Падзеі драмы адбываюцца ў горах і ў сяльцы ля іхнага падножжа.

### ПЕРШЫ АКТ

Горная сенажаць. Навокал хвоі. Налева ў глыбіні, напоўсхаваная пад навіслай скалой, маленькая хатка. Сьпераду направа, недалёка ад узьлесься — старая каменная студня, на беразе якое сядзіць **Раўтэндэляйн. Раўтэндэляйн** — напоўдзіця, напоўжанчына — стварэньне ізь сьвету эльфаў. Яна чэша свае густыя чырвона-залатыя валасы, адганяючы пчалу, што настырліва над ёю кружыць.

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Гэй, залатая пчолка, скуль ты,
Прыйшла ты мёд зьбіраць? Пахучы воск ляпіць?
Праменчык сонейка! Не, не чапай мяне!
Ляці, не дакучай... Я косы расчасаць
Сьпяшуся залатым бабулі грабянцом.
Як вернецца яна, — мяне журыці будзе.
Ну, ну, ляці, ляці! Чаго шукаеш тут?
Хіба шыпшына я? А вусны мае — краскі?
Лепш, золатка, ляці ты ў бор, за наш ручай.
Там мята і чабор растуць, фіялкі, сон...
Прыльгні да сэрца іх, і пі, пакуль — уп'ешся!
Папраўдзе, ну, ляці-ж, ляці сабе дамоў!
Ты-ж ведаеш, — цябе бабуля штосьць ня любіць,
Яна цябе, мая мядзяначка, кляне,
Бо ў цэркві яры воск даеш ты на ахвяры...
Ці зразумела ты, што я кажу? Зьбірайся-ж!
Гэй, дзядзька комін з бабчынай страхі!
Дзьмухні сюды, дзьмухні дымком сваім сівым
І адгані пчалу! Гані-ж яе, зьвівайся,
Вось так! Яшчэ, яшчэ! Плыві, плыві, ўвіхайся!
Кыш! (пчала адлятае). Ну, пайшла. —
(Чэша валасы колькі часу спакойна, пасьля нахінаецца над студняй — крычыць углыб).
— Гэй, дзедка Вадзянік!
Ня чуе... Запяю лепш песьню я сваю.
Ня знаю я, адкуль прыйшла,
Ані куды іду.
Ці птушка мо лясная я,
Ці можа дух?
Пра краску баравую,
Што водарам чаруе

Ці-ж скажа хто таксама,
Адкуль яна між намі?
Але парой сум сэрца паліць,
Чакаю бацьку, маці з даляў.
Ды іх няма...
Тужыць дарма,
Прыгожая русалачка затое я сама!
(Ізноў крычыць у студню).
Гэй, Вадзянік стары! Хадзі сюды!
Пайшла бабуля мох, гальлё зьбіраць у хвойнік...
Страшэнна нудна мне... Скажы мне штось.
Пацеш мяне, стары! За гэта я табе
Апоўначы ўкраду з куроснаў пявуна.
Ці чуеш, Вадзянік? — А чорнага, як ноч!
Кіпіць, бурліць на дне... Бруяцца, усплываюць
Сярэбраныя бурбалкі ўгару.
Дзед выйдзе й разаб'е гладзь студні — маё люстра,
Куды я так люблю глядзецца разам з сонцам!
(Жартуючы із сваім адлюстроўкам).
Гэй, добры дзень, русалачка з глыбінь!
Хто ты, скажы? — Хто! Як? — Раўтэндэляйн?
Ты хочаш быць найпрыгажэйшай? Глянь
Якая! О... Ды я-ж — Раўтэндэляйн!
Гаворыш ты, што не? Паказаваеш пальцам
На парасткі грудзей сваіх? Глядзі!
Ці-ж ня прыгожая, як Фрэя, я? Ці-ж пыл
Маіх бліскучых кос ня з сонечнай імглы?
Мігцяць яны, зігцяць, як золата, як медзь,
Як полымя, гараць у чорным люстры студні.
Паказаваеш мне, што зьзяюць і тваё?
Расьцягаваеш іх, як залатыя сеці
На рыбкі ў глыбіні? — Лаві-ж, дурніца,
Каменчыка у іх, лаві й загіне ўраз
І харство тваё, і ты... Я-ж тутка застануся!
Дзядок, хадзі! Ўдваёх хутчэй правесьці час!
Ідзе... (Вадзянік да паловы паказваецца із студні).
Ха, ха, ха, ха! Ты няпрыгожы, не!
Хоць клічу я цябе, — у дрыжыкі мяне
Кідае кажны раз, як стрэнуся з табою!
ВАДЗЯНІК (Багавіньне ў валасох, увесь мокры, порскае, як морж, моргае вачыма, пакуль ня прывыкне да дзённага сьвятла).
Брэкэкэкэкс!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (перадражняе).
Брэкэкэкэкэкс! Але!
Вясною пахне, што-ж дзіўнога, тут усе
Ўжо знаюць гэта, нат найменшы зь лясунят.
І мушкі, й камары, і яшчаркі, й жукі,
І рыбкі у вадзе, і выдры, й чарвякі,
І вецер веснавы, і краскі, й зёлкі, й лес
Як можаш ты ня знаць?
ВАДЗЯНІК.
Брэкэкэкэкэккс!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Ну, і чаго-ж ты варт, калі праспаў вясну?
ВАДЗЯНІК.
Брэкэкэкэкс! Схавай свой доўгі нос! Але!
Ці зразумела? У... вавёрка, сойка ты!
Шалупка ад яйка, шчанё сьляпое, жабка,
Бяскрылы ты матыль, вядома, так,
Кажу я кворакс, квак, квак, квак!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Хоча пан-дзядзька пазлаваць, —
Буду тымчасам танцаваць
Сябраў вясёлых дось у мяне,
Кажны да рэзвай красуні ільгне!
ЛЯСУН (за сцэнай — ускрыквае).
Го-го-го-го!
Э-эх! Ух, эй я! Кажны ільгне!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Гэй, лясунок, хадзі скакаць!
ЛЯСУН.
Як не патраплю скакаць я патвойму,
Буду скакаць, як алені на пойме.
Не да спадобы — ў сакрэце штось маю,
Пойдзем вось толькі ў хмызьзё, што пад гаем.
Ёсьць там вярбіна, старая, як сьвет,
Што пятушынага крыку ня чула
Шчэ у жыцьці, — ані хваляў тых гулу...
Зрэжу жалейку табе пад вярбою,
Ўсе пад яе мне заскачуць...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
З табою?
Гэй, казадой, а ну, прэч капыты!
Скоч па дрыгвянку сваю ў балаты!
Глянь, што за я! Дык ці-ж мне быць тваёй?!
Кыш, уцякай, ты мне пахнеш казой...
Тупай, скачы к лясунісе дамоў.
Родзіць яна дзень у дзень дзіцянё,
Трое — ў нядзельку, дык колькі ўсяго?
— Дзевяць карэлых, брыдкіх лясункоў!
Ха-ха-ха... (Із сьмехам уцякае ў хату).
ВАДЗЯНІК.
Брэкэкэкэкэккс! Ну й дзяўчына — агонь!
ЛЯСУН (які кінуўся быў за дзяўчынай, але прыпыніўся).
Рукі сьвярбяць, каб яе прыпыніць!
(Выймае люльку й закурвае, запаліўшы запалку аб капыт).
ВАДЗЯНІК.
Ну, як у хаце йдзецъ?
ЛЯСУН.
Так-сяк, стары, так-сяк!
У лагчыне у вас цяплінь, вясною пахне,
А ў нас там, у гары — ірвецъ, гудзецъ віхор!
Абрыўкі хмар сівых бадзяюцца між скал,
Льлюць за каўнер ваду, хай іх маланка спаліць,
Як з губкі мокрае... Эх, сьвінства дый усё!
ВАДЗЯНІК.
Мо чуў навінку дзе?
ЛЯСУН.
Навінку? Ўчора я —
Ўжо шчаўя ўсмак пад'еў...
Цяпер на ранку ізноў
Далоў я зыйшоў,
Проста ўзяўшы кірунак
Аж у даліну, ў лясок...
Скалы там ломяць, капаюць пясок —
Чысты рабунак!
Мне так нічога ня гадка, як «іх»
Праца пры цэрквах, капліцах «сьвятых»!
Проста ня зношу званоў я праклятых!
ВАДЗЯНІК.
Звычаю — хлеб з кменам пекці па хатах!
ЛЯСУН.
Толькі-ж дарэмна тут енчыць, ох, ах!
Зубы трэ сьціснуць... У гару іхны гмах
Борзда расьце, каб прапаў ён, —
Зь вежамі вузкімі, шпілем званіц,
З крыжамі у вышыні.
Каб ды ня спрыт мой, той звон
Роў-бы даўно ўжо, як зьвер
Зь вежы высокай, павер,
Роў-бы й нам сэрцы ірваў.
Ну, а цяпер — супачыў ён на дне.
Пеўнем бажуся, чын — варты мяне!
Раз я стаю у траве густой
Пад горнай сівою сасной.
У губе былінку дзяржу, ад злосьці, ну, сам ня свой.
На цэркву ўнізе гляджу —
Жудзь!
Аж бачу — паўзецъ праз сухое гальле
Чырвоны, як кроў, матылёк.
Нясьмела ён пнецца то ўгору, то ўніз,
Ну, быццам тут краскі, ня скалы і пні.
Я клікнуў яго... матылёк мне узьлез
Тады на руку...
Пазнаў я адразу ў ім сябру зь ляску.
Ну, ён і сыпнуў!
Што нéдзе ля ставу
Ўжо плодзяцца жабы,
Што краскі пчол вабяць,
Ну й нёс мне ману.
Пасьля — ўзяў, пусьціў сьлязіну...
Яго я усьцешваў, як мог,
І зноў ён у байкі улёг.

— «Пад крыкі і грук, напалову зь бядой,
— Гаворыць, — штось цягнуць людцы сюдой,
Зялезную бойку на масла, ці што,
Ці знае хто?
Ну й гадка, ну й страшна яна выглядае,
Хто гляне — у лесе ўсіх жах абыймае...
А хочуць людцы гэта нешта, ці чуў ты?
Высока у цэркве падвесіць і спутаць, —
І кіем зялезным біць дзіва штодзённа;
Нас енкам ягоным даводзіць да скону».
Як крыкнуў я: праўда? — як гойкнуў я: го-го!
Аж той матылёк мой прыгнуўся няраўды,
А я у казінае рынуўся стада,
Эх, там малачка насмактаўся густога!
Тры выймі мо выпіў, ня буду маніць,
Даярка ня выцісьне ўжо ані-ні.
Крыху адсапнуўшы, па скалах рудых
Узьлез я на грань і цікую з гары,
Як цягнуць цяжар чалавечкі... няхай,
Узяў я сыпнуў ламачча ім на шлях!
Васьмёра канягаў з апошняе сілы
Мядзянага зьвера цягнулі па схілах.
Напружыўшы сілы, прыгнуўшы калені
За коньмі ўтроп людзі паўзьлі праз каменьне,
Зацеміў я добра, што цяжкія колы
У жвір уразаліся аж да паловы.
Ну, я й дапамог — на лясунскі манер,
— Якраз над абрывам мядзяны быў зьвер —
Стаеньнікам, вер...
За кола я хоп: тут шпрыхі — трэсь!
Падаўся, здрыгнуў звон увесь.
Яшчэ штуршок, яшчэ разок
Ляці ў прадоньне старчма, браток!
Гэй, гэй, як уніз
Ён ляцеў і званіў,
Зялезнаю куляй імкнуўся з гары,
Каменьне і скалы разносячы ўдрызг.
Як вар, закіпела вада ў даліне,
Прыймаючы звон мой... Хай сьпіць там на дне...

(У часе лясуновага апавяданьня пачало сутунець. Пад канец колькі разоў пачуўся ў лесе слабы крык аб дапамозе. Цяпер зьявіўся й сам **Гайнрых**, хворы, стомлены, цягнучыся да будовы. Лясун адразу гіне ў лесе, Вадзянік у студні).

ГАЙНРЫХ (30-гадовы лівец званоў, бляды, пакутлівы твар).

Людцы мае вы! Чуеце? Зблудзіў я...
О, адчынеце мне. Пабіўся я ўвесь!
Ратуйце, людзі. Сілаў... больш... ня маю... людзі...

(Ён млее, падаючы ў траву недалёка ад дзьвярэй хаты. Чырвоныя хмары плывуць праз горы. Сонца заходзіць. Вее лёгкі ночны вецер. Старая **Віціха**, з кошам за плячыма, выходзіць зь лесу. Валасы ў яе сівыя, нічым не пакрытыя, ейны твар больш падобны да мужчынскага, чымся да жаноцкага. Барада зарасла сівым пухам).

ВІЦІХА.

Рутандля, памажы-ж кашолку сьцінуць!
Крыху перадала я хіба... Ну, хадзі-ж!
Ох, замарылася... Ды дзе-ж дзяўчына тая?
(да кажана, які пралятае міма)
Гэй, кажанок, ляці-ж, ляці сюды.
Пасьпееш паляваць, вось бабцы прыслужыся:
Пастукай у вакно з разгону ты крылом,
Мо дзеўка і пачуе, ды скажы ёй,
Каб зараз-жа сюды ляцела да мяне...
Ой, быць сягоньня буры-навальніцы!
(пагражае небу, якое ўспыхвае бляднымі маланкамі).
Гэй, ня так дужа! Ну, ты у мяне глядзі...
Цішэй, Пярун, цішэй, чаго трасеш сваёю
Чырвонай барадой у вочы. Гэй,
гальлё!
(да вавёркі, якая скача празь сьцежку).
Вавёрачка, табе я жменю дам гарэшкаў
Буковых, — скоч дамоў, ты-ж лёгенькая, сьпешка,
І борзьдзенька пакліч сюды маю дзяўчыну,
Скажы: няхай ідзець барджджэй... Мне збрыдла
(трапляе нагой на Гайнрыха)
стыгнуць.
А гэта хто яшчэ? Хто тут разьлёгся? Гэй,
Што робіш тут? Знайшоў якраз дзе расьцягнуцца?
Ўстань, хлопча! Не, маўчыць, ня чуе навет... Што,
Як ён памёр? Оей, Рутандля, вось бяда!
Шчэ не стае, каб надыйшлі сюды зьнячэўку
Цяпер бурмістар і каханы наш сьвятар.
Цкуюць і так яны мяне, маўляў сабаку,
Вясёла ім было-б, калі-б мяне яны
Зь нябожчыкам знайшлі... Пайшла-б хацінка
Як смольны корч! Гэй, ты!
з дымам,
Ўставай! Ня чуе... не...

(Раўтэндэляйн выходзіць з хаты і зь немым пытаньнем глядзіць на бабку).

Ну, вось нарэшце й ты! Зірні-ж, якога госьця
Нам лёс ласкавы даў... — А што за ён? Ціхі,
Рахманы...
Скоч, вазьмі, па жмут якога сена,
Трэ падаслаць яму...

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

У хаце?

ВІЦІХА.

Вось яшчэ?
Дось будзе й на дварэ,
Ня пан які... Дык борзда! (Ідзець ў хату).

(Раўтэндэляйн зьяўляецца за часіну зь вязкай сена ў руках, яна нахінаецца над Гайнрыхам, які адчыняе якраз вочы).

ГАЙНРЫХ.

Дзе гэта я? Дзяўчынка, раскажы.

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Дзе? — ў горах ты.

ГАЙНРЫХ.

Але, у горах? Толькі — як трапіў я сюды?

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Ну, гэтага табе, чужына, не скажу я.
Ня ведаю... нашто-ж аб гэтым думаць?
Дось.
Тут сена, мох, бяры, кладзіся й спачывай,
Бо адпачынку ты канечна патрабуеш.

ГАЙНРЫХ.

Так, трэба адпачыць... Ой, праўду кажаш ты.
Ды дзе-ж, калі спачну? Далёка мой спакой...
(Неспакойна).
Хачу, я мушу знаць, што сталася зы мной.

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Каб знала-ж гэта я...

ГАЙНРЫХ.

Я думаю, што мне...
Я думаю... і сном ізноў мне ўсё здаецца...
Але: я сьню й цяпер.

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Напіся малака.
Бач, ты слабы зусім, напіся — знойдзеш сілы...

ГАЙНРЫХ (із смагай).

Так, піць... Я піць хачу...
Давай, што маеш ты
(п'е із збанка, які яна яму падтрымвае).

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Здаецца мне ,што ты у горах тут чужы,
Ты пэўна з тых людзей, што жыць унізе звыклі.
Нядаўна ў нас тут быў адзін...
таксама ён
Зблудзіў між скал дзікіх, ідучы за казою,
І сУступіўся... й сьмерць знайшоў сярод хваін.
Але здаецца мне, — ён быў зусім інакшы...
Так, нейкі іншы ты...

ГАЙНРЫХ (з экстазам).

О, гавары яшчэ!
Пітво мне моц дало, йшчэ болей моцы — словы
(ізноў ападае, апанаваны думкамі).
Інакшы чалавек — шмат лепшы чалавек!
І гэтакія мруць. Кажы-ж яшчэ, дзіця?

РАЎТЭНДЭЛЯЙН.

Што з гутаркі мае... Пайду я лепш вадзіцы
З крыніцы прынясу **сьцюдзёнае абмыцца,**
Абцерці пот і кроў...

ГАЙНРЫХ (з просьбай у голасе).
О, не, ня йдзі, ня йдзі!
(Бярэць Раўтэндэляйн за руку, і яна затрымваецца ў няпэўнасьці).
Глянь проста ў вочы мне... Загадкаю — твой зрок,
Адбіты ў ім наш сьвет адноўлены, ціхі,
У ім і горы, й сінь нябёс, і хмараў статі...
Такім салодкім ён здаецца зноў...
Пабудзь!
Пабудзь, дзіця...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Няхай, пабуду я з табою.
ГАЙНРЫХ (у гарачцы, молячы).
Дзіця, ня йдзі, пабудзь,
Дзіця, не адыходзь!
Ня ведаеш ты йшчэ, кім для мяне ты сяньня.
О, ня будзі,
хадзі, скажу табе я штось.
— Я — ўніз зьляцеў...
ды не, лепш ты, лепш ты кажы.
Нябёсны голас твой мяне спакоем поіць,
Я слухаю, я п'ю...
Чаму-ж ты змоўкла зноў?
Чаму ты не пяеш?
Эх, глыбака удол
Зваліўся я, кажу, і сам ня знаю — як?
Мо пасьлізнуўся я на сьцежцы камяністай,
Мо хтось папхнуў мяне, ня хочучы, ў прадоньне?
Адно — зваліўся я...
Каменьне й пыл густы
ў дол рынулі за мной.
Хапіў за вішню я.
Ты ведаеш, расла
Дзікая вішня вішня там... між шэрых скалаў.
Камельчык стройны я ўхапіў, ды трэснуў ён
І я, засыпаны пялёсткамі, як пенай
Ружовай, лёгкаю — у продань рынуў,
І там памёр... і я... цяпер нябожчык.
Скажы, што так... і што... мяне ня збудзяць больш
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (няпэўна).
Не... ты — жывеш...
ГАЙНРЫХ.
Але... але... ня ведаў я,
што сьмерць — жыцьцё, жыцьцё-ж, як ні круціся — сьмерць.
(з тугою).
Зьляцеў я... жыў, зьляцеў далоў і звон зьляцеў
Абое, я і ён... ці я раней, ці ён?
Ці мо наадварот? Ці-ж хто пазнае праўду?
Калі-ж пазнае — мне ўсёроўна будзе й так:
Тады я быў жывы... цяпер... я ўжо нябожчык.
(мякка).
Будзь... Вось рука... глядзі... як малако яна, —
Мая рука, ды ў ёй ня кроў, а волаў... Навет
Не падыму яе... Але плывець агонь
Па жылах, калі ты ледзь-ледзь яе даткнешся...
Ня йдзі, дзіця...рука — мая бяз сказы... ты-ж
Сама — сьвятая...
Я — цябе сустрэў калісь,
Я мроіў аб табе... я голас твой стараўся
У золата званоў уліць, каб звонам ясным
Вітаці сонца ўсход... але ня мог, ня мог!
Крывавымі сьлязьмі я плакаў...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Як так? Плакаў?
ГАЙНРЫХ (спрабуючы ўзьняцца).
Прыпадымі мяне,
О, любка ты мая!
Схініся да мяне, пяшчотнымі рукамі
Ад шэрае зямлі на момант адарві!
Як з крыжа зьняты я... папесьць мяне — ты ўмееш
Чароўна песьціць... я пазнаў, як песьціш ты...
Хадзі, з майго чала зьнімі вянок цярнёвы —
Ён колецца... Ну вось... Вянца я не хачу —
Хачу каханьня я!
(Ён ізноў ападае, змучаны).
Так, дзякую табе!
(Мякка й зьбянтэжана).
Чароўна тут... Інакш, чым там, але прыгожа...
Зялёнае гальлё хваінаў нады мною
Зьвініць... Глядзі, яны ківаюць галавою
Так ветла нам... Усё, бы ў казцы тут,
і казкай
Лес дыхае ціхой... Яна плыве з гушчараў,
Шасьціць сьцяблямі зёл і капае з гальля.
Я бачу праз імглу... Яна ідзе, плыве
Зблізжаецца да нас, выцягвае рукі
І пальцам белым цэліцца ў мяне!
Вось... Вось яна даткнулася вушэй,
І языка, й вачэй...
пайшла... а ты пры мне...
Ты — казка! Казка... пацалуй мяне! (млее).
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Гаворыш дзіўна ты... цябе — не зразумець!
(борзда, хочучы адыйсьці).
Ляжы-ж і сьні тут...
ГАЙНРЫХ.
Казка... пацалуй мяне!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (Прыглядаецца да яго... Цямнее... раптам яна ўскрыквае із жахам і тугой).
Бабуля!
ВІЦІХА (з хаты).
Дзеўка?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Ой, хадзі сюды!
ВІЦІХА.
Хадзі лепш ты сюды.
Трэ падпаліць у печы.
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Бабуля!
ВІЦІХА (з хаты).
Што яшчэ? До, слухай і хадзі!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Бабуля! Памажы... яму, ён — паміpае!
ВІЦІХА (зьяўляецца на парозе хаціны, у вадной руцэ ў яе збанок малака, другою яна вабіць кошку).
Кіс, кіска...
Ну, такі ўжо іхны людзкі лёс!
Сканаць із іх мусяе кажны гэтак,
Дык хай канае... Ты — нат не чапай, ня йдзі.
Кіс, кісанька, хадзі... На, малачка напіся...
Ды дзе-ж ён, наш каток?
Гуля, гуля, хлопцы-лясункі!
Вось вячэра вам салодкая ў збаночку,
Гуля, гуль, лясныя вы жанкі,
Хлеба сьвежага вазьмеце па кусочку...
Маеце што грызьці і хляптаць,
Толькі-ж ня круціцца, не лятаць!
(Каля дзесяцёх маленькіх сьмешных чалавечкаў борзда выбягаюць зь лесу й кідаюцца да збанка).
Гэй, ты!
Узьлез чаго сюды?
Табе — кусочак,
Табе — глыточак,
Есьці ўсе хочуць!
Што тут за піскі? Ну, цішай
Што таўчыцёся, як мышы?
Гэтак ня можна,
Кожны
Сыт, будзе, годзе-ж
Ой ты, народзе!
Толькі-б сварыцца ды біцца!
Кыш мне ў бор, да крыніцы!
(Лясныя чалавечкі ўцякаюць у лес. Узыходзіць месяц. На скале над хатай зьяўляецца Лясун. Злажыўшы рукі трубой і прыклаўшы іх да вуснаў, ён крычыць, насьледуючы рэха).
ЛЯСУН.
Гэй, гэй, ратуйце!
ВІЦІХА.
Што там?
РЭХА (здалёк з глыбіні лесу).
Гайнрых, Гайнрых!

ЛЯСУН (як вышэй).
Ратуйце! Го-го!
ВІЦІХА (трасецца кулаком).
Кінь нарэшце свае штукі,
З твайго крыку мы паглухлі.
Любіш шкодзіць, барадаты
Ці вандроўнікаў падводзіць
У дрыгву заводзіць, злодзей,
Дзе на купінах нябогі
Ломяць рукі, ломяць ногі.
ЛЯСУН.
Бабулька! Пільнуй лепш уласных!
Вітай, бяжы госьцікаў ясных,
Хто гэта пляцецца наконцы?
Цырульнік зь мядніцай, як сонца.
Хто гэта наперадзе пнецца?
Настаўнік з рукою на сэрцы,
А поп наш сьвяты паміж імі,
Ці-ж гэткіх з пашанай ня прыймеш?
РЭХА (бліжэй, чым раней).
Гайнрых!
ЛЯСУН (як вышэй).
Ратуйце!
ВІЦІХА.
Каб трасца вас трэсла!
Ну і гасьцей сюды немач прынесла!
Сядуць на карак! (пагражае Лясуну кулаком).
Чакай-жа ты, зводнік!
Будзеш мне каяцца! Гіль я сягоньня
Ўночы нашлю на цябе! Ой, пазнаеш,
Пыскі авад да крыві пакусае,
Скуру патне на табе, быццам сітца,
Будзеш ты, гад, уцякаць і прасіцца!
ЛЯСУН (із злой радасьцяй).
Ідуць, бабуля!
ВІЦІХА.
Хай, што мне да таго?
(да Раўтэндэляйн, што ўсё ня можа адарваць вачэй ад Гайнрыха).
Дамоў
хадзі барджджэй, гасі вагонь ды спаць кладзіся!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (панура, наравіста).
Я не хачу!
ВІЦІХА.
Чаму?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Ну, не хачу, і ўсё!
ВІЦІХА.
Чаму?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Яны яго — забраць з сабой захочуць.
ВІЦІХА.
Ну, што-ж, няхай бяруць...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН.
Я ім яго ня дам!
ВІЦІХА.
Ну, дзеўка, дзеўка, до... хадзем, дапраўды, спаць.
Хай ён ляжыць сабе пад горамі, пад небам,
Хай робяць зь ім яны, што хочуць...
Так ці так,
Памерці трэ яму цяперака, ці потым.
Нат лепш, калі-б цяпер... прынамся супакой
Аднойдзе,
Глянь, як ён хрыпіць, відаць, што сэрца
Бяздольнаму баліць...
ГАЙНРЫХ (трызьніць).
Адходзіць сонца!
ВІЦІХА.
Што-ж, яго ніхто ня зловіць...
Хадзем, хай ён ляжыць...
Так будзе, дзеткі, лепш! (Ідзець ў хату).
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (застаецца адна, прыслухоўваецца. Ізноў чуваць крыкі: «Гайнрых, Гайнрых». Тады дзяўчына ломіць акрытую цьветам галіну й рысуе ёю навокал Гайнрыха кола на зямлі, прыгаворваючы):
Ня цікуй ты, ноч, за мною.
Я расьцьвілай галіною
Кола дзіўнае кладу.
Хай усе сюды ідуць.
Не пабачыць ім яго!
Мой ён —ім ня ўзяць майго!
Не пяройдзе кола век
Ані зьвер, ні чалавек,
Ні жанчына, ні дзіця,
Ні русалка, — толькі я! (Хаваецца ў цень).
(Пастар, Цырульнік і Настаўнік выходзяць адзадзя зь лесу).
ПАСТАР.
Агонь відаць!
НАСТАЎНІК.
Але!
ПАСТАР.
Дзе-ж гэта мы?
ЦЫРУЛЬНІК.
А знае
аб гэтым хіба Бог.
Ізноў гукае хтось:
«сюды, ратуйце»...
ПАСТАР.
Ну, зусім, як майстраў голас!
НАСТАЎНІК.
Ня чуў нічога я...
ЦЫРУЛЬНІК.
Я чуў і вам скажу... той голас плыў з гары.
НАСТАЎНІК.
Магло-б так быць, калі-б
Уніз зьляцела неба.
Як валіцца хто з нас, куды ляціць ён, га?
З гары удол, а не ўгару з прадоньня,
І майстра наш ляжыць, каб вам тут не зманіць,
Дзесь шмат ніжэй за нас,
а ня высока дзесьці!
ЦЫРУЛЬНІК.
Цьфу! Ну й трашчыць!
Няўжо ня чулі й крыкаў вы?
Бажуся, што калі ня майстра гэта там,
Я бараду згалю Люцыпару самому!
Інакш ня быў-бы я цырульнікам, браткі!
Ізноў... ізноў...
НАСТАЎНІК
Але, дзе-ж бы, нарэшце?
ПАСТАР
Ды дзе?
Скажэце, спадары, я-ж мушу гэта знаць!
Мой твар аж да крыві пабіты,
Ледзьве, ледзьве
Я ногі ўжо цягну, так косьці ўсе баляць!
Ня йду вышэй я, не...
(Крык — «Ратуйце»!)
ПАСТАР
Зноў, ці чулі?
ЦЫРУЛЬНІК
І блізка каля нас, мо крокаў сем у бок.
ПАСТАР (сядае стомлены).
Як паламаны я. Не, сябры дарагія,
Далей я не пайду, прашу іменьнем Божым
Вас не цягнуць мяне. Адразу зьбеце лепш
На горкі яблык, — больш ні кроку не зраблю я!
Ну, не магу, і ўсё!
Такое-ж сьвята, Божа!
І скончылася так жахліва... Неба, неба!
Ці-ж мог падумаць хто? А гэты звон чароўны,
Чаканы так даўно, найлепшы майстраў твор!
Так, цёмны Божы шлях для нас, малых і грэшных,
Але і мудры ён...
ЦЫРУЛЬНІК
Што, дзе запраўды мы?
Пытаецеся вы, куды нас, войча, лёс
Занёс? Дык вось, я вам ад сэрца, шчыра раю:
Далей, далей, барджджэй ісьці адгэтуль — буду
Ў мурашніку лепш спаць я голы ноч ці дзьве,
Чым тут даўжэй сядзець, бо мы — хай крые Бог,
Зайшлі ў найгоршы кут, — нячысты «срэбны лог».

Ня больш, як крокаў сто—праклятай ведзьмы хата,
Тут Віціха жывець! Хадзем! Баржджэй, далей!

ПАСТАР

Зьнясілеў я зусім...

НАСТАЎНІК

Хадзем, прашу, хадзем-жа!
Што ведзьмаў процьма тут —
Бяда зусім ня ў тым,
Не, ведзьмы — гэта міт, баяцца іх ня варта.
Але праклятьі кут — прыпынішча зладзюг,
Разбойнікаў нара, бандыцкіх сходаў месца!
Тут могуць пакалоць нас, быццам парсюкоў,
Зарэзаць без нажоў! Каб той Пятрусь, што з жахам
Спазнацца так жадаў, тут быў—дык меў-бы досьць!

ЦЫРУЛЬНІК

Што ведаеце вы, спадар настаўнік, колькі,
Два разы будзе два — я веру, але тут
Зусім другая рэч, і шчыра вам жадаю
Ніколі не пазнаць ні ведзьмароў, ні чар!
Як жаба у нары, расьселася тут ведзьма,
Што можа урачы, наслаць хваробу, пошасьць
На вас, на статак ваш, на коні, на пчалу...
Мест малака — вам кроў пачнуць даваць каровы,
Спануюць рабакі авечак, здохне конь,
Благія скулы, мыт падуць на дзетак вашых,
А мо і горш, калі ахвота прыйдзе ёй...

НАСТАЎНІК

Э, трызьніце, спадар. Вам ноч мазгі зьмяшала,
Дык ведзьмы ў галаве! Ці верыце, ці не,
Яго я бачыў гэтта собскімі вачыма.

ПАСТАР

Каго?

НАСТАЎНІК

Каго? Таго, што мы шукаем — майстру.

ЦЫРУЛЬНІК

Вас ведзьма, знаць, зьвяла!

ПАСТАР

Так, дух нячысты дужы!

НАСТАЎНІК

Ня ведзьма і ня дух,
два разы два ня пяць,
Але чатыры, так, і ведзьмароў няма.
А там ляжыць ня дух, а майстра-літнік Гайнрых,
Клянуся ў гэтым вам сьвятым збаўленьнем я!
Зыходзіць хмара... вось, вось месяц выйдзе... там —
Ён там ляжыць.
Цяпер, глядзеце, што, ня праўда!?

ПАСТАР

Здаецца, майстра!

ЦЫРУЛЬНІК

Ён, лівец званоў, напэўна!

(Усе кідаюцца туды, дзе ляжыць Гайнрых, але ня могуць
перастуліць зачараванага кола й адскокваюць назад).

ПАСТАР

Ай!

ЦЫРУЛЬНІК

Ай!

НАСТАЎНІК

Ай! Ай!

РАЎТЭНДЭЛЯЙН: (зыскоквае з галіны дрэва і, мільгануўшы ім перад вачыма, гіне ў цемры з дэманічным сьмехам).

Ха-ха-ха-ха-ха-ха-...
(Паўза).

НАСТАЎНІК (Зьдзіўлена).

Што гэта тут было?

ЦЫРУЛЬНІК

Хто гэта быў?..

ПАСТАР

Чуў сьмех я.

НАСТАЎНІК

З вачэй маіх снапом сыпнулі іскры,
Як быццам дзірку хто у чэрапе прабіў
З гарэх увелькі...

ПАСТАР

Ну, а сьмех, ці чулі вы?

ЦЫРУЛЬНІК

Я рогат чуў ды йшчэ і скрыгат быццам нейкі..

ПАСТАР

Сьмяялася яно... Зыскочыла з сасны,
Што ў месячнай імгле разгортавала гольле
З тэй, дзе цяпер, як сьцень, пранеслася сава!

ЦЫРУЛЬНІК

Дык верыце цяпер, што ведзьмы злыя-гэта
Ня жарт, і што ядуць яны ня хлеб адзін?..
Ад страху у мяне аж дрыжыкі пайшлі
Па скуры... А у вас? Ну, і благая немач!

ПАСТАР (уздыймаючы ўгару крыж, станоўка кіруецца да хаты).

Хай будзе нат і так, хай сам Люцыпар нас
Чакае там, я йду, я не баюся злога!
Адгонім чары мы магутным словам Божым,
Бо толькі раз адзін у белы дзень шатан
Патрапіў зьвесьці нас і сьпеўны звон, і майстру
Пабожнага з гары ў прадонны змрок сьпіхнуў!
Ён Божы быў слуга, і новы звон — таксама.
Ці-ж д'ябал мог сьцярпець, каб літнік твор сьвяты
Завесіў угары і Госпада ім славіў?!
Хадзем памсьціць ліўца, і з намі будзе Бог!
Я стукаю...

ЦЫРУЛЬНІК

Не, не...

ПАСТАР

Пастукаю я ўсё-ж! (стукаецца).

ВІЦІХА

Хто там?

ПАСТАР

Хрысьцяне!

ВІЦІХА

Мне —
Адно — ці вы хрысьцяне,
Ці не... Чаго вам трэ?

ПАСТАР

Чаго! Гэй, адчыняй!

ВІЦІХА (адчыняе й выхінаецца з-за дзьвярэй, зь ліхтаром у руцэ).

Ну што, чаго ў мяне вы тутака згубілі?

ПАСТАР

Імём Айца, што ты, нажаль, ня прызнаеш...

ВІЦІХА

Ды ці ня казань ты манішся мне тут правіць?

НАСТАЎНІК

А, зельле чортава, замкнеш ты ляпу мне?
Ўжо зважаны твой грэх і вымерана кара,
Паскуднае жыцьцё, агідныя учынкі
Твае абрыдлі ўсім! Ня сьцерпіць больш народ
Такую погань...
Так, калі ня будзеш ты
Нас слухацца, дык знай, чырвоны певень зараз
Залопае крылом на гэтай вось страсе
І чортава гняздо тваё —
ўсё пойдзе з дымам!

ЦЫРУЛЬНІК (хрысьцячыся раз-по-раз).

Я не баюся, не, вачэй тваіх благіх,
Праклятьі кот! Чаго ня бачыла ў мяне?
Надарма ўрокі шлеш чырвонымі вачыма:
Куды ні глянеш — там я Божы крыж кладу!
Баржджэй! Рабі, што трэ! Давай яго сюды!

ПАСТАР

Імём Айца, што ты ня чула навет, ведзьма,
Кажу я зноў — пакінь урокі ты свае
Шатанскія і нам, як трэба, памажы!
Ляжыць там чалавек, лівец — слуга Хрыстовы,
Якому талент даў на славу сваю Бог
Тварыць, а чары, звод, пякельных сілаў зграю
Нізрынуць загадаў, каб неба славіць лепш!

ВІЦІХА (зь ліхтаром у руках пасоўваецца ў кірунку да Гайнрыха).

До, до, хлапчына ваш, бярэце, калі трэба.
Ня ведаю аб ім нічога... ваш ён, ваш...
Па мне, — няхай жывець сабе хоць век, нябога,
Калі патрапіць... Хоць ён не пацягне доўга,
Здаецца мне, ўжо ў неба ён глядзіць...

Дык майстра, кажаш, ён? Ягонае майстроўства
Для нас ня мёд... Ну — вам — прыемна слухаць енк
Званоў, што выліў ён, бо вушы даў вам лёс
Із дрэва хіба... Нам ягоны новы звон
Не да спадобы, ды й яму самому — так-жа.
Хацела-б ведаць я, адкуль зьляцеў хлапец,
А мо прыйшло яму самому ўдум зыскочыць?
Насілы вашы дзе? Бярэце-ж хлопца! Эх!
Вялікі майстра ваш, як малако, зьбялеў.
Устань!
Ты-ж сьвятару для казаняў патрэбен,
Настаўніку — дзяток паможаш лупцаваць,
А Галібарадзе — ўзьбіваць на пену мыла!
(Гайнрыха кладуць на насілы, Цырульнік, Настаўнік падыймаюць іх).

ПАСТАР
Агідная, бяссорамная баба,
Ідзі-ж, куды вядзець
Цябе твой чортаў шлях!

ВІЦІХА
Даволі, годзе, дось, казалы вашы чула.
Я ведаю й бязь іх, што ў вашай галаве
Дурной зямля — труна, а сінь нябёсаў — века
Над гэтаю труной, а зораў медзь — цьвікі...
Што сонца ў вас — адно дзіра ў прасторы, лата,
Што зьгінуў сьвет даўно-б, каб ня было папоў,
І што наш добры Бог — блазьнюк і больш нічога!
Эх, гляньце на сябе! А самі вы — дык што?
Сабачая хвасты, але, яшчэ нат горай!
(із грукам зачыняе дзьверы).

ПАСТАР
Ну й ведзьма!

ЦЫРУЛЬНІК
Ціха, тсс... імём нябёсаў — ціху!
Нашто яе дражніць? Наклічаце бяду...
(Яны адыходзяць, забіраючы Гайнрыха. З-за хмараў выходзіць месяц і ліе мутное сьвятло на лес ціхі, на лог. Выходзіць рой эльфаў і круціцца й пяець у ночным карагодзе).

ПЕРШАЯ РУСАЛКА (шэптам).
Сёстры!

ДРУГАЯ РУСАЛКА
Сёстры!

ТРЭЙЦЯЯ РУСАЛКА
Серабро
Месяц топіць за гарой.
Белым пылам лёг туман
Па далінах тут і там...

ДРУГАЯ РУСАЛКА
Скуль прыйшла ты?

ПЕРШАЯ РУСАЛКА
Стуль я, дзе
Зоры зьзяюць у вадзе,
Тканы золатам струмень
У прадоньне шпарка ймкне.
Дзе пляце ноч косаў медзь,
Дзе на ўсьпененай вадзе
Іскры скачуць... Іх лавіць
Прыплыла я спад скалы.

ТРЭЙЦЯЯ РУСАЛКА
Сёстры, час у карагод!

ПЕРШАЯ РУСАЛКА
Пойдзем, згас між хмар заход...

ДРУГАЯ РУСАЛКА
Скуль прыйшла ты?

ТРЭЙЦЯЯ РУСАЛКА
Хочаш знаць?
Узьляці над сенажаць,
Горы ўсе відаць адтуль.
Глянь, ці бачыш там ваду?
Гэта возера бяз дна
Дзе сплыла мая вясна!
Зоры гасяць жар у ім,
Як сьляза, яно бруіць.
Спаласнула я ў вадзе
Сукні срэбныя свае.
Узьнялася й паплыла
У сівую ночы гладзь.

ЧАЦЬВЕРТАЯ РУСАЛКА (падлятае).
Сёстры!

ПЕРШАЯ РУСАЛКА
Ў скокі йдзем, у лёт!

УСЕ
Скочны ночны карагод!

ЧАЦЬВЕРТАЯ РУСАЛКА
Я з крыніцы, — спад вады
Ціха выплыла сюды...

ПЕРШАЯ РУСАЛКА
Ў скокі, сёстры,
Сёстры, ў лёт!

УСЕ
Пойдзем, сёстры, ў карагод!
(Ізноў бліскаюць маланкі. Здалёку коцяцца грымоты. З хаты выходзіць Раўтэндэляйн. Закінуўшы рукі за галаву, яна стаіць моўчкі ў месячным зьзяньні).

РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Гэй, русалкі!

ПЕРШАЯ РУСАЛКА
Хтось крычыць!

ДРУГАЯ РУСАЛКА
Напалову на суччы
Разадрала хустку я!

РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Гэй, русалкі!

ТРЭЙЦЯЯ РУСАЛКА
Пачакай!
Рвецца, ўецца вэлюм мой
Бела-шэраю імлой.

РАЎТЭНДЭЛЯЙН (далучаецца да карагоду).
Вабіць росная трава,
З вамі йду я танцаваць!
Гэй, русалачка мая,
Серабранае дзіця,
Чыстым белым серабром
Бабка й мне заткала ўбор!
Гэй, смугляначка, глядзі,
І мне рукі як наўзьдзіў
Зь цёмнай медзі выкуў лёс!
Гэй і ты, у зьзяньні кос!
Залатыя і ў мяне.
Ўгору борзда, быццам сьнег,
Я ляту, і ты ляці,
Хай шоўк косаў зігаціць,
Аплятае вочы й твар,
Медзі й золата пажар!

УСЕ
Гэй, у скокі, гэй, у лёт!
Скочны ночны карагод!

РАЎТЭНДЭЛЯЙН
У вадзе загінуў звон...
Дзе-ж ляжыць, сястрыцы, ён?

УСЕ
Сёстры, ў скокі, ў скокі, ў лёт,
Скочны ночны карагод,
Каб нат зёлак не кранаць,
І ня йрваці тумана!
(Зь лесу казьлінымі скокамі выскоквае Лясун. Грымоты шторазу дужэюць. У часе наступнае сцэны моцны ўдар пяруна і ўлева).

ЛЯСУН
Незабудкі, хай іх гром,
Затапчу я капытом,
Пырскі б'юць, кусты шасьцяць,
Гэта я йду танцаваць!
Гэй, бадыш, бадыш, го-го!
Бык кладзецца пад павець,
А кароўка да яго...
Суне пысак і равець...
Так на шыі у каня
Мухі жэняцца штадня,
Камарыны шлюбны рой
Мкнець пад конскай галавой.
Гэй, канюх ты мой стары,
Сьвіткай дзеўчыну накрый,

На саломе люба, што?
Ночкай парнай і густой?
Го-го-гого-го-го-го-гэй?
Адыйшла зіма далей,
Ці нырца дала пад лёд.
Эх, жыцьцё бруіць ля вод!
Котка енчыць, кот крычыць,
Салавей пяе ўначы,
Козы, куры, пявуны
З гораў, долаў, лагчыны,
У залёты йдуць смаліць,
Закаханыя й буслы,
І жаўронкі, і шпакі,
І кузулькі, і жукі,
Жабы, мух зялёных стаі, —
Ўсё сьпявае, ўсё кахае.

(Ён хапае адну з русалак і ўцякае зь ёю ў лес. Рэшта русалак разьлятаецца. Раўтэндэляйн застаецца адна. Самотная й задуманая, яна стаіць на горнай сенажаці. Бура зь пярунамі, віхурай і дажджом перасьціхае).

ВАДЗЯНІК (уздыймаецца над студняй).
Брэкэкэкэкс, брэкэкэкэкс! Гэ, дзеўка!
Чаго стаіш там...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Ах, мой любы Вадзянік!
Мне гэтак сумна... ах, мне сумна, сумна, гэтак.
ВАДЗЯНІК
Брэкэкэкэ! Ў якім табе так сумна воку?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (з уцехай).
У левым... Мо ты мне ня верыш, Вадзянік.
ВАДЗЯНІК
І, веру, веру...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Глянь, што тут блішчыць на воку.
ВАДЗЯНІК
Дык што ты маеш там? Ну, пакажы хадзі.
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Гарачая вада закапала з вачэй...
ВАДЗЯНІК
Мо зь неба што?
Хадзі-ж, я пагляджу, што там.
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (падаючы яму на пальцы кропелькі сьлёзаў).
Вось чыстая, як шкло, прыгожанькая кропля!
На, дзедка, глянь!
ВАДЗЯНІК
Гляджу... Сто тысяч пяруноў!
А як зігціць... Чакай, вазьму яе з сабой
На дно і прыбяру сівою пэрлавіцай...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Дык вось, кладу яе на бераг студні.
Дзед,
Што гэта?
ВАДЗЯНІК
Дыямэнт, найпрыгажэйшы ў сьвеце!
Зірні, у глыбіні мігціць уся туга
Зямная і усё зямное зьзяе шчасьце.
Сьлязой завецца ён...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Сьлязой...
Здаецца мне,
Што плакала я... так, цяпер пазнала я,
Што сьвет завець сьлязой і як балюча плакаць.
Скажы мне штось...
ВАДЗЯНІК
Хадзі, дзяўчына, да мяне...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Эй, не, нашто... і тут мне добрэ...
Там, на дне
У студні у тваёй старой так цёмна, мокра,
Усюды плесьня, твань і павучыньне... не,
Мне гадкія і ты, і студня зь вечным змрокам!
ВАДЗЯНІК
Брэкэкэкэкс! Дзіця, мне гэта прыкра, так!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Зноў кропелька, глядзі...
ВАДЗЯНІК
Вясьняны сыпле дождж...
Здалёку Тор грыміць! А з барады яго
Чырвоны б'ець агонь. Куець пагоду Бог,
Маланкаў-іскраў блеск рассыпаўся між хмар
Блакітнай хваляй... Глянь, варонаў чорных рой
Маланкавым агнём заліты, ўзьвіўся з крыкам,
Страсаючы ваду з намоклых, чорных крыл!
Прыслухайся, дзіця, як прагна п'ець зямліца,
Як дрэвы, і трава, і чэрві, й матылі,
Ў захопленьні сьвятло маланак сініх сочаць!
Кворакс (бліскае) — у даліне! О, лоўка, майстар-[Тор,
Запалевае ён і там свае вагнішчы,
Куець... кавала звон ды іскраў белых блеск
Лятуць на сотні міль у даль... Трасецца цэрква.
Глянь, напалам яе расьсек агністы меч,
Пыл угару шугнуў...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Ой, досыць, бо засну...
Лепш раскажы ты мне якую навіну.
ВАДЗЯНІК
Брэкэкэкэкс! Ну што? Мо хочаш казку, жарт?
А гэты быў благі? Мо ўвагі нат ня варт?
Памойму, навіна... цікавая, але,
Што сееш, тое й жнеш, а там — што лес пашле.
Ці праўду я кажу? Дык што-б хацела ты
Пачуць, кажы...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Ах, дось, ах досыць, дай мне жыць!
ВАДЗЯНІК
Ня хочаш слухаць больш?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Не...
ВАДЗЯНІК (просячы).
Дык скажы хоць штось...
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Ах, каб куды зыйсьці далей адгэтуль, вось!
(Яна глядзіць вачыма, поўнымі сьлёзаў, ўдаль).
ВАДЗЯНІК
Што-ж я табе зраблю? Дзіця, куды-ж ісьці,
Ты хочаш? Да людзей? Што-ж ё ў людзкім жыцьці?
Ты звар'яцела, знаць... Паслухай, чалавек
Страшэнна дзіўны створ... ён б'ецца ўвесь свой век,
Заблытаўся зусім... Завіс, у тым бяда,
Між небам і зямлёй, і тут крыху, і там,
Нат сам ня знае, дзе... паловаю душы
Як быццам наш — другой паловаю чужы.
Бяда, бяда таму, хто з нашых гораў цудных
Зыходзіць да людзей праклятых, дзень іх будны
Дзяліць... Слабы народ зямны, ён у зямлі
Карэньнем ледзь сядзіць, ды сам-жа іх спаліць
На попел мкнецца ўсьцяж, каб вянуць і хварэць,
Як бульбіна ў капцы... аж покуль не памрэць...
З маленьнем чалавек да сонца цягне, ўзвыш,
Але сьвятла ,сьвятла баіцца... галавы
Ня ўздыме... ўвесну так гуляе буралом
І кволыя сукі калечыць, а гальлё
Здаровае мацуе, гоіць... Годзе-ж,
Ня йдзі, дзіця, да іх, каб сэрца не пашкодзіць,
Ты-ж камень млынавы навязваеш сабе
На шыю, калі йдзеш да іх нішчэць, гібець!
Яны-ж душу тваю затопчуць хутка ў гразь,
У цемру, ў ноч... у плач абернуць сьмех, а бразг
Іх ланцугоў скуе й цябе, і ты
Бяз сонца, як іх род пракляты, будзеш стыць!
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Бабуня кажа мне, што ведаеш ты ўсё...
Разумны ты й стары...
Зірні-ж, ці ёсьць дзе плёс,
Балота, ці ручай, хоць кропелька вады,
Якая-б ня плыла уніз да іх, туды...
ВАДЗЯНІК
Кваракс! Брэкэкэкэкс! Але ня ты, ня ты!
Паслухай, мудрасьць я зьбіраў вякі, гады,
Кажу табе, пакінь рабом плысьці уніз,
Хай мыюць людзкі бруд, хай круцяць шасьцярні
І жорны на градзе, хай паліваюць людзям

Капусту, дрэнь, смурод палошчуць... бр... аж
(горача й пераканана) [нудзіць
Але-ж паненачка ты ў нас, Раўтэндэляйн!
Ты — варта караля, дык цешся-ж і гуляй!
Карона ёў мяне: як сіні лёд, крышталь,
У хораме маім сто ў срэбры кутых заль,
З ружовых пэрлаў мур у залях, вокны, столь,
З караляў, а ўсё — ўсё твaё, дзіця!

РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Хай будзе вянок твой із пэрлаў буйных
І вабіць зялёных вадзянкаў з глыбінь,
Я медзь сваіх косаў шмат болей цаню;
Ня цісьне вянец мой, ярчэй ён агню,
Ты кажаш, із пэрлаў, з караляў твае
Палацы...
Ды што варта доля на дне?
Адно толькі «кворакс» у студні і «квак»,
Смурод, багавіньне...
хто жыць можа так? (адыходзіць).

ВАДЗЯНІК
Куды-ж ты ідзеш?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН (лёгка, няпрыязна).
Ня ўсёроўна табе?
ВАДЗЯНІК (з болем).
О не, брэкэкэкс!..
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
А куды захачу...
ВАДЗЯНІК
Куды ты захочаш?
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
І гэнам, і гэт...
ВАДЗЯНІК
І гэнам, і гэт?..
РАЎТЭНДЭЛЯЙН
Я ў людзкі йду сьвет! (борзда зьнікае ў лесе).
ВАДЗЯНІК (у жаху).
О, кворакс! (зь енкам). О, кворакс...
(цішэй). Квор, брэкэкэкэкс! (ківае галавою).

ЗАСЛОНА.

---

**УІЛЬЯМ САРАЯН**

# ЗВАРОТ У ДАЛІ ДЗЁН МАЛЕНСТВА

**НАВЭЛЯ.** *)

Ён думаў: гэтая нізіна, уся гэтая краіна паміж горамі — мая; гэта бацькаўшчына, гэта край, аб якім сьніў; і ёсьць якраз гэтак, як і было — таксама, як тады, маленькія фантаны кідаюць свае дугавіны праз траву Бэрмудагры.

Ён ішоў вуліцаю Альвіна і быў рады, што ізноў удома. Усё было прыгожа, проста й добра — пах зямлі, выпарэньні, дым кухняў, летняе паветра нізіны, у якой дасьпявалі вінаград і апрыкосы — і куст алеандры, усё, быццам агорнутае асалодай, таксама, як даўней. Ён дыхаў глыбака і ўцягваў пах бацькаўшчыны ў свае лягкія. Была сьпякота. Ён гадамі не адчуваў гэтак чыста й яскрава, як краіна дзеіць на ягоны розум. Гэтак ідучы, ён поўнасьцяй адчуваў цудоўнасьць існаваньня, шчасьце быць жывым, называць сваім стан і рухі, і дух, наагул, сьвятую радасьць быць на сьвеце.

„Вада", — думаў ён, калі чуў бурбалкі нейкае прылады на паліваньне травы; ізноў смакаваць ваду бацькаўшчыны, паўнавартасную сьцюдзёную ваду гэтае нізіны, адчуваць простую добрую смагу й мець магчымасьць яе супакоіць — гэта было супаўненьнем. Ён бачыў нейкага старога, які трымаў над ляхамі гэрані палівачку, і кліканы смагай, ён пайшоў да яго.

— Добры вечар! — сказаў ён спакойна, — ці магу я крыху напіцца?

Стары ціха павярнуўся, ягоны вялікі сьцень клаўся на сьцяну хаты, ён глядзеў зьдзіўлена й прыязна ў твар маладога чалавека.

— Але-ж, пэўна! — адказаў ён і даў яму ў рукі палівачку. — Вельмі смачная вада, — казаў стары, — гэта вада зь нізіны Сан-Ёакіну; найлепшая, я думаю. Вада там, ля гары Фрыско, робіць мяне зусім хворым, яна ані не смакуе; а ўнізе, у Лёс-Анджэлесе, — яна на смак проста рыцына; не разумею, як гэтулькі людзей могуць жыць там год у год?

Пакуль стары гаварыў, ён слухаў, як лілася далоў з палівачкі вада й борзда зьнікала ў глебе.

— Вашая праўда, — сказаў ён старому чалавеку. — Вашая праўда, нашая вада найлепшая на ўсім шырокім сьвеце.

Ён нахінуў галаву над бурбулістай вадой і пачаў піць. Саладкаваты смак вады зьдзівіў яго. і п'ючы ён думаў: «Ах, Божа, яна смакуе запраўды добра!» У літаральным значэньні слова ён адчуў, як сьцюдзёная вада плыла праз усю ягоную істоту. Нарэшце, ён бяз дыху ўзьняў галаву й сказаў старому:

— Мы дзеці шчасьця, мы, людзі гэтае нізіны!

Ён ізноў нахінуў галаву над вадой і пачаў зноў глытаць глыток па глытку, і пры гэтым ён сьмяяўся ад добрага пачуцьця. Яму было гэтак, быццам ён ня мог-бы ім напоўніць сябе — чым больш ён піў, тым лепш смакавала вада, і тым больш ён жадаў яе ўвабраць. Уся нізіна была ў гэтай вадзе — усё яскравае, усё пяшчотнае, усё добрае, простае й праўдзівае.

— Ах ты, мой Божа! — сказаў стары. — Вы запраўды засмаглі. Як доўга-ж вы ня мелі піць?

— Два гады, — адказаў ён. — Я думаю, што два гады ня піў гэтае вады. Я кагадзе вярнуўся. Я, ведаеце, тут нарадзіўся, там ,у маскоўскай дзялянцы, ведаеце, проста на другім баку рэек Паўдзённага Пацыфіку. Я два гады ня быў і толькі цяпер вярнуўся дадому. Я тут ахвотна. Я хачу шукаць тут працы й застацца жыць.

— Вы запраўды засмаглі, — сказаў стары. — Я ня бачыў яшчэ ніводнага чалавека, які піў-бы адразу гэтак шмат вады. Вось гэта было відовішча, бачыць вас гэтак п'ючы!

Ён ішоў далей уніз вуліцаю Альвіна, і стары ўзіраўся на яго.

«Хараша зноў вярнуцца, — думаў малады чалавек. — Але ў запраўднасьці зусім нязвычайна гэтак ізноў вярнуцца!»

Усё, што ён некалі рабіў, выходзіла было неяк наадварот, але гэта была адна з добрых адваротнасьцяў. Ён падаўся быў у Сан-Францыска, на паўдня, без найменшае думкі вяртацца дамоў. У запраўднасьці ён жадаў далей на паўдня, да Мэрсэды, і там нейкі час застацца — але калі ён аднойчы дайшоў быў да гэтае акругі, дык гэтага яму проста было зашмат! Ён узрадаваўся быў стаяць гэтак скрай гасьцінцу ў вопратцы свайго места — ён падарожнічаў з аднаго малога места ў другое — і цяпер ішоў тут вуліцамі свайго роднага места, каля сёмае гадзіны ўвечары. Гэта было цудоўна, гэта было радасна. А гэтая вада! Гэтая вада!

Ён быў цяпер зусім блізка да места, цэнтру места. Ён бачыў адзін ці два зь вялікіх будынкаў, газавае таварыства й электрастанцыю — усе яны былі асьветленыя пярэстымі лямпкамі — потым нейкі іншы, які — ён яшчэ ня ведаў. Гэты быў яшчэ большы. «Гэта новы, — думаў ён. — Гэты яны пабудавалі, калі мяне ня было. Крамы, здаецца, вельмі добра аплачваліся».

Ён завярнуў на вуліцу Фультона і быў вось у самым цэнтры места. Яно выглядала зьэтуль цудоўна, з воддалі — прыгожае і чыстае, вельмі рэальнае, запраўды ціхое мястэчка, запраўды гэткае места, дзе прыемна жыць, прыладзіцца, пабрацца, мець дзетак, нейкае рамяство —

---

*) У. Сараян (нар. 1908 г.), з паходжаньня Армянін, побач із Дж. Штэйнбэкам — найвыдатнейшы амэрыканскі навэлісты. У 1940 г. яму прысуджаная прэмія П'юлічэра.

і ўсё, што да гэтага належыць. Больш нельга было жадаць. Гэтае паветра ў нізіне й вада, і запраўднасьць усяе ваколіцы, чысьціня жыцьця тут, у нізіне, прастадушнасьць людзей...

І ў месьце ўсё заставалася пастарому; назовы крамаў, людзі, што йшлі вуліцамі, самаходы, ціха мінаючы; маладыя людзі ў самаходах; зусім гэтак, як даўней; нічога не зьмянілася. Ён бачыў твары, якія ён знаў ужо хлопчыкам, людзей, прозьвішчаў якіх ён ня ведаў, і раптам ён пабачыў Тоні Рок, свайго старога школьнага сябру, што йшоў яму напярэймы, і ён бачыў, што й Тоні Рок пазнаў быў яго. Ён спыніўся, пакуль Тоні падыйшоў да яго. Гэта была сустрэча, быццам у сьне — дзіўна, бадай неверагодна. Ён сьніў аб тым, як яны абодвы па дарозе із школы гулялі ў гокей у купальні, як яны беглі на плыты, як яны прашываліся ў кіно. І тут ён быў ізноў запраўднасьцяй перад ім, вялікі юнак із пахілым, здатным станам, зьзяючы сваёй усьмешкай. Ах, гэта было добра!

Ён стаяў і чакаў на Тоні, і ўсьміхаўся яму напярэймы, ня здольны прамовіць ані слова.

Абодвы юнакі краталі адзін аднаму рукі, стукалі па плячох, гучна сьмяяліся й пяшчотна лаяліся.

— Ты, стары байструк! — казаў Тоні. — Дзе ты, у чорта, быў?

І ён, гучна рагочучы, даў свайму сябру бокса ў жывот.

— Стары Тоні, — сказаў ён, — стары добры дурніла Тоні! Мой Божа, гэтак добра бачыць цябе зноў! Ты-ж мог памерці за гэты час. Што ты рабіў, да чорта?

Ён выкруціўся ад другога ўдару боксу і стукаў свайго сябру ў грудзі. Ён лаяў яго найпрыгажэйшымі італьянскімі лаянкамі, якім навучыў быў яго Тоні колькі год таму, а Тоні лаяўся насупраць памаскоўску..

— Але цяпер мне трэба йсьці ў нашую хату, — сказаў ён нарэшце. — Мае людзі зусім ня ведаюць, што я тут! Цяпер я павінен ісьці туды! Я зусім шалёны, каб бачыць свайго брата Паўлу.

Ён ішоў далей вуліцаю ўніз і ўсьміхаўся за Тоні; цяпер яны зноў могуць быць вельмі шмат разам. Яны маглі-б навет зноў схадзіць у купальню, як дзеці. Было вельмі хораша зноў вярнуцца.

Калі ён мінаў крамы, дык прыпомніў купіць сваёй маці нейкі маленькі падаруначак. Гэткі маленькі падаруначак вельмі ўсьцешыў-бы старую жанчыну. Але ён меў мала грошай, а ўсе людзкія рэчы былі дарагія. «Я падарую ёй нешта пасьля» — думаў ён.

Ён завярнуў у вуліцу Тулярэ — зараз ён будзе ўдома, ля дзьвярэй малое, старое хаты. І ўсё будзе, як даўней. Маці, бацька, тры сястры й ягоны малы брат — усе ў старой хаце, жывучы сваім простым жыцьцём.

Праз будынак ён ужо пабачыў хату, і ягонае сэрца пачало часта стукацець. Тады ён пачуўся канчальна хворым і поўным страху; нешта уздыймалася ў ім угару, на што ён забыўся быў, нешта ў сваёй хаце, з жыцьця ў ёй, што ён заўсёды ненавідзеў, нешта брыдкое, няпрыемнае. Аднак, ён ішоў далей, толькі ягоная хада рабілася цішэйшаю, чым бліжэй ён падыходзіў да хаты. Плот быў заваліўшыся — ніхто яго не папраўляў ізноў. Хата адразу выглядала яму брыдкой; чаму, да чорта, стары ня мог перабрацца ў лепшую хату, у лепшае асяродзьдзе? І калі ён цяпер зноў агледзеў хату, адчуў усю ейную запраўднасьць, дык уся ягоная ненавісьць ізноў агарнула яго, і ён не пачуваў зноў нічога іншага, як лятуценьні быць далёка ад яе, дзесьці, дзе ня трэ было-б яе бачыць. І нанова ён адчуваў глыбокую, нясьведамую варожасьць, якую ён перачуў хлопчыкам — да ўсяго места, да ягоных нягодніцтваў, супраць дурнотаў ягонага жыхарства, паражніні ягонага духу, і ён ведаў, што ён ніколі ўжо ня будзе здольным вярнуцца ў гэткае месца. Вада; але, яна была добрая; яна была цудоўная. Ды былі яшчэ іншыя рэчы...

Ён ішоў ціха аж да хаты й зірнуў на яе, быццам-бы ён быў чужынцам, і ўсё-ж ён быў сьведамы, што гэта быў ягоны прытулак, радзіма, аб якой ён сьніў, якая мучыла яго тугой па бацькаўшчыне, дзе-б ён ні перабываў. Ён спалохаўся, што нехта мог выйсьці з хаты й пабачыць яго — бо ён ведаў, што ён проста ўцёк-бы вон, калі-б яго нехта пабачыў. І ўсё-ж ён гэтак моцна жадаў бачыць іх, бачыць іх усіх, поўнасьцяй адчуць блізіню іхных целаў, навет пах, стары маскоўскі пах. Ён пачаў адчуваць ненавісьць супраць усяго места, і йшоў далей аж да рогу. Гэта было зашмат. Там стаяў ён пад вулічным ліхтаром, ашалелы, у няпрыемнасьці і лятуцеў пабачыць свайго брата Паўла, пагутарыць із хлопцам, дасьледзіць, што дзеецца ў ягонай душы, як ён пераносіць гэткае жыцьцё. Ён-жа ведаў, як яму паводзілася, калі ён быў гэткі вялікі, як ягоны брат цяпер, і ён мог-бы яму крыху параіць, як усьцерагчыся ўсяе гэтае абыякавасьці й брыдоты.

Ён забыўся, што ня еў ужо ад сьнеданьня й што ён месяцамі сьніў толькі аб тым, каб аднойчы зноў месьці ў свае маці — сядзець ля старога стала кухні й глядзець на маці, на ейны вялікі стан, на ейны ружовы твар, паважны, поўны клопату й каханьня — але ён страціў апэтыт. Ён думаў, што ён мог-бы магчыма пачакаць ля рогу, магчыма, ягоны брат Паўла — выйдзе прайсьціся на вуліцу, і тады ён бачыў-бы хлапца і мог-бы зь ім пагутарыць.

Цішыня нізіны пачала яго мучыць; яна страціла сваю панаднасьць і сталася была толькі часткай абыдзёншчыны нізіны. Нешта няпрыемнае сталася на узьверху ейнага жыцьця, нешта, на што забыўся, пакуль ня быў, і гэта ўсё зьмяніла ў выглядзе й значаньні хаты, места, усяе нізіны, зрабіла ўсё ненавідным і незапраўдным гэтак, як ён мог толькі адно жадаць: зыйсьці й ніколі больш не вяртацца. Ён ня мог ужо пераступіць парогу гэтага дому й пачаць далей там, дзе аднойчы быў абарваў.

Раптам ён апынуўся ў прысадах, пералез праз плот, перайшоў панадворак. Ягоная маці пасадзіла была таматы й папрыку — і пах расьцінаў у росьце здаваўся густым і войстрым ды вельмі мэлянхалічным. Ён стаў шчытна ля хаты, ля вакна кухні, і бачыў сваю малодшую сястру Марту, якая павярнулася да яго плячыма. Ён бачыў стары стол, старую печку й Марту, як яна мыла судзьдзё, і ўсё гэта было гэткім сумным, а разам гэткім патэтычным, што яму пачалі сьлязіцца вочы, і ён мусіў хутка шукаць цыгарку. Ціха запаліў ён сернічак аб падносак свайго боту й глыбака ўцягнуў першы дым, і глядзеў на сваю малую сястру ў старой хаце — таксама частку тае самае абыдзёншчыны. Усё здавалася вельмі ціхім, вельмі яскравым і жудасна сумным; але ён спадзяваўся, што ў кухню ўвойдзе ягоная маці, ён гэтак моцна жадаў паглядзець на яе. Ён жадаў бачыць, ці зьмянілася яна за час, пакуль яго ня было. Як яна магла-б выглядаць? Ці ў яе ўсё яшчэ той самы заклапочаны стары твар? Ён адчуў глыбокае незадаваленьне самым сабой, што ён ня быў добрым сынам — ён навет не спрабаваў неяк зрабіць сваю маці шчасьлівай, а ён ведаў: гэта было магчыма..

Затым у кухню ўвайшоў ягоны брат Паўла па шклянку вады — адну часінку ён хацеў быў паклікаць хлапца на ймя, усім тым, што ў ім было добрае, усім сваім каханьнем ён жадаў атуліць твар, стан хлапца. Але ён стрымаўся, уцягнуў глыбака дым у нутро, скусіў зубы. Хлапец здаваўся гэткім згубленым у гэтай кухні, гэткім зблуджаным, гэткім закратаваным. І не адрываючы ад брата пагляду, ён пачаў ціха ў сабе плакаць.

Цяпер ён ужо не жадаў больш бачыць сваю маці. Ён узлаваўся-б толькі на сябе, калі-б зрабіў тады нешта зусім незразумелае. Ціха мінуў ён панадворак, пераскочыў праз плот і апынуўся ў прысадах. Ідучы далей, у ім пачала паўставаць туга. Калі ён быў ужо далёка, ён пачаў усхліпваць. Ён кахаў іх усіх гэтак моцна й ненавідзеў абыдзёншчыну іхнага жыцьця. Ён адчуваў, што ён шпарка бяжыць прэч ад хаты, ад сваіх людзей, і горка плакаў у цемры яснае ночы.

Пераклаў **М. Вольны.**

Г. Х. АНДЭРСЭН

# СЬВІНАПАС

**(КАЗКА).**

Жыў сабе аднойчы каралевіч. Каралеўства ягонае было невялікае, і таму яго мелі за беднага. Але каралеўства гэнае было даволі багатае, каб ён мог жаніцца. Яму акурат і захацелася ажаніцца.

Не ўважаючы на сваю беднасьць, ён адважыўся сказаць цароўне аб сваім каханьні, і аднойчы папытаўся ў яе:

— Ці ты хочаш выйсьці за мне замуж?

Хоць ён быў бедны, але імя ягонае было ўжо далёка ведамае. Шмат было каралёўнаў, якія хацелі-б пачуць ад яго падобнае пытаньне, але цароўна зрабіла інакш. Яна адмовіла яму.

На магіле каралевічавага папярэдніка й бацькі рос ружавы куст. Быў гэта нязвычайны куст: ён расьцьвітаў толькі адзін раз на пяць год, і то ўсяго адною цудоўнаю, цудоўнаю краскаю, якая гэтак міла й хораша пахцела, што пры ейным паху льга было забыцца на ўсе свае клопаты й гора. У гэтым-жа кусьце жыў салавей, які пяяў так чароўна, што здавалася, быццам усе найпрыгажэйшыя ў сьвеце мэлёдыі мясьціліся ў ягоным маленькім горлачку. Каралевіч не пашкадаваў цудоўнае краскі й салаўя ды падараваў цароўне. Ён паўкладаў адно й другое ў срэбраныя скрыначкі й адаслаў цароўне. Калі прынесьлі скрыначкі на царскі двор, цар загадаў унесьці іх у сьвятліцу, дзе гуляла цароўна із сваймі дворнымі. Цароўна аж запляскала ў ладкі, калі пабачыла скрыначкі — гэткія яны былі прыгожыя.

— Ах, каб гэта быў маленькі каток! — пажадала яна, але гэта была рожа, а не каток.

— Ах, як яна прыгожа зробленая! — закрычэлі дворныя дамы.

— Яна ня толькі прыгожая, гэта папросту чароўная рожа! — сказаў цар. Але цароўна памацала яе й мала не заплакала з жалю.

— Фэ, татка, — сказала яна, — гэта-ж ня зробленая рожа! Гэта-ж запраўдная краска.

— Фэ, —паўтарылі дворныя дамы, — гэта-ж праўдаткі запраўдная краска!

— Паглядзеце, што ёсьць у другой скрыначцы, а тады ўжо злуйце! — сказаў цар.

А тамака быў салавей, і пяяў ён гэтак чароўна, што нельга было зганіць яго.

— Superbe, charmant!! — сказалі дамы пафранцуску, адно горшае за другое.

— Як гэтая птушка прыгадвае мне слаўную царскую скрынку-самаграйку! — сказаў нейкі стары кавалер. — Ах! Зусім такі-ж самы тон, тая-ж самая дыкцыя.

— Але! — сказаў цар і заплакаў, быццам малое дзіцянё.

— Я ўсё-ж не магу забыцца, што гэта запраўдны салавей! — сказала цароўна.

— Аўжо-ж, гэта запраўдная птушка! — цьвердзілі й тыя, што яе прынесьлі.

— Але! Гляньце, яна лётае! — сказала цароўна й адмовілася прыняць каралевіча.

Тады каралевіч выдумаў іншую штуку. Ён пастанавіў памсьціць сваю зьнявагу. Ён намазаў сабе твар на руды колер, націсну́ў капялюш на вочы й пастукаўся да цара.

— Добры вечар Вашай Велічы! Ці я ня мог-бы застацца ў вас на службе?

— Ах, тут гэткіх шмат, што працы шукаюць. Але пабачым, мне патрэбен хлапец сьвіньні пасьвіць, а ў нас іх гэтулькі!

І гэтак каралевіч застаўся за царскага сьвінапаса. Яму далі каля сьвінуха ліхую каморку на жыцьцё. І ён цэлымі днямі сядзеў пры сьвіньнях ды працаваў над нечым. Па нейкім часе ён зрабіў маленькі прыгожы гаршчэчак, абвешаны вакол званочкамі, што званілі, як толькі гаршчэчак пачынаў гатавацца. Яны вызвоньвалі старую й банальную мэлёдыю:

— Ах, мой любы Аўгустын...

Затое ён быў увесь зроблены памастацку, а разам меўтую асаблівасьць, што калі патрымаць палец у пары, якая выходзіла зь яго, дык можна было ведаць, што варылі ў кажнай хаце ў горадзе. Гэта запраўды было нешта зусім іншае за рожу.

Праходзіла тудэю аднойчы цароўна з усёй сваёй дворняй, і раптам яны пачула мэлёдыю. Яна запынілася й вельмі ўсьцешылася, бо й сама любіла пяяць «Ах, мой любы Аўгустын». Гэта й была адзіная мэлёдыя, якую яна магла зыйграць, і то адным пальцам.

— Гэта ўсё-ж нешта такое, што я знаю! — сказала яна. — Гэты сьвінапас, відаць, нейкі ўсё-ж наўчоны. Слухайце! Ідзеце й папытайцеся, колькі гэты інструмэнт каштуе!

Адна з дамаў абула дзеравянікі й пайшла да сьвінапаса.

— Што ты хочаш за гэты гаршчэчак? — папыталася яна.

— Дзесяць пацалункаў ад цароўны, — адказаў сьвінапас.

— Сьцеражы нас, Божа! — сказала дама.

— Таней ня будзе! — сказаў сьвінапас, а калі дама вярнулася, цароўна папыталася:

— Ну, і што-ж ён сказаў?

— Мне навет сорамна пераказаць гэта Вашай Высачы! — сказала дама. — Ён сказаў жудаснае.

— Скажы на вуха!

Калі дама пераказала цану, цароўна скрыкнула:

— Ён аднак нарусгень! — і ўжо хацела была йсьці далей, але якраз званочкі зноў зайгралі —

— Ах, мой любы Аўгустын!

— Слухайце, папытайцеся ў яго, ці згодзіцца ён на дзесяць пацалункаў ад маіх дамаў.

— Не, дзякую, — адказаў сьвінапас: — дзесяць пацалункаў ад самое цароўны, або гаршчэчак застанецца ў мяне.

— Нічога не парадзіш, — сказала цароўна, — але вы павінны захінуць мяне сукенкамі, каб ніхто ня бачыў.

Дамы абступілі вакол цароўну й расхінулі шырака свае сукенкі; сьвінапас дастаў жаданыя дзесяць пацалункаў, а цароўна — гаршчэчак.

— Вось слаўна! Цэлымі днямі й вечарамі можна будзе варыць у гаршчэчку й ведаць, што хто гатуе ўва ўсім горадзе, як у дваровага пана, так і ў шаўца.

Дворныя дамы скакалі вакол гаршчэчка й плясалі ў ладкі.

— Мы будзем ведаць, хто будзе пячы салодкія блінцы із сьмятанаю! Мы будзем знаць, у каго будзе каша й смажаніна! Як гэта ўсё-ж цікава!

— Вельмі цікава! — сказала першая дама.

— Але! Ды трымайце языкі за зубамі, бо-ж я цароўна!

— Барані нас Бог! — сказалі ўсе дамы разам.

Сьвінапас (у запраўднасьці каралевіч, чаго аднак, ані цароўна, ані дамы ня ведалі) ня вытрываў і аднаго дня, каб ізноў чагось не змайстраваць. І так цяпер зрабіў ён ляшчотку. Калі ён круціў гэтай ляшчоткаю, яна йграла ўсе вальцы, полькі й іншыя танцы, знаныя ад стварэньня сьвету.

— Але-ж гэта раскошна! — казала цароўна, праходзячы паўз сьвінух. — Я йшчэ ніколі ня чула гэткае прыгожае кампазыцыі. Слухайце! Папытайцеся ў яго, колькі гэты інструмэнт каштуе. Але гэтым разам я цалавацца ня буду!

— Ён хоча сто пацалункаў ад цароўны! — сказала дама, што хадзіла пытацца.

— Ён мусіць ашалеў! — сказала цароўна й пайшла далей, але калі, адыйшоўшыся крыху, пачула зноў музыку, надумалася:

— Мо ўдасца штука? Я-ж цароўна, і ад мяне досыць зь яго дзесяць пацалункаў, а рэшту хай возьме ад маіх дворных дамаў.

— Але, ды мы ня хочам цалаваць яго! — сказалі дамы.

— Я ўжо сказала! Калі я магу цалаваць яго, дык вы

й пагатоў можаце гэта зрабіць! Памятайце, што я вас кармлю дый яшчэ вам плачу!

І дамы не маглі адмовіцца.

— Сто пацалункаў ад цароўны! — сказаў сьвінапас, — або ляшчотку пакідаю сабе!

— Стойце! — сказала цароўна, і калі дамы абступілі яе вакол, пачала цалаваць сьвінапаса.

— Што гэта там за зборышча каля хлява? — падумаў цар, выйшаўшы з альтаны й праціраючы сабе вочы ды ўзьдзяючы акуляры. — Гэта-ж там дворныя дамы! Бачу! Пайду адно прыгледжуся!

Ён зьняў свае хадакі ды схаваў іх, закінуўшы за плечы, бо яны былі ўжо вельмі зношаныя.

Цар падыйшоў паціху і так зьнячэўку, што дамы, занятыя лічэньнем пацалункаў, і не спасьцераглі яго. Выцягнуўшыся на пальчыках, ён угледзеў сваю дачку цалуючы сьвінапаса, і зараз-жа пачаў акладаць яе хадакамі па галаве, акурат калі сьвінюх атрымваў васьмідзесят шосты пацалунак.

— Вон! — крыкнуў цар і прагнаў сьвінапаса й дачку із свайго царства.

Цароўна стаяла і плакала, клянучы прыгэтым сьвінапаса, а дождж ліў, як з луба.

— Ах я, небарачная! — галасіла яна, — я-ж магла мець запраўднага каралевіча, а зьлыгалася із сьвінапасам! Ах! Якая я няшчасная!

А сьвінапас адыйшоўся за дрэва, выцер твар ад хварбы, ськінуў пастухову вопратку ды падыйшоў да яе ў сваім каралеўскім строі, такі прыгожы, што цароўна аж уздыхнула з палёгкі, калі пабачыла яго.

— Я прыйшоў, каб скарціць цябе, ты! Ты не хацела мець чэснага каралевіча. Ты не пазналася на красцы ружы й на салаўі, але сьвінапаса ты магла цалаваць за пустыя цацкі. Цяперачы маеш узнагароду за сваё дурнаўства.

Па гэтым ён пайшоў у сваё каралеўства, зачыняючы за сабою дзьверы й завальваючы іх на завалу, а цароўна магла толькі стаяць пад дажджом і пяяць сваё:

— Ах, мой любы Аўгустын,
Так усё прайшло, прайшло...

З данскае пераклаў **Ул. Ш—ц.**

---

**УЛАДЗІМЕР ЖЫЛКА**

# ПРЫКЛАДЗІНЫ

**(НАСЬЛЕДАВАНЬНЕ ГАРАЦЫЮ — «ПОМНІК»)**

**Паставіў я сабе прыклад, навек трывалы,**
**Выносісты вышэй за валатовак вал,**
**Ня скрышаць мне яго ні ўлевы, ні навалы,**
**Ні часу, дзён і год бурлівы перавал.**

**Увесь я не памру, нястленнымі дарамі**
**Найлепшае зь мяне запэўніць мой працяг,**
**Пакуль Пагоні меч зігціць на Вострай Браме**
**І рух нясе наш бел-чырвона-белы сьцяг.**

**І скажуць пра мяне, дзе ціхаводны Нёман**
**Абняць хутчэй імчыць вірлівая Вяльля,**
**Што целам кволы я, на духу быў нязломан**
**І ўсё насіў нашы да роднага вульля.**

**Бо быў між першых я, што лятуцелі палка**
**Пабачыць, як муры зальле крывіцкі рух.**
**Мае заслугі ўзваж, сялянская Купалка,**
**Валошкавым вянком аздоб чало сукрух.**

1933.

**Зацемка.** Верш напісаны на бальшавіцкім выгнаньні ў ваднэй пары зь ведамым «Тэстамэнтам», калі сьмяротна хворага паэту апаноўвалі прадчуваньні блізкога канца. Сам паэта ўважаў верш за неапрацаваны канчальна (як зрэшты, і той-жа «Тэстамэнт»). Апрача таго, у друкаваным тут тэксьце асоба, што захоўвала яго дасюль у памяці, ня мае поўнай пэўнасьці што да дакладнасьці захаваньня ёю некаторых мясьцінаў (асабліва эпітэтаў, якія наагул у нябожчыка-паэты не адзначаліся асаблівай яскравасьцяй, удзячнай для запамінаньня).

Некаторыя камэнтары: «Прыкладзіны» — сьвяточны абход у некаторых мясцовасьцях нашае Бацькаўшчыны, што ўваходзіць да восенскага сьвята «Дзядоў» («Асянінаў»), калі на магілах нябожчыкаў ставяць ці панаўляюць крыжы й надмагільныя камяні-помнікі (апісаны, між іншага, у этнаграфічным зборніку Дзьмітрыева, які тым часам якраз пераглядаў паэта). Такі помнік завецца «прыклад» (націск на апошнім складзе). У сваім лісьце, перасылаючы вышпададзены верш, паэта выказваў сваё захапленьне глыбокімі «падводнымі ходамі» нашае мовы, якія часам так пранікліва выкрываюць сэнсавую сувязь між поймамі, як тут: «прыклад» — помнік і «прыклад» — узор. — У радку: «пабачыць, як муры зальле крывіцкі рух» паэта ўспамінае адзін із раньніх, лепшых і ўлюблёных сваіх вершаў «Вільні», заключныя радкі якога: «О, Вільня родная, каханая, цябе зальле крывіцкі рух». Гэты верш і наагул Вільня, відаць, часта ўспаміналіся паэту тымі днямі, гэта відаць і на друкаваных тут «Прыкладзінах» і на «Тэстамэньце» (апошнія радкі: «Сачыцьмуць мой спакой найпільней муры старой каханай Вільні»). Ня думаў тады паэта, дый хто мог думаць, што Вострую Браму зь ейнай Пагоняй некалі (у часе другой сусьветнай вайны) збурыць тая самая рука, што гняла яго, выгнала на выгнаньне і ўвагнала ў магілу...

Як ведама, ода Гарацыя перакладзеная ў нашую мову Максімам Багдановічам («Памятнік», пераклад, вельмі блізкі да арыгіналу, зроблены асклепіядаўскім вершам). Некаторым літаратурам, як ведама, знаныя насьледаваньні гэтае оды (у расейскай — Дзяржавіна, Пушкіна). Шляхом такога насьледаваньня й пайшоў паэта, не перакладаючы толькі, але яшчэ й адпаведным чынам перапранаючы клясычныя вобразы Гарацыя ў нашыя нацыянальныя, народныя й свае індывідуальныя пастаці. — Рэд.

---

М. ВОЛЬНЫ



# СУСЬВЕТНАЯ ЛІТАРАТУРА Й МЫ

**(ЗАЦЕМКІ АБ ЛІТАРАТУРЫ).**

Мы часам гамонім аб тым, чаму творы нашых пісьменьнікаў, зь якіх шмат высокае якасьці, не знайшлі шляху ў сусьветную літаратуру. Нам было-б прыемна, каб і Беларусаў успаміналі паміж укаранаваных вянкамі слаўных, што высака ўзносіла-б і нашую сьведамасьць. Цяпер мы бачым, што гэта было-б вельмі выгодна й карысна. У гэтых пакутных днёх кажны Беларус выразна адчувае, што нас вельмі мала ведаюць і спасьцерагаюць. Шмат людзей на сьвеце зусім ня ведае, што мы недзе й нешта ёсьць, а таму й маем гэтак мала працягнутых рук дапамогі ў цяжкую дзеля нас пару. Калі-б нашым пісьменьнікам удалося ўвайсьці ў г. зв. сусьветную літаратуру, дык разам із гэтым сталася-б ведамай іхная Бацькаўшчына й Народ. Магчыма, тады заміж абыякавасьці мы мелі-б спачуцьцё й падтрыманьне.

Але-ж мы выехалі — праўда, у нежаданае й няпрыемнае — падарожжа па сьвеце. Ці гэта мае нейкі сэнс? Сьвет, у якім мы знаходзімся, чужы й нялюбы нам. Нечага навучыцца й атрымаць дзеля сябе зь яго мы, здаецца, ня здолеем. Аднак нешта, як той казаў, мы мусім займець. Гэты сьвет мае колькі тайніцаў, у якія цяпер можам угледзецца. Магчыма, здолеем тады паказаць яму й сябе. І гэткі самапаказ, між намі кажучы, будзе заўсёды меншым ці большым гандлем.

Калі найперш папытаемся, што-ж гэта гэткае сусьветная літаратура, дык адразу пабачым, што гэтае паймо вельмі туманнае. Мы гаворым аб ёй зь нейкай пабожнасьцяй — гэта звычайная зьява, калі разважаюць аб нечым, чаго выразна не ўяўляюць. Простая пашана да хмарнага, памылковы шлях, каб нешта атрымаць. Шукаючы паважнага ўяўленьня аб сусьветнай літаратуры, часова можам чыста тэхнічна азначыць яе гэтак: **да сусьветнае літаратуры належаць тыя творы, якія перакладзеныя ў 4-5 вялікіх, г. зв. сусьветных моваў. Найперш успомнім ангельскую, францускую, нямецкую, пасьля яшчэ італьлянскую й гішпанскую мовы.** Маскоўская мова дзеля пашырэньня твораў блізу ня мае ніякага значаньня.

Калі-ж агледзім бліжэй творы сусьветнае літаратуры, дык зь іх найперш трэба вылучыць адну групу, — г. зв. «школьных аўтараў». Там знойдзем пераважна вельмі старых, рэдка маладых услаўленых аўтараў, пачынаючы ад Гамэра й канчаючы на В. Гюго. Сюды ўваходзяць грэцкія трагікі, пара рымлянаў, Сэрвантэс, Дантэ, Шэксьпір, Гэтэ і з большым-меншым хістаньнем яшчэ нейкага паўтузіна аўтараў, адзначаных у праграмах сярэдніх школаў Эўропы. Іх бязупынна перакладаюць ува ўсе мовы зноў і зноў. Але той чытач, які шукае жывых твораў дзеля свае спадобы, іх ня чытае. Аб іх пішуць. Літаратары, публіцыстыя і філёзафы пішуць аб іх свае кнігі. Бо гэтыя аўтары наагул належаць да гісторыі культуры. **Гэта** ўзорныя кавалкі, вяршаліны, ля якіх напрактыкоўваюцца ўсе пачынальнікі розных галінаў, там бяз турботаў знойдзеце матар'ял лекцыяў тых прафэсараў, аб якіх нельга ніяк зразумець, навошта гэта выкладаюць. Гэтак «асілкаў» перакладаюць і тлумачаць усё зноў, і можа здавацца, быццам яны яшчэ жывуць. Гэта, зразумела, толькі здаецца. Яны — атрыбуты культу прашчураў Эўропы. Аб некаторых зь іх навет нельга давесьці, што яны наагул жылі (Гамэр, Шэксьпір). Парадаксальна гучыць, але магчыма, што яны існавалі толькі няжывымі.

Аднак, гэтыя сьцені мінуўшчыны маюць вельмі вялікую вартасьць. Хоць яны не пакінулі спадкаемцаў, якія згодна Бэрнскай канвэнцыі маглі-б патрабаваць ганарары (яны дасягалі-б міліёнаў), але ад гэтых сьценяў маюць карысьць тыя народы, да якіх яны належалі спачатку. Аб Немцах часам здавалася, што яны пашчапаліся-б на кавалкі, каб ня мелі найперш адзінае спадчыны — Гэтэ. Італьлянскую мову стварыў Дантэ, а без Гамэра старадаўная Грэцыя была-б парожным гукам. Таму народы злосна й зацята змагаюцца, каб увесьці ў лік клясыкаў сусьветнае літаратуры аднаго з сваіх. Часам гэта ўдаецца толькі тым народам, якія далёка спрабавалі й вайстрыню свайго мяча. Толькі праваднымі народам удаецца накінуць сьвету сьцені культу сваіх прашчураў.

Аб гэтых школьных аўтарах, клясыках сьвету, нам ня варта думаць. Калі нехта спытаецца, чаму ня маем свайго Дантэ, дык можна адказаць — таму, што Беларусь ня была цэнтрам сусьветнае царквы й зь яе не праменіліся чараўнічыя ўспаміны старадаўнага магутнага Рыму. Мы ня маем Шэксьпіра, бо мы ня маем і сваіх даміняў на чатырох кантынэнтах.

Гэтыя вялікія сьцені паўстаюць толькі стагодзьдзямі. Іх трэба рупліва ствараць. «Боская камэдыя» Дантэ была-б толькі даўно забытым творам ходаньня флёрэнтыйскага выгнанца з нудой, і трэба было сотняў пісакаў, якія параўноўвалі Дантэ да Арыстотэля, Тамаша Аквінскага, Вяргілія, якія ўвялі яго ў драматычнае змаганьне вялікае трагедыі гісторыі паміж гвэльфамі й гібэлінамі, каб Дантэ стаўся Дантэ. Гэтыя сьцені ўсё ўзрастаюць у часе, бо кажнае новае пакаленьне дадае нешта да іх ад сябе, утлумачвае ў іх новыя сувязі.

Добра, што Алімп сусьветнага пісьменьніцтва не запоўнены толькі гэтымі школьнымі аўтарамі. Там ёсьць нязгледны натоўп, але затое жывейшых сьценяў. Як зьяўляюцца гэтыя?

Найперш трэба, каб творы нейкага пісьменьніка пераклалі ў вадну з 4-5 вялікіх моваў. Асабліва важная часам тая мова, якая мае ў вадпаведным пэрыядзе ролю пасярэдніка сусьветнае літаратуры. Колькі стагодзьдзяў гэткай была француская мова, але ад другой паловы мінулага стагодзьдзя й нямецкая мова. Немцы былі асабліва дзейнымі перакладнікамі. У нядаўнай мінуўшчыне Немцы гэтую вельмі спрыяльную ролю пасярэдніка культуры страцілі дзякуючы неразумнай культурнай палітыцы нацыстых. Наколькі нам відаць, сваю даўнейшую ролю аднаўляе француская мова. Ангельская мова, хоць і вельмі пашыраная, ролі літаратурнага пасярэдніцтва нек не пераймае. Французы ў гэтай галіне робяць бясспрэчна шмат больш, чымся Ангельцы, і апошнія яшчэ доўга будуць пакладацца на францускі густ і чыннасьць.

Але перакладу ў мову пасярэдніка яшчэ ня досыць, каб нейкі твор заміж пылу кнігарняў і бібліятэкаў быў пазалочаны сусьветнай славай. Твору патрэбная спрытная рэклама. Патрэбныя спрытныя публіцыстыя, якія ўвялі-б твор у цэнтр увагі, надаўшы яму сувязь з агульнымі праблемамі. Тым лепш, калі гэтыя праблемы такія, якія займаюць таксама вялікія народы. І трэба, каб твор ня згінуў, пакуль не абыйдзе іншыя вялікія мовы (раней гэта азначала дзясяткі гадоў, цяпер найменш год).

З паданага прыблізна відаць, якія маюць быць якасьці гэткага вартага славы сусьветнай літаратуры твору. Найперш — стылістычны бок менш важны. Творы сусьветнае літаратуры пашыраюцца толькі ў перакладах. Стыль кажны раз надае перакладнік. Зразумела, урывісты стыль, нутрана супярэчны, будзе вельмі цяжкім кажнаму перакладніку. Адсюль — **мова павінна быць вольна плывучай,** а глыбіня стылю неканечная. Большае значаньне мае ўжо **руплівая кампазыцыя твору,** яна ня зьнікае ў перакладніка. Аднак, і гэта не галоўнае. Цяпер, прыкладам, у модзе асабліва даўгія бясформавыя раманы, найменш у 5 томах. Ці казаць яшчэ, што пажаданым творам будзе раман? Зборнікі апавяданьняў уваходзяць у сусьветную літаратуру шмат пазьней за раманы. Вызначальным дзеля ўваходу у сусьветную літаратуру, г. зн. дзеля славы будзе **зьмест,** уведзеная ў твор праблематыка. Сусьветны пісьменьнік павінен ведаць зацікаўленьні й непакой сьвету, тое, аб чым сьвет думае або жадае думаць, ці ўдае, што думае. Добра, калі пісьменьнік спрытна

арыентуецца ў пярэстых прыгодах сьвету, нешта, што можна назваць філёзофскім кірункам, але, зразумела, гэтая філёзофія мусіць быць трапнай. Вялікі простор небасхілу заўсёды разумна братаецца з трапнасьцяй. Да глыбіні слава ня прыліпае, яна залоціць заўсёды ўзьверх. Аднак, гэтую ўмову трэба схаваць. Таму сусьветны пісьменьнік мае быць глыбакадумным, г. зн. — пісаць мясцамі нешта, што ні ён сам, ні нехта іншы ня можа зразумець. Мясцамі трэба раськідаць бліскучыя афарызмы, якія нічога ня выказваюць. Гэткія месцы прыцягаюць тлумачоў, крытыкаў, публіцыстых. Аб чытачох ня трэба палохацца — яны пасаромеюцца прызнацца дурнямі, і іхныя сымпатыі да аўтара гэтым толькі павялічацца.

Толькі скептык здолеў-бы напісаць гісторыю сусьветнае славы. Ягоная ўсьмешка не забараніла-б яму прасачыць дзівосны ўзьлёт птушкі славы. Колькі разоў яна, як вецер, праносіцца над запраўды вялікімі, каб зьнізіцца на плячо дурню і ўзьняць яго імпэратарам. Прынадзіць і прымацаваць гэтую птушку можна толькі спрытнасьцяй і хітрыкамі.

Праўда, не заўсёды сусьветная слава робіцца. Яна пэўстае ад унтумаў моды, ад неспадзевак шчасьця, якое ўзьняло на ўзвышша найбольш чытаны твор «Хацінка дзядзі Тома», якое зрабіла адным з асноўных сусьветных твораў «Рабінзона Крузо». А часам было гэтак, што славяць сваіх гэрояў вялікія народы, якія найдалей могуць біць аб іх у бубны. Зь меншых народаў толькі Скандынавы здолелі пэўна ўвайсьці ў сусьветную літаратуру. Гэта сталася ў часох, калі малюнкі простых сялянаў і рыбакоў аздаравілі няўпрыцям узрослых слабасільнікаў вялікіх гарадоў. Цяпер зусім сярэдні нарвэскі ці ісьляндзкі пісьменьнік, пішучы на заказ, увойдзе у сусьветную літаратуру.

Сусьветную літаратуру цяпер «робяць», як кажны іншы экспартны тавар. Настаў час, калі заміж тысячаў чытачоў прыйшлі міліёны. Ім заўсёды патрэбен нехта, хто за іх думае й дае танныя ды ўтульныя ўзоры дзеля выяўленьня іхных пачуцьцяў. Таму штогоду трэба ведамы лік пісьменьнікаў увесьці ў сусьветную літаратуру. Цяпер ёсьць сусьветныя войны, сусьветная гаспадарка, сусьветны рынак, сусьветны крызіс і ў запраўднасьці толькі цяпер існуе ў аўтэнтычным значаньні й сусьветная літаратура таксама.

Пачэсна жыць із сваім творам у сваім народзе і няпрыемна выбрыквацца ў цырку сусьветнага рынку. Але, вяртаючыся да таго, ад чаго пачалі, і памятаючы, што месца ў сусьветнай літаратуры прыбытковае, прыбытковае пісьменьніку й ягонаму народу, мы можам усьміхацца весялей і пажадаць, каб нашыя пісьменьнікі таксама падыйшлі да гэтага пытаньня із сьцюдзёным разрахункам, рухавасьцяй і неадступнасьцяй. Хай яны памятаюць, што тут ідзець не аб мастацтве, але аб спрытнай дзейнасьці гандлю зь вялікаю мэтай — здабыць свайму народу паважнае месца на Алімпе сусьветнае літаратуры.

**Ад рэдакцыі.** Артыкул М. Вольнага (упяршыню зьявіўся ў рукапісным часапісе «Мэта», № 5 (12) за 1947 г.) рэдакцыя зьмяшчае, як дыскусыйны.

**М. ТЭН**

# МАЛАДОСЬЦЬ ЦІ СТАРАСЬЦЬ?

Усякі народ, як і ўсякі чалавек упаасобку, нараджаецца, сталее, старэе й паміраe. Да прыкладу, узяць старадаўны Эгіпет, Грэцыю й Рым. Зь гісторыі нам ведама, што ўся так званая эўрапейская цывілізацыя, пашыраная цяпер і вонках нашага кантынэнту, узяла свае пачаткі ад гэтых, ужо вымерлых, народаў — Эгіпцянаў, пасьля Грэкаў і далей Рымлянаў.

Другім прыкладам можа быць сучасная Гішпанія. Яшчэ зусім нядаўна Гішпанцы былі ў зэніце свайго росьцьвіту й пашыралі сваю культуру ня толькі ў Эўропе, але й за Атлянтыкаю. А што яны сяньня? Такі закон пануе над усім і над усімі. Праўда, у ваднаго народу гэтая сталасьць, гэты росьцьвіт трывае больш доўга, часам ападае, здаецца, заміраe, але, прайшоўшы праз пэўныя выпрабаваньні, ізноў уздыймаецца, ізноў гарыць, красуе, аж пакуль ня выканае місіі, прызначанай яму конам.

Цікава паставіць пытаньне: што перажывае цяпер народ наш — маладосьць ці старасьць? Каб адказаць на гэтае асноўнае пытаньне, мусім разьвязаць два пытаньні пабочныя:

1. Ці перажыў наш народ росьцьвіт у сэньсе арганізацыйна-палітычным?
2. Ці перажыў наш народ росьцьвіт у сэньсе духовым?

З адказаў на гэтыя два пытаньні будзе відаць, ці наш народ у стадыі маладосьці, ці старасьці.

Крывічы, мінаючы пэрыяд паасобных княстваў, як Полацкае й інш., што праўда — былі скансалідаваныя ў моцны гаспадарстваўскі арганізм пад новым назовам — Літва, які праіснаваў нешта каля паўтысячы год. Аднак, у маштабах сусьветнае гісторыі тэрмін гэты занадта кароткі. Другое-ж — цяпер мы ня можам сказаць, як разьвівалася-б, як далёка пайшла-б нашая гаспадарстваўшчына ў кірунках палітычным, эканамічным і сацыяльным: можа мы знайшлі-б нешта апрычонае, зусім не такое, якое было датуль у нас ці пасьля накінутае нам, і гэтым самым выканалі-б сваю гістарычную місію. Вонкавыя, бадай ад нас незалежныя, прычыны паставілі нашаму разьвіцьцю мяжу. Мы можам толькі сказаць, што на тыя часы, наўсуперак бязупынным нападам на нас і з усходу, і з паўдня, што забірала занадта шмат сілаў і энэргіі, мы выказалі свой арганізацыйна-гаспадарстваўскі гэні, і парадкі ў нашым гаспадарсьцьве былі куды ідэальнейшыя, чым у нашых суседзяў. Грамадзянін нашага гаспадарства цешыўся з волі, маемасьць і жыцьцё ягоныя былі абароненыя законам, што ўжо станавіла дасягненьне ў тым хаосе, які панаваў тады ня толькі на ўсходзе, але й на захадзе. Даволі навет павярхоўнага знаёмства зь «Літоўскім Статутам», каб пераканацца ў гэтым. Аднак, само сабой зразумела, гэта ня быў нейкі зэніт, нейкая вяршаліна нашага разьвіцьця. Мы яшчэ толькі-толькі ўвайшлі былі ў пэрыяд арганізаваньня гаспадарства, як нас расьціснулі, — праўда, ішлі мы з натугай, з крывёй, але — наперад. І ня слабасьць нашая тут была віной. Каля дваццацёх войнаў, якія мы правялі ў сваю абарону, сьцьвярджаюць гэта.

Выснаў: мы ня вычарпалі яшчэ сваіх арганізацыйных здольнасьцяў. Мы маладыя, прагнем жыць сваім собскім жыцьцём, прагнем сказаць сваё слова, прагнем выканаць сваю місію, хоць-бы сабе й маленькую, але тую, што прызначыў нам кон.

Кажуць, што культурныя дасягненьні народу рэалізуюцца ў ягонай гаспадарстваўскай дзейнасьці. Аднак, нас пазбавілі гэтае гаспадарстваўскае дзейнасьці якраз у тым мамэньце, калі мы толькі-толькі пачалі жыць і, галоўнае, калі культура, у сучасным разуменьні, была ўва ўсёй Эўропе яшчэ ў зародку. Толькі-толькі быў вынайдзены спосаб друку — адзін з магутнейшых дзейнікаў пашырэньня культуры. Унівэрсытэтаў налічваліся ў Эўропе адзінкі. Зародкі сучаснага мастацтва, музыкі й літаратуры спачывалі ў руках мэцэнатаў, народу ня былі даступнымі. Зусім зразумела, пазбаўлены гаспадарства, наш народ ня мог мець такіх поступаў у галіне культуры, як, скажам, Французы, Немцы, Англа-саксы, ці хаця-б сабе, тыя-ж Палякі, якія й пасьля чацьвертага падзелу больш мелі і палітычных і эканамічных магчымасьцяў. Дык тут мы яшчэ больш, чымся ў арганізацыі гаспадарства, не сказалі свайго слова. Нашае мастацтва, музыка, літаратура — маладыя, часам недасьпелыя, часам несамастойныя. Доля нашая ўкладалася так, што гэні нашага народу апяваў і ўсхваляў на працягу апошніх колькісот год славу ня нашу. (Маю на ўвеце А. Міцкевіча, Матэйку, Дастаеўскага, Мусаргскага й інш.). Мы ня можам яшчэ пахваліцца ні лікам, ні ўзвышшам нашых аўтараў (хаця ўжо і цяпер маем выняткі, якія перарасьлі нашыя нацы-

янальныя межы). Нам не даюць іх мецъ. Дык і ў галіне палітычнай і ў галіне культурнай мы яшчэ ў пэрыядзе станаўленьня.

У сувязі з гэтым перад нашым народам стаяць найвялізарнейшыя задачы: узгадаваць палітычных дзеячоў, узрасьціць пакаленьне змагароў за незалежнасьць. А гэта магчыма толькі тады, калі мы будзем мець духовыя сілы. Бо незалежнасьць — ня манна, зь неба ня падае. Мала таго, што яна вымагае сілаў і ахвяраў, — мусіць мець грунт. Грунтам гэтым — культура народу, якая ўсьведамляе кажную адзінку, што змаганьне гэтае канечна патрэбнае, што на сьвеце ёсьць несправядлівасьць, што ён, гэты народ, гэтае супольства адзінак, хоча адбудаваць у сваім краі такое жыцьцё і ўстанавіць такія парадкі, якія яму да густу. Калі кажная адзінка народу будзе перакананая ў гэтым, таксама як і ў тым, што змаганьне канечна патрэбнае, тады незалежнасьць дасягаецца лёгка. Інакш кажучы, нам трэба нашае мастацтва й літаратуру ўзьняць на такое ўзвышша, каб яны паланілі думкі й пачуцьці чытача, глядача й слухача — ды занялі адпаведнае месца сярод літаратураў і мастацтваў іншых народаў, сталіся ведамымі далёка за межамі нашага народу. Гэта гістарычны абавязак. Трэба зразумець, што прыкладам, другую Польшчу (у 1921 г.) стварыў усё-ж ня Пілсудзкі, а Міцкевіч, Сянькевіч, Славацкі, Красінскі, Шапэн, Матэйка й іншыя, ідэі якіх глыбака залеглі ў душы польскага народу, зь якога Пілсудзкі чэрпаў сілы, змагаючыся за Польшчу. Ня можна сабе ўявіць народу, які-б карыстаўся з гаспадарстваўскае сувэрэннасьці, ня маючы духовых асноваў. І глыбака мыляюцца тыя, што кажуць: гаспадарства — гэта паліцыя й войска. Толькі паліцыя й войска. Мы — бурмістры, лейтэнанты — і толькі мы... Культура? Аўтары?.. Паэцікі й музыкі?.. Попел. Так разважаюць крэтыны.

Дык-жа мусім разбудоўваць духовыя асновы для нашай незалежнасьці.

Пытаньне — хто й дзе?

Зразумела, ня там і не яны. Не хачу сказаць, што там пустэча, бясталентнасьць. Якраз можа - сіла засталася там. Але гэтая сіла ўходаная, зьвязаная, спараліжаваная. Калі-б там талент загаварыў ад імя народу, ці хаця-б наагул — на поўны голас, дык ён-бы, ці яны, хай-бы было іх хоць сабе тысячы — назаўтрае былі-б выцерабленыя да карэньня. Ізноў-жа зразумела, факт існаваньня гаспадарства пад імём Беларусі, хаця-б сабе й фармальнага, намінальнага, усё-ж мае й значаньне пазытыўнае. І тое, што цяпер робіцца там у галіне культуры — хоць сабе «нацыянальнай формаю й сацыялістычнай зьместам» — ня пройдзе бясьсьледна. Надыйдзе час, калі гэта ўсё будзе пераацэнена. Але вычварнасьць, якая там узносіцца цяпер у нашыя нацыянальныя здабыткі, не дае нам асноваў залічаць усё тое, што там робіцца, да дасягненьняў.

Відавочна, задачы стварэньня незалежніцкага грунту, тае духовае сілы, якая — казаў той (алегарычна) — «навет салому ломіць», ляжыць на нас, на эміграцыі, і на інтэлігенцыі творчай. У сувязі з гэтым нам трэба пераглядзець нашыя дачыненьні. Перагледзець іх трэба, першнайперш, пад кутом стварэньня адпаведных абставінаў, каб тое, што творыцца, магло быць даведзенае да канца. Праўда, эміграцыя, навет у больш стабільных часох, зьява цяжкая, але што-ж — мусім... Мусім мы ўрэшце зразумець, што галоўная нашая задача не змаганьне за «карыта», а гістарычная місія, якая палягае ў нашай творчасьці. Калі-б мы зрабілі поступы ў гэтым кірунку, стварылі такія рэчы, якія-б адыгравалі дамінантную й прагрэсыўную ролю ў усьведамленьні кажнаму нашага змаганьня ды сталіся ведамыя культурнаму сьвету і сваёй ідэёвасьцяй і сваёй мастацкасьцяй, — гэта было-б, калі ня ўсё, дык у кажным разе шмат. Праўда, нас тут ня шмат, які-небудзь дзесяток-другі. Ды ўсё-ж гэта — патэнцыял, які можа тварыць. Некаторыя з гэнага дзесятку маюць напісаныя рэчы, некаторым навет удалося тое-сёе выдрукаваць зь вялізарнымі цяжкасьцямі. Іншыя пазбаўленыя гэтай магчымасьці. Тое, што выдрукавана, не знайшло адпаведнага зацікаўленьня ні з боку крытыкі, ні з боку пакупца. Гэта блага. Трэба падумаць і аб пашырэньні кніжкі. У гэтым павінны больш дапамагаць нашыя камітэты ўва ўсіх зонах і ўва ўсіх краёх, дзе яны толькі ёсьць. У нас у Нямеччыне лягераў мала й людзей у іх таксама няшмат. Але наагул бяручы, дык нас шмат. Нам ня трэба баяцца, што не раскупяць; добрая рэч заўсёды праб'е сабе дарогу да чытача; гэта ўсёроўна, што бамбук, які прабіваецца ў сваім росьце праз цымэнт. Урэшце, могуць памагчы арганізацыі й іншых народаў — згуртаваньні журналістых і пісьменьнікаў, што маюць супольную з намі долю й ідэю. Гэтую справу трэба парушыць. Чуюцца галасы — інэртнасьць, нічога ня будзе. Гэта не азначае, што трэба апусьціць рукі. Якое было-б дасягненьне, каб нашая кніжка была перакладзеная ў іншыя мовы — хаця-б сабе, пачынаючы ад украінскае, польскае. У далейшым яна магла-б пайсьці ў шырокі сьвет, несьці нашыя ідэі, выклікаць спачуваньне да нашае долі і ў народаў вялікіх. Дык пастаўма-ж на гэтую мэту. Аддайма гэныя «карыты» тым, каму яны імпануюць — хай яны кусаюць адзін аднаго каля іх — зоймемся справай. Не да твару тым, хто носіць у сэрцы агонь вызваленьня, праўды й волі — гэныя «карыты».

Мы маладыя — мы мусім ствараць з агаьком, з пачуцьцём!

Р. СКЛЮТ

# ЛЯ ВЫТОКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА

Наш слаўны першадрукар Пранцыш Скарына у прадмове да аднае з кнігаў свае Біблії («Юдыт») запісаў простыя, але надзвычай прачулыя, векапомныя словы: «Панежа ад прыраджэньня зьверы, хадзячыя ў пустыні, знаюць ямы свае, пцицы, лётаючы па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плываючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобныя бароняць вульляў сваіх — також і людзі, ідзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку імаюць». Гэтак упяршыню ў нас быў сфармуляваны ў няхітрай і нявыдумнай форме вялікі й адвечны закон жыцьця — закон сілы каханьня да роднага, ці, выслаўляючыся ў тэрмінах аднае з сучасных плыняў у навуцы — закон **нацыянальнага эрасу.**

Нацыянальны эрас — каханьне да роднага — становіць сабою глыбокую эмацыянальную (пачуцьцёвую) падаснову ўсяго нацыянальнага наагул, усякае нацыянальнае сьведамасьці, кажнае нацыянальнае ідэі, зь яго ўзростае й на яго-ж абапіраецца кажны нацыяналізм. І ў гэтым таямніца тае вялікае сілы, зь якою дзеіць кажная нацыянальная ідэя ці нацыяналізм на суродзічаў свае нацыі, бо бязь лішніх довадаў само сабою ясна, што і ўсякая ідэя наагул будзе найбольш моцнай і дзейнай тады, калі выплывае з глыбінных нетраў пачуцьця, карэніцца ў пачуцьцях і на гэтыя-ж пачуцьці абапіраецца, як на сваю непахісную падаснову. А нацыянальная ідэя мае ў гэтым дачыненьні яшчэ тую вялікую перавагу над шмат якімі іншымі ідэямі, што яна карэніцца й абапіраецца на адным із глыбейшых і інтымнейшых пачуцьцяў — на пачуцьці каханьня, эрасу, што сягае сваімі вытокамі да самое біялёгічнае істоты чалавека. Можна не згаджацца із Фройдам і ягоным псыхааналізам у паглядзе на ўнівэрсальную вызначальнасьць эратычнага пачуцьця наагул, на абумоўленасьць ім усіх і ўсякіх выяваў жыцьця й творчасьці, але нельга ня прызнаць, што ў дачыненьні да свае аж біялёгічнае моцы й трываласьці пачуцьцё гэтае займае у людзкой прыродзе адно зь першых і важнейшых месцаў, калі не найпершае й найважнейшае. Дык і адна з адменаў ягоных — нацыянальны эрас — таксама мусіць падзяляць гэтае месца й тым самым абумаўляць і падпіраць моц заснаванае на ім нацыянальнае ідэі.

Пранцыш Скарына быў у нас толькі першым, хто пу-

блічна выказаў — пры тым, цікава падчыркнуць, із чыста-біялёгічным абгрунтаваньнем — вялікую і ўсеабсяжную формулу нацыянальнага эрасу, зраджваючы ў самой цёплай, прачулай форме выслаўленьня яе й сваю асабістую цесную прычыннасьць да гэтага пачуцьця. Няпомысы й перагасы народнага й асабістага ягонага жыцьця не далі нашаму вялікаму мужу, ягонай глыбокай думцы (ці мо толькі слову) узьняцца з глыбіняў усьведамленьня сілы нацыянальнага эрасу на ўзвышшы вызнаньня ўсяе велічы й магутнасьці нацыянальнае ідэі на ўзвышшы нацыяналізму. Сучасная яму й асабліва наступная эпоха працавала на поўным ходзе над тым, каб як глыбей пахаваць навет самы апрычоны нацыянальны быт нашага народу. Але сярод тых дзейнікаў, якія не далі ўдацца гэтай змове й замаху часу зь ягонымі варожымі сіламі на самы наш нацыянальны быт, бясспрэчна, адно зь першых, калі, зноў-жа, не найпершае месца займае той самы нацыянальны эрас, каханьне да роднага, гарачы прысак якога перахоўваўся глыбака на дне душы кажнага Скарынінага суродзіча, што й дало пасьля магчымасьць лепшым і чулейшым зь іх узьдзьмухаць ізноў вялікае полымя нацыянальнага адраджэньня і ўзвышэньня. Але навет і тыя, што аказаліся слабейшымі ў нацыянальным дачыненьні й хоцькі ці няхоцькі адразу скапітулявалі перад часам, пракінуўшыся цалком у той ці іншы чужы табар — не маглі ўсё-ж пазбыцца гэтага неадчэпнага пачуцьця да свае роднае «Літвы-айчыны», як, прыкладам, пасвойму вялікі Адам Міцкевіч. А калі й перакідаліся, дык ня ўсе маглі вытрываць там, «на чужой старане», да канца, а варочаліся ці хоць наварочваліся ад часу да часу, валадарна гнаныя ўсё тым-жа стлумленым нацыянальным — да роднае хаты, да дому каханьня. Такім быў Людзьвік Сыракомля-Кандратовіч і, сярод іншых неадзінкавых, асабліва можа Вінцэсь Каратынскі, прачулая элегія якога — «Туга на чужой старане» — становіць сабою першае глыбака-паэтычнае выяўленьне нацыянальнага эрасу ў нашай ужо мове. З гэткіх скарыніных нашчадкаў і пачалі выходзіць тыя ўзьдзьмухвальнікі-абуджальнікі нацыянальнага сьведамасьці з глыбака захаванага прыску нацыянальнага пачуцьця — нацыянальнага эрасу, першае месца сярод якіх належыць, бясспрэчна, агульна-прызнанаму бацьку нашага руху Праньцішу Багушэвічу.

Пераняўшы як-бы проста з рук свайго вялікага прародзіча й цёскі Праньціша Скарыны гэтую сьведамасьць усевызначальнае сілы нацыянальнага, Праньціш Багушэвіч першы пачынае выказваць пачуцьцё нацыянальнага эрасу ўжо не ў нэгатыўнай форме «тугі на чужой старане», а ў простых словах шчырага, адкрытага прызнаньня ў каханьні, замілаваньні да «свае хаткі». І нездарма акадэмік Карскі, зацытаваўшы ў сваіх «Белорусах» самыя словы гэтага прызнаньня, мусіць сьцьвердзіць у шырэйшым абагульненьні: «Любовь к своей неприглядной родине — выдающаяся черта каждого белорусса», сьветчачы лішні раз аб тым-жа ўсенародным абсягу пачуцьця нацыянальнага эрасу ў нас.

Пачынаючы ад Багушэвіча, нацыянальны эрас становіць сабою эмацыянальную, пачуцьцёвую дамінанту ўсяго нашага народнага руху, асабліва рупна й любасна выпешчаваную ягонай натхняльніцай і ідэйнай кіраўніцай — нашай адраджэнскай паэзіяй. Так, Багушэвічаў вучань і наступнік, працягальнік, а пасьлейшы вялікі нацыянальны прарок Янка Купала ад першых сваіх зборнікаў не пакідае на розныя лады паўтараць свае шчырыя прызнаньні ў каханьні да роднага — «ды люблю-ж я яе» («Гэта крык, што жыве Беларусь» — зборнік «Жалейка»), «дай-жа ты мне сілы, каб цябе любіў так да самай магілы» («Люблю тваіх межаў...» — зб. «Гусьляр») — каб, зьвярнуўшыся зноў да нэгатыўнае формы «тугі на чужой старане» сьлядамі В. Каратынскага («Я ад вас далёка» — зб. «Шляхам жыцьця») даць нарэшце непараўнальны ў сваёй глыбокай народнасьці й высокай мастацкасьці шэдэўр эстэтычнага выяўленьня нацыянальнага эрасу — паэму «Яна і Я» (зб. «Спадчына»). Гэтая паэма вартая таго, каб над ёй спыніцца хоць крышку, тым больш, што якраз гэты — асноўны, вызначальны ейны бок заставаўся дасюль для крытыкі зусім незаўважаным. Бо дасюлешняя крытыка, за вонкавым індывідуальным плянам, за шырмамі ідылічнасьці й фальклёрнасьці, што асабліва захапілі Карскага, за мастацкім, здавалася-б, чыста сэксуальным эратызмам (пркл. канец перадапошняга разьдзелу 13:

Ногі падкасіліся і мне й ей,
Зьліліся вусны з вуснамі самі сабой
Полымем прыпалі грудзі да грудзей,
Зьмяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой) —

зусім правочыла раскрыты паэтам толькі пад самы канец твору, у сама апошніх ягоных зваротках выразны нацыянальна-сымбалічны сэнс яго:

Я песьняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю, —
Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасьцель.
А воля мне зялезная патрэбна
За крыўды мае мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

Купалаўская «Яна і Я» — гэта запраўдная песьня песьняў нашага нацыянальнага эрасу, дзе на шырокім пацыянальным народна-бытавым і фальклёрным фоне паўгадавога паўкола селавога жыцьця асноўнае масы нацыі (дарэчы, мала вузейшым і бяднейшым навет у зьместоўнасьці за абраз поўнага гадавога кола ў Коласавай «Новай Зямлі»), само пачуцьцё, «задушэўнасьць» якога адзначае й Карскі, а нацыянальны сэнс раскрывае паэта, дасягае найвышэйшых формаў мастацкага выяўленьня, рэалізуючыся ў вобразах індывідуальнага і навет чыста-сэксуальнага эратызму і гэтым самым завяршаючы навет фармальна сваё напаўненьне, як пачуцьця якраз эратычнага ў самым простым і звычайным, а не якім-небудзь пераносным сэньсе.

Купалавы паплечнікі й пераймальнікі таксама йдуць у сваёй паэзіі пад знакам эмацыянальнай усевызначальнасьці і ўсепрасякальнасьці пачуцьця нацыянальнага эрасу. Так, пра Я. Коласа ягоны суровы, але справядлівы крытык Максім Багдановіч проста сьцьвярджае: «Ня ў пекнасьці формы, мовы ці малюнку хавеецца цэннасьць яго вершаў, але ў праўдзівай — далёкай ад усякай хвальшы — любові да Бацькаўшчыны; гэтая любоў, як цудоўная жывая вада ў казках, ажыўляе іх і робіць роднымі, блізкімі ўсякаму, у кім яшчэ ёсьць душа жывая, хто не забыўся аб долі свайго народу, а мо й сам перажывае апісанае ў гэтых вершах» («Глыбы й слаі», 1911). Таксама «праўдзівае — далёкае ад усякае хвальшы» каханьне да «мілае, роднае старонкі-маці» прасякае й паэзію Алеся Гаруна. А наймалодшая зорка нашаніўства, вершы якое яшчэ больш, як у Гаруна й іншых, ад пачатку й да канца застаюцца пад магутным Купалавым гіпнозам, высноўвае ціхі, але глыбока-натхненны, і дасюль улюблёны ўсімі запраўдны гімн нацыянальнага эрасу — ведамае «Люблю наш край».

Аднак, ужо сярод нашаніўцаў назначаецца й новая лінія паглыбленьня й завайстрэньня пачуцьця нацыянальнага эрасу, ускладненьня яго мамэнтамі аж трагічнай часам акананаванасьці й самаахвярнасьці — мамэнтамі, ня чужымі й бадай заўсёды глыбака захаванымі ў кажным эратычным пачуцьці. Гэтую лінію пачынае адзін із найвыдатнейшых нашаніўскіх валатоў духу Максім Багдановіч, узьдымаючы самы фактар нацыянальнага эрасу ізноў на ўзвышша магутнага закону, поўнага ў сваёй глыбіні безагляднай акананаванасьцяй, — на тое самае блізу ўзвышша, на якім паставіў яго ўжо ў сваім сфармуляваньні Праньціш Скарына. У сваіх слаўна-ведамых «Слуцкіх ткачыхах» ён якраз і выказвае магутнасьць сілы роднага, што прабіваецца заўсёды і ўсюды, як той «цьвяток радзімы васілька» праз «пэрсыдзкія ўзоры» чужых уплываў, прабіваецца ня толькі міжвольна, «забыўшыся» (першая рэдакцыя вершу), але нарэшце й надвольна-акананавана, мэханічным проста дзеяньнем «бязвольнае рукі» (апошняя аўтарская рэдакцыя вершу). І як тонка падгледзеў быў сваім часам Адам Бабарэка ў гэтым запраўдным шэдэўры думкі й выславу глыбака-сымбалічны абраз самых вытокаў нашага адраджэньня, пачатага міжвольнымі, «забыўшыся», ці нат бязвольнымі рукамі як-бы тых самых «слуцкіх ткачыхаў» пад магут-

ным дзеяньнем сьляпое, аж біялёгічнае сілы роднага, сілы нацыянальнага эрасу!

Ды той-жа Максім Багдановіч у другім сваім ведамым шэдэўры — векапомнай «Пагоні» — першы даў і яшчэ адзін новы мамэнт у разьвіцьці нацыянальнага эрасу ў нашай паэзіі — мамэнт самаахвярнасьці бясконца, да болю закаханага ў родным. Хоць, распрацоўваючы трагічную тэму «каханьне й сьмерць» у індывідуальным разрэзе, паэта як-бы й ставіць індывідуальны эрас вышэй за нацыянальны —

Тым вянкі суворай славы,
Што за край свой у баю
Жрэбі вынялі крывавы,
Напаткалі сьмерць сваю.
Ды слаўней цяжарнай доля, —
Ў сэрцы маючы любоў,
За дзіцё зазнаці болі,
За дзіцё праліці кроў, —

усё-ж у «Пагоні» ён зварачаецца зноў зь «няўсьцішаным болем» маленьня аб прыняцьці ахвяры ў імя нацыянальнага:

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль.
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына, —
За Цябе яму ўмерці дазволь.

Гэтыя новыя мамэнты, унесеньня М. Багдановічам, асабліва падхапляюцца й распрацоўваюцца ягонымі простымі наступнікамі й спадкаемцамі — узвышэнцамі. Іхны правадыр Уладзімер Дубоўка ў сваёй ведамай праніклай нацыянальнай прысязе — «О, Беларусь, мая шыпшына» — ня толькі выказвае зноў, у новай толькі форме, старое нашаніўскае прызнаньне ў каханьні да роднага —

Вачэй тваіх пад колер сталі
Праменьне яснае люблю —

але яшчэ беспасярэдня перад гэтым падчырквае той-жа мамэнт самаадданасьці й самаахвярнасьці —

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю...

І ў жаданым самому сабе пасьмяротным «эпітафе сьветлым» паэта хоча, каб яму сьціпла запісалі нічога больш, як толькі вынікі ягонае самаахвярнае працы для любай радзімы:

«На Беларусі ён ня марна жыў,
Ён працаваў сумленна і няспынна,
Тугой затым ён сэрца надужыў,
Што доўг ня ўвесь аддаў сваёй краіне».

А ягоны малодшы сучасьнік і пераймальнік Паўлюк Трус даходзіць проста да экстазу гэтае самаахвярнасьці каханаму роднаму, з багдановіцкім «няўсьцішаным болем» заяўляючы пра сябе:

Аддам усё, чым сэрца плача,
Дастану сэрца й падару,
Бо я людзей яшчэ ня бачыў,
Каб так любілі Беларусь.

Нарэшце, Уладзімер Жылка ў сваім пасьмяротным, а няўмірушчым «Тэстамэньце» першым дарам-спадчынай сваёй роднай «крывіцкай хаце» адказвае свой высокі нацыянальны эрас:

Ўсім найдарожшым прысягаю —
Сваіх грахоў не утаю,
І любасьць гэтую да краю,
І гнеў, і ненавісьць сваю,
І што набыў, усё, што маю,
Ўсе скарбы, ўсе свае багацьці
І песьні ўсе — крывіцкай хаце.

Паэты нашае літаратурнае сучаснасьці таксама ўсе жывуць і дыхаюць тым самым пачуцьцём вялікага нацыянальнага эрасу. Ня толькі Алесь Салавей ці Масей Сяднёў, што могуць вольна выказваць свае думкі й пачуцьці, апынуўшыся на гэты бок пракуднае «зялезнае заслоны», але навет і такі сталінскі ляўрэат і нявольнік, як Пятрусь Броўка, ня можа ня выпісаць хоць на маргінэсе афіцыйна-казённае савецкае алялюйшчыны шчырыя й праніклыя словы й свайго прызнаньня ў каханьні да свае нацыі:

Беларусь!
Хто любоў да цябе можа зьмерыць?
Акіяны ня маюць такой глыбіні.
. . . . . . . . . . . . .
Як ты дорага нам,
Як нішто і ніколі ў жыцьці,
Беларусь...

Аднак, перад у гэтым дачыненьні сярод нашых паэтычных сучасьнікаў, бясспрэчна, належыць нікому іншаму, як Натальлі Арсеньневай, мо таму, што ейнае жаночае пачуцьцё як найлепш умее знайсьці цёплыя й прачулыя словы для выслаўленьня вялікіх пабудак нацыянальнага эрасу. Тэмпэратура гэтага пачуцьця стала ўздымаецца ў паэзіі Арсеньневай ад «роднай старонкі ціхога каханьня» (першы зборнік вершаў «Пад сінім небам») да «процьмы цёплага каханьня» (апошні зборнік «Сягоньня»). Цікавая й характэрная тут навет тая драбніца, што Арсеньнева бадай першая й ці ні адзіная гаворыць не аб простай любасьці ці «любові», а ўжо аб палкім каханьні роднага. І ў гэтым каханьні, аддаючы даніну й таму-ж багдановіцка-дубоўкаўскаму мамэнту самахвярнасьці —

Не шкада нам жыцьця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві —
Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы —

Арсеньнева ўздыймаецца праз балюча-пакутную сучаснасьць чужыны й эміграцыі — да натхненнай візіі будучыні новага росьцьвіту нацыянальнага эрасу пры некалішнім спатканьні з сама дарагім родным на родныхжа землях, як-бы замыкаючы пры гэтым і пачатае калісь В. Каратынскім кола «тугі на чужой старане», як нэгатыўнае формы таго-ж каханьня роднага, што памагае яшчэ вайстрэй і глыбей і ацаніць яго:

І усьміхнуцца нам,
аж сэрца забаліць,
І усьміхнуцца йзноў,
аж у грудзёх заколе
Крывіччыны мае блакітныя палі,
Каханыя ў чужой краіне, як ніколі.

Так, ад далёкіх часоў мінуўшчыны праз усе перагасы гісторыі й бліжэйшае сучаснасьці пульсуе ў нашым народзе, у ягоным духу і лепшай выяве яго — паэзіі — усё тая-ж вялікая і ўсевызначальная сіла нацыянальнага эрасу, самаадданага й самаахвярнага каханьня роднага. І хоць не заўсёды й не ўва ўсіх давалася гэтай сіле ўзьняцца на вышэйшую ступень нацыянальнае ідэі, узвышша нацыянальнага, дык затое заўсёды й назаўсёды застаецца яна тэй магутнай падасновай, на якой абапіраецца й зь якой кажным часам можа быць адбудаваны і ўзбудаваны вялізманы гмах гэнае ідэі. Гэтая вялікая сіла становіць сабою непахісную зарукy няўмірушчасьці нашае нацыі й нашае нацыянальнае ідэі пры ўсіх сучасных і магчымых яшчэ няпомысах і перагасах долі. Яна-ж дае нам сяньня ізноў і ізноў валадарны загад — катэгарычны імпэратыў безаглядн**ага служэньня й ахвяраваньня сябе дарэшты гэтаму няўмірушчаму народу й ягонай справе. Выканаць гэты загад безаглядна й да канца — сьвяты абавязак кажнага Крывічаніна, дзе-б ён ні стаяў у змаганьні — ці на постані варты, ці на полі бою за край і народ.

ПРАФ. Л. АКІНШЭВІЧ

# КРЫВІЦКАЕ КАЗАЦТВА У XVII СТ.

(РЭФЭРАТ, ЧЫТАНЫ НА ПАСЕДЖАНЬНІ КРЫВІЦКАГА НАВУКОВАГА ТАВАРЫСТВА ПРАНЬЦІША СКАРЫНЫ).

Я хачу перанесьці свайго чытача ў эпоху за больш як 300 год, значыцца — у сярэдзіну 17 стагодзьдзя. Пра гэты час, што супадаў із часам казацкага паўстаньня славутага гэтмана Ўкраіны Багдана Хмяльніцкага, калі Крывіччына (Беларусь) перажывала моцныя ўзварушэньні, калі крывіцкі народ кіпеў, як у вагні й імкнуўся змагацца із свайімі варагамі, калі шырокія масы крывіцкага жыхарства перамянілі саху ралейніка ці снадзь рамесьніка на казацкую шаблю, калі Крывіччына, усходняя прынамся, падзялілася на казацкія сотні, калі невялічкае паветавае места ў Магілеўшчыне Чавусы сталася сталіцаю новае казацкае Беларусі, — пра гэтыя часы незаслужана мала ведае нашая гісторыяграфія.

Я хачу зацікавіць гэтым часам крывіцкае гісторыі. Але дзеля таго, каб належна ды поўна зразумець прычыну й запраўдны характар тых здарэньняў, пра якія мы будзем весьці мову, мы павінны перш-на-перш разьвязаць некаторыя прынцыповыя пытаньні. Адным зь іх будзе пытаньне пра тое, чаму крывіцкае жыхарства не ўтварыла казацкае арганізацыі ўперад, як гэта зрабіла суседняя Украіна.

Гэтае пытаньне больш складанае, чымся можна было-б адразу думаць. Расейская навука апошнім часам уважала ўсе казацкія паўстаньні на Ўкраіне і ў Расеі за род сялянскіх паўстаньняў супраць паноў, што ў 15-16 стагодзьдзях пракаціліся па бальшыні краёў Заходняе Эўропы. Калі-б стаць на гэткі пагляд, дык нябыцьцё казацкіх аддзелаў у Беларусі трэба было-б ацэньваць, як адзнаку нейкае асаблівае палітычнае пасыўнасьці беларускага селяніна. Запраўды гэта было далёка ня так.

І найперш дзеля таго, што казацкая арганізацыя на Ўкраіне, на Доне, на Ўрале і г. д., зусім ня была арганізацыяй паўсталых супроць пана сялянаў. Селянін, мешчанін ці шляхціц (а было ці мала й апошніх), калі выяжджаў — скажам, у 16 стагодзьдзі — прыкладам, із прыналежнае да Польшчы ўкраінскае Галіччыны, Валыні ці Падольля на ўсход, лучаў у шырокія, вольныя прасторы гэтак званага ў тую эпоху «дзікога стэпу», што ўскрываў сабою землі цяперашняе Кіеўшчыны, Палтаўшчыны ды ўсяе паўдзённае Ўкраіны аж да зялёных берагоў Чорнага мора. Гэта быў край шырокіх, бязьмежных сьцяпоў, дзе сьцепавыя травы расьлі вышэй за рост чалавека, дзе міліёны птушак пялі свае звонкія песьні, дзе адкрываліся вялізарныя прасторы для дзейнасьці чалавека.

Гэты чалавек быў тут вольны, тут ня было пана ды прыналежнага да яго селяніна. Сьцепавое паветра рабіла тут вольным кажнага. Але вольны, шырокі сьцеп таіў у сабе, з другога боку, і тысячы небясьпечнасьцяў. Ён быў ня толькі прытульлем украінскага казака, у яго таксама на здабычу выяжджаў і сьцепавы татарскі ці нагайскі здабычнік. За кажным кустом тут магла чакаць небясьпека, з-за кажнага ўзгорку магла здагнаць варожая куля... І самыя акалічнасьці тутэйшага жыцьця змушалі людзёў арганізавацца ў сталыя аддзелы, што пачалі звацца аддзеламі казацкімі.

Гэтак зарадзілася казацтва на Ўкраіне. У другой палавіне 16 і першай палавіне 17 ст. усё балей і балей калёнізуецца ўкраінскі сьцеп, Як усюды ў тых часох, і тут зьяўляецца панская прыгонная гаспадарка. Але ладная частка жыхарства Ўкраіны захоўвае і ў гэтых часох сваю волю й апрычоную казацкую арганізацыю, як апрычоны стан украінскае люднасьці.

Гэты ўзброены і павайсковаму арганізаваны казацкі стан на Ўкраіне дзесяткі разоў бярэцца за зброю й пачынае паўстаньне супраць тагачаснага польскага гаспадарства. Канец 16 і першая палавіна 17 стагодзьдзя — гэта час, калі польская гісторыя праходзіла пад знакам гэткіх паўстаньняў украінскага казацтва. Паўлюк і Тарас Трасіла, Налівайка ды Лабада, Астранін, Гуня й дзесяткі іншых моцна патрэсьлі ўсё гаспадарстваўскае жыцьцё тагачаснае Польшчы. Ізноў і йзноў уздымаецца кліч паўстаньня, ізноў і йзноў сустракаецца казацкая шабля ізь мячом польскага жаўнера, ізноў і йзноў лізалі неба языкі гарачага палямя, у якім гарэлі замкі польскае шляхты на Ўкраіне.

За што-ж ішло гэтае змаганьне? Ці йшло яно за вызваленьне селяніна ад прыгоннае працы на пана, ці йшло яно за веру праваслаўную й супраць вуніі, як часта гаварылі самі казакі, ці вялося яно за нацыянальнае вызваленьне ўкраінскага народу ад Польшчы, як гэта ўважае бальшыня цяперашніх украінскіх гісторыкаў?

На першае пытаньне трэба адказаць адмоўна. Гэта праўда, што дзесяткі тысячаў украінскіх прыгонных сялянаў абярняся прылучаліся да казацкіх войскаў і бралі ўдзел у паўстаньнях. Але ніколі ня былі яны галоўнай часткай гэтых войскаў, якою заўсёды былі запраўдныя казакі. Да таго-ж аніводнае з казацкіх паўстаньняў ня ставіла на сваім сьцягу звальненьне сялянаў ад прыгону. Ягоныя мэты былі іншыя.

Пра змаганьне супраць вуніі гаварылася тым часам шмат. Але ці-ж можна ўважаць, што казацкія паўстаньні былі толькі родам рэлігійных войнаў, што вяліся ў тагачаснай Заходняй Эўропе? Цьвердзіць гэта было-б няправільным. Рэлігія — моцны дзейнік духовага жыцьця і асобных людзёў і цэлых народаў. Якраз у пары, пра якую мы цяпер гаворым. І казацкае ўкраінскае войска, актыўна выступаючы супраць вуніі, у якую перайшлі ў канцы 16 стг. мітрапаліт і епіскапы праваслаўнае ўкраінскае й крывіцкае царквы, а разам зь імі — і ці малая частка жыхарства Крывічччыны і Ўкраіны, ці раз усё-ткі выявіла нам, што змаганьне мае іншыя карані. Асноўны сэнс ягоны быў у тым, што вайна паміж украінскім казацтвам і гаспадарстваўскаю ўладаю Польшчы была вайною паміж двума народамі: украінскім і польскім. Гэта ясна відаць, паміж іншага, з таго, што калі казацкае паўстаньне 1648 г. скончылася перамогаю й для вуніі ня было ўжо на Ўкраіне месца, вайна трывала ня зь меншай сілай ды ўкраінскія казакі біліся за тое, «каб усіх Ляхаў прагнаць за Віслу», а польскія рэгулярныя войскі — за тое, каб збройнаю рукою зьвярнуць сабе страчаныя ўкраінскія землі.

Улічаючы гэты сэнс і характар вайны, мы аднак, тымжа самым часам, не павінны чакаць ад паўсталага казацтва тых лёзунгаў змаганьня за нацыянальнае вызваленьне, якія мы ведаем у нашым часе. У 17 стг. ідэя нацыянальнага гаспадарства не стаяла яшчэ выразна, эўрапейскія землі яшчэ нядаўна выйшлі з пэрыяду фэўдальнага, у якім пад уладаю фэўдальных гаспадароў абярняся задзіночаваліся землі розных народаў і якія ў іншых выпадках у лічных формах дзяліліся паміж рознымі фэўдаламі. Але змаганьне за гаспадарстваўскую незалежнасьць і самастойны ход культурнага развою ўжо пачалося.

Я ўжо ўспамінаў пра перамогу ўкраінскага казацтва над Палякамі ў 1648 г. Здавалася-б, зусім звычайнае спачатку паўстаньне на чале з гэтманам Багданом Хмяльніцкім неўспадзеўкі разьліваецца грознымі хвалямі па ўсёй Украіне. Польскія аддзелы пасьпешна адступаюць за межы ўкраінскае тэрыторыі. Жыхарства Ўкраіны масава прылучаецца да казацкага войска.

Усе наступныя гады йдзе вялізная свайімі памерамі вайна. Вялікія перамогі Хмяльніцкага над Палякамі пад Жоўтымі Водамі, Карсунём і пад Збаражом зьмяняюцца па поўную, здавалася-б, апаразу ягоных войскаў пад Берасьцечкам. Але ўздыму народнае вайны ўжо нямможна было спыніць. І вайна йдзе далей.

Пры гэтым важным было тое, што ў працэсе змаганьня ня толькі фармаваліся аддзелы войскаў. Ня меней важны быў той факт, што аднаўчасна фармаваўся і гаспадарстваўскі апарат. Старыя польскія ўстановы ліквідаваліся, на месцы іх сталі казацкія сотнікі й палкоўнікі, што былі ня толькі вайсковымі камандзерамі, але аднаўчасна тварылі й мясцовую ўладу. Найважнейшыя справы перада-

валіся на разьвязаньне шырокаму казацкаму сходу, што зьбіраўся старым запароскім звычаем — на казацкую раду. Але побач зь ім стаіць новы орган — так званая рада казацкае старшыны, зь якой пасьлей аформляецца род асаблівага ўкраінскага казацкага парлямэнту.

Арганізацыя гаспадарстваўскага апарату мела вялізнае значаньне, дык-жа яна й дазволіла Ўкраіне весьці далей сьцяг год цяжкую вайну з усім польскім гаспадарствам. Але гэты малады й новы гаспадарстваўскі апарат, з другога боку, яшчэ ня быў даволі моцны для такое вайны. Набранае вялікаю часткаю із сялянаў, што дагэтуль ня бралі ўдзелу ў ваенных апэрацыях і ня звыклі да стродкае ваеннае дысцыпліны, войска, невыстачальная цьвярдзіня й чыста казацкіх элемэнтаў, што доўга яшчэ насілі ў сабе рысы сьцепавое ўдалосьці, — гэтыя якасьці таксама ня былі даволі пэўныя для шматгадовага цяжкога змаганьня. І з гэтае прычыны Хмяльніцкі шукае сабе саюзьнікаў. Спачатку такім стаецца Крымскі хан. Але аддзелы Татароў самі ня былі як мае быць дысцыплінаваныя і не заўсёды вытрывалі бой з рэгулярнай польскай арміяй, дый цана гэтае памогі была надта ўжо дарагая. Татары забіралі сабе ў няволю жыхарства таго ці іншага павету на Ўкраіне. Вынікам гэтае памогі быў заняпад шмат якіх частак украінскае тэрыторыі.

Тады гэтман ідзе на задзіночаньне з Масквой. У 1654 г. ў Пераяславе робіцца ўмова пра задзіночаньне. Маскоўскі цар стаецца вярхоўным сувэрэнам Украіны, бярэ яе пад сваю «пратэкцыю», а гэтман робіцца быццам залежным ад яго васальным гаспадаром. У нутраныя справы ўкраінскага гаспадарства Масква ня мела права мяшацца.

Гэта быў крок фатальны. Праўда, у выніку яго Ўкраіна дастала далёка мацнейшага хаўрусьніка. Малакультурныя, далёка адарваныя й часткава навет варожыя эўрапейскай культуры масы маскоўскага жыхарства трымаліся затое зялезнай рукою ў паслухмянасьці сваёй уладзе. Суровая, стродкая, палачная дысцыпліна была ў маскоўскім войску.

Увесь стыль маскоўскага гістарычнага развою й абумоўлены ім характар маскоўскага народу рабілі немагчымым супольнае быцьцё дэспатычнага парадку ўсяго жыцьця ў Маскоўшчыне 17 стг. з вольным гістарычным развоем злучаных із Маскоўшчынаю народаў. Маскоўскі дэспатызм не цярпеў арганічна, дзеля прыроды свае, нічога, што захоўвала-б у якой-колечы меры сваю апрычонасьць ці сваю волю.

Вось дзеля чаго трэба ўважаць, што Б. Хмяльніцкі ў Пераяславе знайшоў сабе лішне ўжо моцнага хаўрусьніка. Такога хаўрусьніка, што ад першае-ж часіны пачаў мядзьведжай лапаю ламаць усё, што яму не падабалася, ці што яму было незразумела.

Сам Хмяльніцкі неўзабаве зразумеў гэта й рабіў спробы парваць сувязі з Масквою. Неўзабаве ён робе патаёмную ўмову з турэцкім султаном, адалей — адкрыта злучаецца ў вайсковы саюз із ворагам маскоўскага цара — каралём швэдзкім. Але Масква моцна трымае ўжо сваіх новых «падданых». У 1657 г. паміраe стары казацкі гэтман, пакідаючы гаспадарства ў надзвычайна цяжкіх абставінах. Па ягонай сьмерці яно доўга яшчэ вядзець змаганьне і супраць Польшчы і супраць Масквы, але для такога змаганьня на два фронты ў яго было надта мала сілаў. Трацячы спаквала сваю аўтаномію, Украіна далей трапляе, спачатку ў усё большую залежнасьць, адалей і ў поўную інкарпарацыю ў Расею.

Але нас цяперака цікавіць доля Крывіччыны, што ад 1654 году пачынаючы, стаецца арэнаю збройнага змаганьня паміж Масквою, Польшчаю й Украінаю, што ўцягваецца ў гэтае змаганьне, спрабуючы заняць у ім больш-менш самастойнае палажэньне.

Мы ужо адзначалі, што, ня так, як Украіна, Беларусь ня мела ў сябе казацкае арганізацыі. У гэтых абставінах яна стаяла ў ваднным сьцягу з краямі Заходняе Эўропы. Мы ўжо ведаем прычыну гэтага: вайсковая казацкая арганізацыя — гэта арыгінальны вынсаў асаблівых абставінаў на незаселеных, шырокіх сьцяпох. Заселеная здаўна сталым жыхарствам тэрыторыя Беларусі захоўвала свае сталыя формы жыцьця. Тут сёлы, мястэчкі й месты стаялі вякамі. Тут, у сталай працы ў родным куце, пражывала пакаленьне за пакаленьнем. Стыль жыцьця дзеля гэтага быў тут чыста накшы за шырокае, з размахам, але тым-жа часам і за поўнае несупакою жыцьцё прывольнае Ўкраіны.

Лес і сьцеп! Калісьці ў навуцы расейскае гісторыі ведамы расейскі гісторык Салаўёў гаварыў пра змаганьне лесу із сьцепам, як пра асноўную лінію палітычнага змаганьня ў развоі расейскага народу. Пасьлейшая расейская навука пасьпяшалася здаць гэтую тэорыю ў архіў. На маю думку, тэорыя Салаўёва лішне рана была зьнятая й незаслужана вылучаная з праблемаў палітычнае думкі. Бо із супярэчнасьцяй лесу й сьцепу, — а калі пашырыць гэтую формулу — дык із супярэчнасьцяй спрадвеку аселеных чалавекам, абжытых ім краёў із гэрыторыямі вольных сьцяпоў мы ў гісторыі Ўсходняе Эўропы спатыкаемся, дзе ні ступні. Спаткаліся, як мы бачым, з гэтым і цяпер, калі гаворым пра прычыну таго, што да сярэдзіны 17 стг. Крывіччына, рэзка накш як Украіна, ня мела ў сябе казацкага вольнага жыхарства й вольнае казацкае арганізацыі.

Пэўна, трэба яшчэ зацеміць той факт, што, ня так, як Украіна, Крывіччына ня была прылучаная да Польшчы і, значыцца, ня была пастаўленая пад беспасярэдні ўплыў ці націск Палякоў. Крывіччына й пасьля Люблінскае вуніі засталася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Вялікае Княства Літоўскае ня было крывіцкаму народу чымся чужым, якой-небудзь уладаю вонкавых заваёўнікаў. Небясьпека крывіцкай нацыянальнай справе была адно ў тым, што літоўскія паны трацілі свой літоўскі (ці крывіцкі) характар. Люблінская вунія 1569 г., праўда, як цяпер даведзена працамі нябожчыка праф. Лапы, ня здолела задзіночыць Польшчу й Вялікае Княства Літоўскае ў вадно гаспадарства. Вялікае Княства Літоўскае захавала свой генэральны зьезд, як род тагачаснага парлямэнту, што задзіночваў ягоныя землі ў вапрычоную гаспадарстваўскую адзінку.

Але тым-жа часам ня было-б правільным ня лічыцца із тым, што Люблінская вунія ўтварыла таксама супольны зьезд для Польшчы й Літвы-Беларусі. Гэта ўсё-ж было ці малой перамогай Палякоў.

Адалей, выкарыстоўваючы гэтыя свае пазыцыі, чым далей, тым балей і барджэй Польшча пачынае йсьці крок па кроку да сваго ўмацаваньня ў Ліцьве-Беларусі. «Княжаты й паняты», — гэтак звалі клясу літоўска-крывіцкіх магнатаў, — усё больш пераходзяць у каталіцтва, адначасна з гэтым яны ўсё больш і больш паддаюцца польскім культурным уплывам. За імі цягнуцца ўсё большыя й большыя групы старое крывіцкае шляхты. Уплыў польскі ўсё расьце.

У сярэдзіне 17 стг., калі на суседняй Украіне бушавалі крывавыя польска-ўкраінскія войны, гэты працэс культурнага заваяваньня Крывіччыны Польшчай ужо меў моцныя ўдачы. Тым-жа часам ён быў далёка яшчэ ня скончаны. Я не кажу ўжо пра крывіцкае сяло, што й далейшымі вякамі было цьвердзяй крывіцкае мовы ды народнае культуры, што сьвята захавала сваю крывіцкую мову — гэты найвялікшы нацыянальны скарб і на працягу даўгіх далейшых стагодзьдзяў, што данясло гэты скарб да цяперашняга часу і што й цяпер яшчэ яго захоўвае. Але ў местах нацыянальны крывіцкі элемэнт быў яшчэ даволі моцны, хоць і страціў ужо частку сваіх пазыцыяў. Але — і гэта асабліва важна тым часам — і ці малая частка крывіцкае шляхты яшчэ цьвёрда стаяла на крывіцкіх пазыцыях.

Тое, што крывіцкі народ ня быў нацыянальна зломлены, што ён знаходзіў у сабе сілы й жаданьне змагацца за свае нацыянальныя справы, і абумовіла далейшыя падзеі ў часе ўкраінска-польскае, адалей і маскоўска-польскае вайны.

Крывіччына ўступала ў гэтую вайну, як складавая частка арганізму Вялікага Княства Літоўскага, што было задзіночанае па аснове роду рэальнае вуніі з Польшчай. Як такое, Вялікае Княства Літоўскае актыўна памагае Польшчы супраць Б. Хмяльніцкага, і ягоныя войскі бяруць на сябе важныя заданьні ў гэтай вайне, адцягваючы на сябе ладную колькасьць украінскіх казацкіх сілаў.

Вялікая бальшыня крывіцкага жыхарства ня спрыяла

такому становішчу свайго гаспадарства. Ужо пад канец 1653 году генэральны пісар (значыцца, гаспадарстваўскі канцлер) Украіны Іван Выгоўскі, што сам паходзіў зь недалёкае ад Крывіччыны Вальні, а жонку меў Крывічанку із шляхоцкага роду Стацкевічаў, гаварыў маскоўскаму паслу, які прыбыў на Украіну, што з Крывіччыны пісалі да яго «сваякі ды прыяцелі» пра тое, што й Беларусы імкнуцца змагацца з Польшчай. Хтосьці з такіх Крывічоў, якія рыхтаваліся гэтым часам да акцыі супраць Польшчы, горда сказаў словы, знойдзеныя Салаўёвам у якміась дакумэнце маскоўскага архіву, што — «мы зробім у сябе дзесяць такіх Хмяльніцкіх, а войска, як толькі выступім, будзем мець ня меней, як 100 тысячаў чалавекаў».

Падзеі ня змусілі на сябе чакаць. Былі гарачыя дні чырвеня 1654 году, калі казацкае ўкраінскае войска кранулася ў паход на Крывіччыну. На чале яго стаяў ведамы супрацаўнік Б. Хмяльніцкага, нежынскі палкоўнік Іван Залатарэнка, што на гэты час атрымаў рангу ці тытул «наказнага гэтмана» (значыцца, часовага, на час паходу, гэтмана). Аднача сна выступілі супраць Рэчыпаспалітае й войскі Масквы.

Калі апошнія, пасьля першых удачаў, надоўга завязьлі ў ваблозе моцнае Смаленскае цьвярдыні, дык Залатарэнка мае ўдачы шмат барджджэйшыя. Ужо ў бордзым часе ім узяты Гомель, а ў жніўні паддаецца й Магілеў.

Тут, недзе пад Магілевам, сталася невялічкае на першы пагляд здарэньне, што запісана ў тагачасных дакумэнтах і што мела, як выявілася, ці малое значаньне: да казацкага войска Ів. Залатарэнкі перайшла група Крывічоў! На чале яе быў шляхціц Кастантын Паклонскі, зь ім было яшчэ 3 шляхціцаў, 4 мяшчанаў ды 8 слугаў. Штосьці такое сказаў Паклонскі наказному гэтману, што той ськіваваў яго зь ягонымі людзьмі ў Маскву. А неўзабаве ўжо высьнілася, навошта паехаў Паклонскі. Ужо ў канцы жніўня ён варочаецца з Масквы ў Крывіччыну, маючы рангу казацкага палкоўніка, ды набіраючы ў свой полк людзёў зь мясцовага крывіцкага жыхарства. Мы ня ведаем тымчасам зьместу ўмовы Паклонскага з маскоўскім урадам, але сам ён адразу паказаў, дзеля чаго пачынае сваю справу, калі ўжо 7 верасьня 1654 г. абвяшчае сябе палкоўнікам «беларускім». Тым самым выяўляецца заданьне, якое ён сабе паставіў: утварыць вайсковую, у папулярнай тым часам казацкай форме, крывіцкую арганізацыю на абарону інтарэсаў мясцовага крывіцкага жыхарства й здабыць із памогай гэтае арганізацыі крывіцкіх казакоў апрычоныя гаспадарстваўска-праўныя пазыцыі пакіненай войскам Вялікага Княства Літоўскага тэрыторыі ўсходняе Крывіччыны.

Мы ня ведаем дакладна, хто быў Паклонскі. Ведама толькі пра яго, што ён быў праваслаўны шляхціц із Магілеўшчыны.

Паклонскі выбраў за свой асяродак Магілеў. А казакі ягонага Магілеўскага аддзелу стаялі ў бальшыні ў Лупалаве. Хто бываў у Магілеве, мусіць помніць Лупалава, што даўгой лініяй драўляных будынкаў, у якіх цяпер месьцяцца работніцкае жыхарства магілеўскіх хвабрыкаў, цягнецца па правым беразе Дняпра. З магілеўскімі мяшчанамі казакі Паклонкага адразу-ж сталі ня ў зусім прыхільныя дачыненьні. Места не разумела мэты новае арганізацыі і адразу-ж стала ў канфлікт із тымі мяшчанамі, што, падаўшыся ў казакі, засталіся жыць у месьце, але выйшлі спад кіраўніцтва й прысуду мескае ўлады.

Куды непрыямнейшай была аднак Паклонскаму іншая акалічнасьць: тое, што блізу ўся Магілеўшчына была занятая войскамі ўкраінскага казацтва Ів. Залатарэнкі. Гэты-ж із свайго боку ўважаў крывіцкі край за падуладны сабе (а, значыцца, праз яго — ўкраінскаму гаспадарству) і абыходзіўся адпаведна да гэтага пагляду. Калі край мае ўвыйсьці складовай часткай у казацкую Ўкраіну — дык ён мае стацца такім-жа казацкім краем, як і апошняя. Ів. Залатарэнка пачынае арганізаваць казацкія крывіцкія аддзелы й мясцовыя вайскова-адміністрацыйныя адзінкі (сотні) на занятай ягоным войскам тэрыторыі.

Паколькі Паклонскі прадстаўляў сабе справу накш і ў казацкай Крывіччыне хацеў бачыць такую-ж, часткава залежную ад Масквы, але тым-жа часам і арганізаваную ў свой гаспадарстваўскі арганізм адзінку, якой была і Ўкраіна, раўнапраўную апошняй, не магло не дайсьці да канфлікту. Але для збройнай сутычкі сілы былі лішне няроўныя: з аднаго боку было казацкае войска Ўкраіны, у складзе якога былі найперш старыя ваякі, загартаваныя у шматгадовай вайне з польскім войскам. З другога боку быў невялікі, што толькі пачаў сваю арганізацыю, крывіцкі казацкі полк Паклонскага, што складаўся часткава із шляхты (і гэтая магла быць найбаяздальнейшай ягонай часткай, бо здаўна служыла ў войску Вялікага Княства Літоўскага), але яшчэ ў большай частцы — із сялянаў ды мяшчанаў Магілеўшчыны, што ня мелі вайсковага падрыхтаваньня і не маглі за колькі дзён стацца аддзелам із належным вайсковым парадкам, дысцыплінай і арганізацыяй. І дзеля таго Паклонскаму не заставалася нічога іншага, як толькі жаліцца маскоўскаму ўраду. Ён спрабуе адклікацца да матываў мэтазгоднасьці, паказваючы, што толькі ён можа зарганізаваць тут уладу й войска, бо тут, — кажа ён, — «украінскія людзі нічога зрабіць ня здолеюць, ня знаўшы нашых лясоў і дарогаў».

Адказ Масквы быў аднак няпрыхільны Паклонскаму й ягонаму крывіцкаму палку. Цар пастанавіў, што Паклонскі мае дзеіць толькі ў межах Магілеўскага павету; усе-ж іншыя адыходзяць пад кампэтэнцыю наказнога ўкраінскага гэтмана Ів. Залатарэнкі. Праўда, Паклонскі запраўды ня трымаўся гэтых межаў. Спасярод ягонага палку мы сустракаем сотнікаў і сотні Чэрыкаўскую, Прапойскую, Мазырскую, што сьветча пра даволі шырокую тэрыторыю, занятую ягоным казацтвам.

Але будучыня борзда паказала, што хоць можа тэарэтычна й Паклонскага была праўда, але, бяручы на ўвагу свае і ўкраінскія сілы, яму ня трэба было даводзіць справу да канфлікту з украінскімі казакамі. І пагатоў няправільна было зварочвацца із жальбамі ў Маскву. Бо-ж далёка небясьпячнейшы быў сам маскоўскі партнэр. Наступныя падзеі дужа ясна выказалі, што модус вівэнды (спосаб сужыцьця) з украінскім казацтвам знайсьці было можна, а Масква не разумела і магчымасьці якое-колечы волі для новых царскіх падданых.

Ужо ў верасьні 1654 г. у Магілеў прызначаецца царскі вайвода і ўводзіцца аддзел маскоўскіх стральцоў. Крывіцкіх казакоў выціскаюць на другі бок Дняпра, і сам Паклонскі пазбаўлены свае рэзыдэнцыі. У якое палажэньне хоча паставіць яго Масква, ён пабачыў у тым-жа верасьні 1654 г., калі яму давялося ўжо весьці змаганьне супраць загаду Масквы падпісвацца ў сваіх лістох да маскоўскага ўраду «царскім холопом».

Пры такіх дачыненьнях Паклонскі борзда зьняверыўся ў магчымасьць зарганізаваць за прыкладам Украіны казацкае крывіцкае гаспадарства. Праўда, ён далей набірае казакоў, і ў сьнежні 1654 г. ягоны полк налічае ўжо 4 тысячы чалавекаў, на той час — гэта не малая колькасьць. Але дачыненьні з Масквой усё горшаюць, і ў лютым 1655 г. сталася неспадзяваная для Масквы справа: з ладнай часткай свайго крывіцкага палку Паклонскі перайшоў на бок войска Вялікага Княства Літоўскага.

Да нас дайшлі некаторыя лісты Паклонскага, у якіх ён дае зразумець прычыны свайго кроку. У сакавіку 1655 г. ён піша да наказнага гэтмана Ів. Залатарэнкі, што «разумеў я, што вайна мела йсьці за вызваленьне ўціськенай Беларусі. Заміж таго мелі мы такое рабаўніцтва дамоў Божых, якога ня бачылі і ад Татароў. У далёка большай вольнасьці былі мы раней пад Ляхамі». У другім лісьце піша ён, што Масква дакляравала ў сваіх лістох Беларусі «залатыя словы вольнасьці». «Ды заміж таго дасталі мы на ногі свае вольнасьці зялезныя» (значыцца зялезьзі-кайданы).

Калі спрабаваць удумацца ў псыхалёгію людзёў таго часу, дык бясспрэчна зразумелым робіцца такое дачыненьне крывіцкага шляхціца, замілаванага ў сваёй волі, да зялезнае й цяжкое, усё працінаючае дысцыпліны Расеі.

Кастантын Паклонскі яшчэ якісь год успамінаецца ў войску Вялікага Княства Літоўскага, як галаўнік сотні, адалей зусім зьнікае зь гістарычнае арэны. Гэтак на кароткі толькі час выступіў на полі гісторыі крывіцкага народу гэты чалавек, каб падобна да зьнічкі, борзда скаціцца далоў зь ейнага кругавіду. Бясспрэчна, што ён меў свае асабістыя мэты, і дзеля гэтага змагаўся за ўладу;

бясспрэчна й тое, што ў вабставінах і у вафармаваньні таго часу ён быў запраўдным беларускім патрыётам.

Можна было-б сказаць пра дзейнасьць Паклонскага й ягонага «беларускага палку» крыху балей. Але асабліва паважнага сказаць нельга, бо такі на гэты час стан гістарычных крыніцаў. Пра здарэньні, зьвязаныя з рухам Паклонскага, надрукавана прыраўнальна мала дакумэнтаў. Пра яго мы ведаем надта мала.

Але, калі пра рух Паклонскага мы ўсё-ткі штосьь ведаем, дык пра далейшыя гады (маю наўвеце 1655—1659 г.г.) мы маем апублікаваных адно колькі дзесяткоў дакумэнтаў. Пра гэты час, можна сказаць, маем мы тымчасам адно абрыўкі веданьняў.

А гэтым часам рух крывіцкага жыхарства ня спыніўся. У вабставінах вайны Масквы ды Ўкраіны з Польшчаю, што трывала із зьменнай удачаю і ў ладнай меры вялася на крывіцкай тэрыторыі, крывіцкі народ і далей імкнуўся адстаяць свае правы й стварыць сваю апрычоную арганізацыю.

Трэба сказаць, што пераход Паклонскага да войска Вялікага Княства ня быў поўны. Частка казакоў зь ім не пайшла. Ведама, што на чале іх стаяў якісь палкоўнік Паўла. Палажэньне іхнае было спачатку ня зусім яснае, але ў траўні 1655 г. цар загадаў ім прылучыцца да ўкраінскіх войскаў. Ад гэтага мамэнту пачынаецца новая цікавая балона ў гісторыі беларускага казацтва, што зусім ня спыняе, — як гэта можна было спадзявацца, свае асобнае арганізацыі. З ваколіцаў Магілева, дзе надта моцна заселі маскоўскія стральцы, беларускае казацтва цэнтрам сваім робіць Чавусы. Тут ужо ў ліпені 1655 г. мы бачым наказнага (гэта значыць часовага) палкоўніка Мацьвея Старынскага, ад 1656 г. тут ужо палкоўнікам быў Іван Нячай.

Івана Нечая трэба ўважаць за выдатнага дзеяча. Паходзіў ён із падольскае шляхты на Украіне. Ягоны брат Даніла Нячай, браслаўскі палкоўнік, забіты ў вайне з Палякамі, быў адным із найвыдатнейшых супрацаўнікоў Б. Хмяльніцкага і надзвычайна папулярнай на Украіне асобай. Пра гэта сьветча хоць-бы вялікі лік народных песьняў, прысьвечаных Данілу Нечаю. Вось брата гэтага папулярнага казацкага палкоўніка Івана й прыслаў гэтман у Беларусь.

Нат із тых, зусім нялічных, літаральна колькіх дакумэнтаў, што апублікаваныя ў актавых друкаваных зборах, можна зрабіць выснаў пра тое, што дзейнасьць Івана Нечая ў Чавусах была вельмі энэргічнай. Пра гэта сьветчаць жальбы маскоўскае ўлады гэтману Б. Хмяльніцкаму (а пасьлей Івану Выгоўскаму) на дзейнасьць беларускага казацтва, што займае ўсе большыя й большыя прасторы Крывіччыны. Масква ставіла пытаньне рэзка: «казакам на Белой Руси не быть».

Не зважаючы на выразнасьць гэтае пазыцыі Маскоўшчыны й на тое, што падтрымвала яе сіла маскоўскага войска, Іван Нячай не згадзіўся на выхад із Беларусі. Наадварот, ён усё балей і балей пашыраў коштам маскоўскае акупацыі раён свайго дзеяньня і ўмацняў свой уплыў. У вадным із апублікаваных дакумэнтаў ёсьць зацемка аб тым, што казацтва было ў Нечая зарганізаванае ў 16-ёх тэрытарыяльных адзінках-сотнях: Чавусаўскай, 3-х Магілеўскіх, Горскай, Забалоцкай, Бярдыніцкай, Акулінскай, Горадзенскай, Святазерскай, Уляна́ўскай, Рагазінскай, Белявецкай, Чэркаўскай, Чычэрскай, Смалянскай. Гэта — шырокая тэрыторыя ўсходняе Беларусі.

Якое-ж тут было казацтва? Крывіцкае сваім паходжаньнем. Пра гэта зусім выразна кажуць жальбы Масквы, якая, забываючыся цяпер пра тое, што яна ўперад сама давала дазвол Паклонскаму фармаваць крывіцкіх казакоў, цяпер увесь час цьвердзіць, што казакамі могуць быць толькі старыя казакі з Украінцаў, а «белорусам» — новым царскім «холопам» у казаках быць нельга. Сярод Нечаёвых казакоў была бальшыня із сялянаў, цімала аднак было й шляхты, што займала камандныя постані.

Полк пастарому завецца «белорускім». Гэтым падчыркваецца ягоны нацыянальны характар. Хоць і стаіць на чале яго Украінец Нячай, але арганізацыя крывіцкага казацтва ня траціць ад гэтага свайго нацыянальнага зьместу. Дзеля гэтага трэба сказаць, што адно нацыянальнае паходжаньне якога-колечы дзеяча яшчэ ня можа быць прычынаю залічаць яго ў сьцяг дзеячоў тае нацыянальнасьці, зь якое ён нарадзіўся. Далёка больш важыць, для якое нацыянальнасьці ён працаваў. Паводля гэтага, скажам дзеля прыкладу, Піліп Орлік, гэтман Украіны, уступіўшы на гэтманства на эміграцыі пасьля Мазэпы й выявіўшы сябе на працягу даўгіх год, як гарачы ўкраінскі патрыёта, ня станецца крывіцкім дзеячом, дармо, што выехаў у маладосьці на Ўкраіну з крывіцкае Віленшчыны (Ашмянскага павету). А дзейнасьць Івана Нечая праходзіла ў Беларусі і была ськіраваная ў ейных інтарэсах. І дзеля гэтага яго трэба залічаць да сьцягу дзеячоў таксама беларускае гісторыі.

Запраўды шмат разоў Б. Хмяльніцкі адмаўляў царскім пасланцом у іхных дамаганьнях забараніць Нечаеву дзейнасьць ў Крывіччыне тым, што ён проста ня можа гэтага зрабіць, бо ані Нячай, ані ягоныя казакі не стаяць пад ягоным беспасярэднім кіраўніцтвам. У гэтым даецца нам ключ да зразуменьня палажэньня «беларускага палка»: гэта была аўтаномная адзінка, што, адпаведна да блізкіх яшчэ часам фэўдальных парадкаў, стаяла «пад пратэкцыяй» ці — ляпей — у васальнай залежнасьці ад украінскага гэтмана, таксама, як сам ён быў у васальнай залежнасьці ад маскоўскага цара (падобна і ў заходняй Эўропе васалы мелі сваіх падвасалаў). Такія васальныя адзінкі трэба зь юрыдычнага боку ўважаць за род гаспадарстваўскае арганізацыі. Прабываючы «пад пратэкцыяй» Хмяльніцкага, Іван Нячай быў зусім самастойны ў занятай ягоным крывіцкім казацтвам частцы ўсходняе Крывічыны.

У 1657 годзе памёр вялікі ўкраінскі гэтман Б. Хмяльніцкі. Ягоным наступнікам быў блізкі супрацаўнік ягоны Іван Выгоўскі. Як мы ўжо вышэй гаварылі, ён меў жонку Крывічанку й быў моцна зьвязаны з Крывіччынай. У сувязі з гэтым у сваёй палітычнай дзейнасьці ён асабліва хоча абаперціся й на крывіцкую арганізацыю.

Як ведама, Выгоўскі пастанавіў зрабіць станаўкі разрыў із Масквою й зьвярнуцца да Рэчыпаспалітае, куды Ўкраіна мела ўвыйсьці, як трэйцяе задзіночанае ў вунію з Польшчай і Літвой-Беларусяй гаспадарства.

У вайне Ўкраіны з Маскоўшчынай пры Выгоўскім (1659 г.) крывіцкае казацтва Ів. Нечая ўзяло ўдзел. Спачатку гэтая вайна прынесла вялікія ўдачы. Асабліва зыркім было поўнае зьнішчэньне войскам Выгоўскага галоўнага маскоўскага войска ў біцьве пад Канатопам. Але далей Маскве ўдалося, выкарыстоўваючы сваю агентуру, арганізаваць разлад сярод украінскага казацтва. Справа Выгоўскага была загубленая. З новым гэтманом Юр'ем Хмяльніцкім Масква зрабіла новую ўмову, у якой забясьпечыла сваё старое дамаганьне, каб казаком «в Белой Руси не быть». Ведама, што Іван Нячай і ягоныя супрацаўнікі былі разьбітыя маскоўскім войскам, лучылі ў маскоўскія рукі й былі засланыя ў Сібір. Крывіцкая казацкая арганізацыя была тым самым зьнішчаная і неўзабаве Крывіччына зьвярнулася ў Вялікае Княства Літоўскае, каб ізноў заняць у ім сваё месца і каб ізноў ісьці там тымі-ж дарогамі, як і да казацкага руху. Але пры гэтым ня можна наагул цьвердзіць, што казацтва ў Беларусі ўжо зусім спыніла сваё быцьцё. Рэч у тым, што некаторая частка крывіцкіх земляў засталася пры Ўкраіне. Гэта перш-на-перш датычыць да паўночнае Чарнігаўшчыны й Старадубшчыны. Тут крывіцкае казацтва засталося на даўгія гады, і яно адыйграла цімалую ролю ў гісторыі г. зв. гэтманскае Ўкраіны. Але гэта ўжо зусім апрычоная тэма.

Я ці аднойчы ў сваім артыкуле падчыркаваў нялічнасьць друкаваных матар'ялаў пра гэты час. Гэтым самым я хацеў падчыркнуць, што такія матар'ялы наагул ёсьць. Ёсьць чалавек, што іх бачыў і іх пераглядаў. Гэтым чалавекам быў я. Калісьці мне даводзілася працаваць над астачамі расейскіх архіваў Міністэрства Юстыцыі й Замежных Справаў. Штодня мне прыносілі колькі гэтак званых «столбцов». Урадавыя паперы ў 17 стг. у Маскве часта не падшываліся ў кнігі ці сшыткі, але, пісаныя даўгімі, вузкімі балонкамі, потым скручваліся й хаваліся ў выглядзе перавязаных папяровых сувойчыкаў. У выцьвілых літарах старога пісьма я заўсёды жадаў пабачыць, знайсьці які-колечы зьмест, што датычаў-бы й

да жыцьця старое Беларусі. Спачатку гэта не ўдавалася. Знаходзячы шмат для свае асноўнае працы, я блізу што нічога новага не знаходзіў пра дачыненьні ў Крывіччыне. Але аднаго добрага дня ўсё гэта зьмянілася.

На цэлую жылу старых дакумэнтаў натрапіў я ў вышменаваным архіве. Выпісаўшы, на ўсякі выпадак, колькі сувойчыкаў із фонду, што зь гісторыяй Беларусі быццам нічога супольнага не меў, я неўспадзеўкі пабачыў вельмі цікаўныя дакумэнты пра Крывіччыну 1655-59 г. г., пра крывіцкае казацтва. Выпісваючы іх далей усё больш і больш, я борзда меў ужо вялікі збор іх.

І перад мною гісторыя Крывіччыны рашчыніла адну із сваіх, мусіць, найцікаўнейшых балонак. Перада мною, як у калейдаскопе, ці як на экране кіно пачалі выяўляцца абразы мінулага жыцьця Крывіччыны, дагэтуль ад усіх схаваныя, дагэтуль нікому няведамыя. Раскрыўся абраз бурлівага, усхваляванага, поўнага драматычных здарэньняў і колернага жыцьця Беларусі ў часе беларускага казацтва.

Архіўныя справы захавалі дакумэнты вайводаў ды розныхураднікаў маскоўскіх, у якіх яны здавалі лічбы пра выконваньне сваіх заданьняў у Крывіччыне ці пісалі пра свае патрэбы, ці прасілі памогі й г. д.

З гэтых дакумэнтаў можна было пабачыць найперш вельмі цікаўную дзейнасьць беларускага палкоўніка Ів. Нечая. Дакумэнты дапаўняюць ведамыя ўжо факты лічнымі дадзенымі пра ягоную ваенную дзейнасьць і пра ягоную працу, як адміністратара. Трэба сказаць, што ўплыў яго быў вялікі, і робіцца зразумелым, чаму маскоўскай уладзе не ўдавалася на працягу колькіх год нічога зрабіць сўпраць крывіцкай казацкай Чавусаўскай арганізацыі.

Дакумэнты гэныя раскрываюць аднак далёка шырэйшы абраз дзейнасьці казацкіх аддзелаў. Шмат дадзеных пра дзейнасьць гэткіх казацкіх адзелаў ёсьць пра тэрыторыю Віленшчыны (там казацтва асабліва дзеяла ў павеце Ашмянскім) і Меншчыны. Меншчына гэтымі гадамі ўся занятая казацкімі аддзеламі крывіцкіх казацкіх галаўнікоў — Тахвіля Бабровіча, Міндзьвілы Мурашкі. Крычма крычаць рэляцыі маскоўскіх стральцоў пра тое, што «казаки белорускіе, государь, нас, ратных людей твоих, побивают». Але ёсьць шмат, матар'ялаў пра казакоў у Рослаўшчыне, Амсьціслаўшчыне, Смаленшчыне, Віцебшчыне. У густых барох Смаленшчыны й Віцебшчыны сядзела шмат аддзелаў крывіцкага казацтва. Маскоўскія людзі іх звалі «шишами» (шиш — у тагачаснай расейскай мове значыла лесавы разбойнік). Але гэта, ведама, былі не разбойнікі, а род, калі хочаце, партызанаў, што ўзьняліся супраць маскоўскіх войскаў.

Дакумэнты даюць і трагічны абраз ліквідацыі крывіцкага казацтва ды ў рэляцыях маскоўскіх вайводаў рысуюць даўгую аблогу тагачаснай цьвярдыні Старога Быхава, у якім зачыніўся із сваймі аддзеламі Іван Нячай і які, пасьля даўгой аблогі, быў узяты штурмам маскоўскім войскам.

Перад маймі вачыма прабеглі ўсе гэтыя абразы, каб ізноў зьнікнуць. У часе гэтае вайны налётам нямецкіх аэрапляна быў зьнішчаны дом, у якім жыў я. Пры гэтым загінула ўся мая бібліятэка, усе навуковыя запісы, канспэкты, рукапісы. Загінула ўпорыстая праца лічных год. Загінулі й знойдзеныя мной ды старэнна перапісаныя матар'ялы зь гісторыі беларускага казацтва.

Ніхто з нас ня ведае, што жджэ кажнага з нас і што чакае Беларусь. Але калі-небудзь хто-колечы з навучоных другім наваратам знойдзе гэныя матар'ялы. І тады перад крывіцкім грамадзтвам рашчыняцца цікаўныя балоны з жыцьця й змаганьня дзядоў і прадзедаў. Не абміне, думаецца мне, гэных часоў і крывіцкая літаратура ды пад пяром каго-небудзь із будучых пісьменьнікаў ажывуць старыя Чавусы, напоўняцца іхныя вуліцы гоманам казацкіх галасоў, цяжкой хадой «людзёў із шабляй», што паўсталі за свой край. Ажывуць пад іхным пяром і цікаўныя постаці гістарычных дзеячоў Кастантына Паклонскага, Івана Нечая й іншых казацкіх галаўнікоў. У крывіцкую культуру будуць тым самым упісаныя новыя дадатныя балонкі, і цікаўнасьць і пашана нашчадкаў да старое мінуласьці свае Бацькаўшчыны падштурхне іх на гарачую працу для ейных будучых сьветлых часоў.

---

СЫМОН БРАГА

# УПЛЫВЫ НАШАЕ МОВЫ НА ПОЛЬСКУЮ*)

Як паказалі досьледы польскіх навучоных навейшых гадоў, беларуская мова ўжо здаўна мела выдатны ўплыў на літаратурную мову польскую й паклала свай трывалы сьлед на ейны сённяшні выгляд.

Ужо ў 1847 г. польскі пісьменьнік і навучоны Крашэўскі пісаў аб тым, што ў гісторыі польскае мовы важны час — гэта пара злучэньня з Польшчаю Вялікага Княства за Ягайлам, бо з гэтым мамэнтам блізу цалком зацініўся беспасярэдні уплыў на мову польскага народу Немцаў і Чэхаў, а пачынаецца ўплыў беларускі. На ўсходзе адчыняюцца тады для Польшчы шырокія палітычныя й дыплёматычныя сувязі, двор гавора пабеларуску, мова гэтая стаецца пасярэднікам паміж Літвою (Беларусяй) і Польшчаю.

На думку Крашэўскага, бліжэйшыя дачыненьні зь беларускімі землямі ўтрымалі польскую мову ў формах больш славянскіх, часта мяшаючы яе з «братняю» гутаркай «менш заходняй культурай здэнатуралізаванае» Беларусі. Прычыняецца да гэтага й частая бытнасьць у Беларусі польскіх паноў і польскага каралеўскага двара. [1])

Выказаная роўна сто год таму, яшчэ толькі як агульная гіпотэза, думка Крашэўскага аб уплыве нашае мовы на польскую пасьля была пацьверджаная й фактамі. Пасьлейшыя навуковыя досьледы, хаця яшчэ далёка няпоўныя й незакончаныя ды ведзеныя дагэтуль толькі польскімі навучонымі, паказалі ўжо дакладней, у чым гэты уплыў беларускае мовы на польскую выявіўся.

Першы ў сваіх навуковых працах закрануў гэтае пытаньне яшчэ перад першаю сусьветнаю вайною праф. Нітч, польскі філёлёг, ведамы пасьля аўтар рэформы польскага правапісу. Сьледам за ім узялі на гэта сваю ўвагу й іншыя польскія філёлёгі. Неўзабаве каля пастаўленых — як тады здавалася, вельмі сьмелых — тэзаў прафэсара Нітча аб месцы нарадзінаў польскае літаратурнае мовы й дзейніках, якія складаліся на справу сфармаваньня ейнага сучаснага характару, разгарэлася вялікая філёлёгічная спрэчка.

Галоўным супраціўнікам паглядаў Нітча стаўся прафэсар А. Брыкнэр, які адкідаў, між іншага, і ўплыў старабеларускае мовы на польскую. Гэтая філёлёгічная спрэчка цягнулася гадоў із дваццаць. За гэты час прафэсар Нітч і ягоныя прыхільнікі намнажалі ўсё больш і больш пераканальных аргумэнтаў на довад правільнасьці паставаленае раней гіпотэзы.

У выніку гэтага. у сваіх апошніх працах і Брыкнэр быў ужо блізкі да таго, каб прыняць пагляды прафэсара Нітча за даведзеныя. Гэтак спрэчка нарэшце ўжо перад апошняю вайною была закончаная, і сярод польскіх навучоных-філёлёгаў вытварыўся ў гэтай справе адналіты пагляд.

Вельмі для нас цікавыя вынікі досьледаў прафэсара Нітча і ягонае філёлёгічнае школы ў васноўным такія: [2])

Бальшыня польскіх племяў у народнай гаворцы ня знае гукаў **ч, ш, ж.** Яны, так, як Мазуры, кажуць **цапка, сыя,**

---

*) Гэта урывак з большае, падрыхтаванае аўтарам да друку працы пра беларускую культурную экспаньсію — «На Захад і Ўсход». (Рэд.).

[1]) J. I. Kraszewski: „Nowe Studja literackie". 1847.

[2]) Падаецца галоўна паводля рэфэрату аб гэтай справе польскага філёлёга Лер-Сплавінскага, друкаванага ў зборніку ягоных працаў, што выйшаў перад апошняю вайною ў Львове.

**заба**, гэта значыць — **мазураць**. Гэтак гавора ў Польшчы ня толькі ўсё «Мазовшэ», Мазуры, але й блізу ўся Малая Польшча й частка Палякоў, што жыве на Сьлёнску. Толькі г. зв. «Велькопольска», паўдзённая частка Сьлёнску й Палякі Памор'я (фактычна навет не Палякі, а Кашубы, адно із засталых племяў калішніх палабскіх славянаў) разразняюць гукі **ч, ш, ж**, ад **ц, с, з**.

І вось, дармо, што ў бальшыні польскіх народных гаворак выступае мазурэньне — у польскай літаратурнай мове існуе поўнае разразьняньне гукаў **ч, ш, ж** і **ц, с, з**.

Яшчэ дзіўней, што ў пары паўставаньня польскае літаратурнае мовы культурны й гаспадарчаўскі цэнтар тагачаснае Польшчы — Кракаў — ляжаў акурат на землях, дзе скрозь мазураць. А ведамы зь гісторыі шмат якіх народаў факт, што гаворка пануючага палітычна прастору, асабліва ягонага цэнтру, бывае звычайна й асноваю літаратурнае мовы дадзенага народу, якая паўстае ў гэным мамэнце.

У Палякоў, дзеля незразумелых раней прычынаў, сталася неяк зусім наадварот: у мазурачым традыцыйна Кракаве ў XV—XVI стагодзьдзях паўстае й разьвіваецца тады-ж немазурачая літаратурная мова асьвечаных і палітычна кіраўнічых пластоў грамадзянства.

Згодна з прафэсарам Нітчам, гэта паўстала акурат у вялікай меры дзякуючы моцнаму ў сваім часе ўплыву на польскую мову нашае старое мовы. Дзеілі адначасна ў гэтым кірунку і некаторыя іншыя фактары (мова чэская, мова нямецкая).

На канцы XIV ст., пасьля вуніі Вялікага Княства з Польшчаю, калі ў Кракаў перабраўся наш вялікі князь і разам кароль Польшчы Ягайла із сваім, што гаварыў толькі пабеларуску, дваром, мазурачая ў сваёй бальшыні польская шляхта, стыкаючыся часта пры двары ці на супольных соймах зь беларускім баярствам, вучыцца ад яго дакладней адразьняць гукі **ч, ш, ж**, і разам паступова пераймае й некаторыя іншыя асаблівасьці беларускае мовы.

Меў тут, ведама, свой магутны уплыў і сам аўтарытэт каралеўскага двара. І вось гэта найперш, паводля польскіх навучоных, прывяло пасьля да перамогі польскае немазурачае гаворкі ў літаратурнай мове над мазурачай.

Гэтая перамога ня прыйшла аднак хутка й лёгка. Яшчэ на пачатку XVI ст. у польскай літаратурнай мове адбываецца быццам змаганьне дзьвёх родных вымоваў. Яшчэ ў творах такіх першарадных пісьменьнікаў, як Каханоўскі, Гурніцкі, браты Зімаровічы й таксама іншых, часта сустракаем зусім выразнае мазурэньне. І толькі яшчэ пасьлей поўная вымова **ч, ш, ж**, запанавала цалком.

Ды ўплыў старабеларускае мовы на польскую гэтым не абмежаваўся. Ён выявіўся й там, дзе ўжо ўва ўсіх польскіх народных гаворках выступае аднолькавасьць. Гэтак, пад нашым ўплывам, польская літаратурная мова з часам загубіла зусім адзін характэрны некалі сабе гук г. зв. «пахіленае **а**», гук сярэдні паміж **о** і **а**, які быў асаблівасьцяй польскае літаратурнае мовы яшчэ за Кахаўскага ў XVI ст., а й па сяньняшні дзень застаецца характэрным для ўсіх польскіх дыялектаў.

Гуку вось гэтага ніколі ня ўмелі навучыцца Беларусы й пасьля наша спалячэлая шляхта. Яна, наадварот, пад уплывам нязвычайна магутнага ў беларускай мове аканьня, заўсёды вымаўляла згодна зь беларускай фанэтыкай, пахіленае **а**, як нашае звычайнае беларускае **а**. Вось гэтую вымову нашыя прашчуры накінулі некалі й Палякам у іхнай літаратурнай мове.

І таму вось сяньня Палякі ўжо заўсёды кажуць «**бялы птак**», хаця ў калішняй сваёй старой мове яны гэтыя словы вымаўлялі прыблізна як «**бёлы пток**», як вымаўляе іх і сяньня польскі народ у сваіх дыялектычных гаворках.

Таксама пад нашым уплывам пачалі пісаць і вымаўляць падобна да беларусаў **Пётровіч, Антоновіч**, і інш., хаця даўней, у старой польскай мове, гаварылася — і гэта характэрна для старое польскае мовы — **Пётровіц, Антоновіц**, аналёгічна як сяньня гаворыцца **старосьціц, каштэляніц, дзедзіц, шляхціц**.

Раней Палякі таксама казалі **крулевіц, паніц**, а цяпер, як ведама, у літаратурнай мове гавораць толькі **крулевіч, паніч** пад уплывам нашага-ж **паніч, каралевіч**. (Слова **шляхціч** у навейшых часох затое ў нас, наадварот, паддалося польскаму ўплыву і мясцамі яго вымаўляюць з польскага **шляхціц**, хаця ўва ўсіх нашых старых актах і граматах ёсьць **шляхціч**). [3])

Пад тым-жа беларускім уплывам ужо ад пачатку XVIII ст. у польскай мове пачынаюць зьяўляцца такія формы цяперашняга часу, як depcze, placze (над уплывам аналёгічных нашых **тапчу, хаджу, лячу** і г. д.), заміж адзіна правільнага з гледзішча польскае мовы depce, place і г. д.

Сюды таксама трэба залічыць сяньняшнія польскія **охочы, робочы**, хаця правільна папольску павінна было-б быць **охоцы, робоцы**.

Ёсьць паважныя ўплывы й на слоўнік польскае мовы. Hodowac, hreczka, puhacz, zubr і шмат іншых словаў — гэта беларусізмы ў польскай мове. Ды беларускія моўныя ўплывы на польскі слоўнік дагэтуль нажаль дакладней яшчэ не дасьледжаныя. [4])

Беларускі ўплыў, які спачатку пашыраўся праз каралеўскі двор і нашае баярства, пасьля, калі сам двор пачаў гаварыць ужо папольску, ішоў далей праз нашую спалячэлую шляхту (XVII ст. і пазьней), якая хаця й гаварыла ўжо тады часта папольску, але заўсёды із сваймі беларускімі асаблівасьцямі ў вымове й слоўніку. Шляхта-ж нашая, хаця сама паступова палячылася, але ўліваючыся ў культурна-палітычнае жыцьцё Польшчы, разам зьменьвала сабою ў некаторай меры й Польшчу ды польскую культуру, уносячы ў яе моцныя беларускія элемэнты.

Як ведама, праз увесь час шляхта зь Беларусі брала важны ўдзел у палітычным і культурным жыцьці супольнае Рэчыпаспалітае й мела на яго заўсёды вялікі, а ў пасьлейшых вякох навет і дамінуючы ўплыў. Таму вось, ня толькі польская культура, польская палітычная думка, польская літаратура стаялі пад магутным беларускім уплывам, але й польская мова з часам увабрала ў сябе шмат беларускіх элемэнтаў.

Хто чытае польскія працы да гэтага пытаньня, заўважыць, што прафэсар Нітч, Лер-Сплавінскі й іншыя польскія філёлёгі, блізу заўсёды старабеларускую мову, якой некалі гаварыў наш вялікакняжы двор, нашае баярства, якой пісаліся тады ў нас усе гаспадарстваўскія акты, граматы, законы, сьвецкая й рэлігійная літаратура, — завуць «рускім языком».

Тэрмін гэты Палякі перанялі з самога старога беларускага пісьменства. Гэтак, фактычна, найчасьцей звалі сваю мову й нашыя прашчуры. Францішак Скарына, перакладаючы Біблію ў беларускую мову, кажа, што ён яе «на рускі язык вылажыў» (1517). У «Аль-Кітабе», пісаным вельмі чыстаю беларускаю моваю пачатку XVI ст., кажацца: ...«калі пататарску ня ўмее, то паруску няхай абракаецца» (бал. 86б, 17 і 87а, I). У Статуце Вялікага Княства Літоўскага (1588 г.) гаворыцца: «а пісар земскі маець паруску, літарамі і словы рускімі ўсе лісты, выпісы й позвы пісаці». (Разьдз. IV. Арт. 1).

Тэрмін «беларуская» на азначаньне старабеларускай мовы зьявіўся і пашырыўся ўжо куды пазьней. Што гэная «руская» мова аднак ніколі ня была моваю ані расейскаю (якую тады звычайна ў нас звалі маскоўскаю), ані ўкраінскаю, а толькі беларускаю, гэта сьцьвердзіла ужо шмат навучоных-адмыслоўцаў і не Беларусаў, якія яе дасьледжавалі. Найлепш і найгрунтаўней гэта выясьніў акадэмік Карскі ў сваёй працы «Белоруссы». [5])

Расейская Імпэратарская Акадэмія Навукаў яшчэ ў 1851 г., маючы ці малыя клопаты з дакладным разуменьнем

---

[3]) У гэтым слове можа быць і простая асыміляцыя (прыпадабненьне) канцавога **ч** да папярэдняга **ц**, толькі мо падтрымваная польскім уплывам з аднаго боку, а з другога боку — аналёгіяй да такіх выпадкаў, як **Саўчыц, Акінчыц, баярчыц**, дзе канцавое **ц** паўстала з **ч** адваротным шляхом дысыміляцыі (распадабненьня) ад папярэдняга **ч**. (Рэд.).

[4]) У Савецкай Беларусі сваім часам (у 20-30 г.г.), у часапісе «Маладняк» друкавалася цікавая й грунтоўная праца праф. Цьвяткова якраз аб беларускіх уплывах на польскае слоўніцтва. (Рэд.).

[5]) Навейшая цікавая праца да гэтага пытаньня нарвэскага навучонага Ch. S. Stang: Skrifter Utgitt av Det Norske Videnskaps-Akademi i Oslo, II, Hist.-Filos. Klasse, 1935, Nr. 2. Oslo 1935.

і перакладаньнем у расейскую мову старабеларускіх тэкстаў, даручыла навет складаньне адмысловага беларускага слоўніка для гэтае патрэбы, які пасьля й выйшаў у канчальным апрацаваньні Насовіча ў 1870 г. У прадмове да гэтага беларускага слоўніка Насовіч піша, што ён паўстаў «з прычыны ўсьведамленае канечнасьці мець пад рукамі слоўнік гэтага (беларускага) «нарэчыя», між іншага, і для разуменьня важных і цікавых гістарычных актаў, ім пісаных, якія ў гэтым часе пачала выдаваць Археаграфічная Камісія». [6])

Дык, што «руская» мова была гаспадарстваўская мова Вялікага Княства — ня мае нічога супольнага з сучаснай «рускай» мовай-расейскай, гэта канчальна высьнена сяньня й прызнана навет найвышэйшымі расейскімі аўтарытэтамі.

Ды ў польскай навуковай тэрміналёгіі ёсьць і іншая блытаніна. Тэрмінам «руская мова» у польскай мове абазначаецца ня толькі нашая старабеларуская мова з часоў Вялікага Княства Літоўскага, але й сучасная мова ўкраінская. Таксама цяпер гаворыцца яшчэ часта «Русін» — Украінец, а «рускі» — украінскі.

[6]) И. И. Носович: «Словарь белорусского наречия». Санктпетербург 1870.

Стуль у некаторых Палякоў і паўстае непатрэбная блытаніна — утоесамленьне старабеларускае «рускае» мовы з сучаснаю мовай украінскай. Хто карыстае з польскае навуковае літаратуры, мусіць заўсёды мець на ўвеце гэтую недакладнасьць польскае тэрміналёгіі, каб усьцерагчыся і ад хвальшывых высноваў, у якія трапляюць некаторыя польскія філёлёгі (як прыкл. Лер-Сплавінскі).

Падсумоўваючы ў канцы дасюлешнія вынікі досьледаў польскіх навуковых над уплывамі нашае мовы на мову польскую, трэба сказаць, што беларуская мова празь вякі гістарычнага сутыку з польскаю паклала на яе шмат у чым сваё нясьцертае беларускае кляйно. Сваймі цікавымі працамі польскія філёлёгі раскрылі ўжо частква існасьць беларускіх уплываў на польскую мову, паказалі іхную вагу на справу фармаваньня сучаснае польскае літаратурнае мовы, але канчальнае высьсненьне гэтага пытаньня ўва ўсіх ягоных цікавых дэталях можа прыйсьці толькі праз грунтоўныя адначасныя студыі не адно з боку польскае, але й беларускае мовы, не аднымі польскімі, але й беларускімі філёлёгамі.

Толькі такім шляхом дасца высьніць і раскрыць усе тыя беларускія элемэнты, якія празь вякі ўвабрала ў сябе ў фанэтыцы ,марфалёгіі й слоўніку мова польская, як аднача сна можна будзе дасьледзіць і дакладней азначыць і польскія ўплывы на мову нашую.

---

**М. ГРЫБЕЛЬ**

# «НЕ ЗАГІНЕ КРАЙ ЗАБРАНЫ»

## (У СПРАВЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІМНУ)

З усіх паэтычна-музычных твораў, што выконвалі ролю нашага нацыянальнага гімну ў розныя поры руху, тымчасам найбольшую стойкасьць, трываласьць выявіў гімн «Не пагаснуць зоркі ў небе», музыкі М. Янчука на словы Я. Купалы. Бо першы наш нацыянальны гімн — «А хто там ідзе» (музыка Л. Рагоўскага, словы Я. Купалы) пажыў у гэтай ролі зусім нядоўга, не дачакаўшыся бадай навет запраўды масавага свайго выкананьня: пахавалі яго складанасьць, недаступнасьць-«непапулярнасьць мэлёдыі, неадпаведная для гімну паэтычная форма (дыялёгічная) ды, не ў апошнім выніку, і не здавальняючая ўжо, выпераджаная рухам нашаніўская ідэя («людзьмі звацца»). Наадварот, вельмі доўга й якраз у масавым ужытку жыла «Беларуская марсэльеза» («Адвеку мы спалі», словы й музыка Ў. Галубка пад псэўдонімам «народных») — трымала яе пры жыцьці найбольш вельмі «папулярная», лёгкая, «масавая» мэлёдыя, тымчасам як спачатны тэкст, скрайня прымітыўны і ў паэтычным сэньсе, аж да наіўнасьці, акцэнтаваны адно сацыяльна, а нацыянальна ня толькі ялавы, але навет і абразьлівы — ад пачатку-ж нема лемантаваў, апэлюючы прынамся да паправы, калі ня поўнае замены. «Прыстукнулі» гэтую «Марсэльезу» канчальна аднак толькі бальшавікі, паліцыйнаю забаронаю ў БССР і правакацыйным антыўрадавым выкарыстоўваньнем у Заходняй Беларусі. Пасьлейшыя спробы аднавіць і адрадзіць яе на новым тэксьце (Ю. Сяргіевіча й інш.) тымчасам застаюцца праблематычнымі пры выяўленьні выразнай тэндэнцыі замацаваць мэлёдыю за гімнам ці проста песьняй моладзі із тэкстам У. Казлоўшчыка — «Мы бойкая моладзь», дарэчы, у паэтычным сэньсе мала вартасьнейшым за спачатны Галубкоў тэкст пры бясспрэчнай аднак нацыянальна-ідэялёгічнай сваёй вышэйшасьці.

Нарэшце, бурнае трохходзьдзе нацыянальнага й нацыяналістычнага наступу 1941-44 г., выставіла на ролю гімну, а інэрцыяй сваёй часткава падтрымвае ў ёй і цяпер — ведамы «Ваяцкі марш» («Мы выйдзем шчыльнымі радамі», музыка Ў. Тэраўскага на словы Краўцова Макара). Ад гэтага аднак згаданы твор не пакінуў быць тым, чым ён быў задуманы й выкананы сваймі і паэтам і кампазытарам, г. зн. **маршам** найперш, а ня гімнам. Апыніцца ў ролі гімну яму найбольш памог наступальны - маршавы характар усяе кароткатрывалае ўспомненае эпохі-трохгодкі, што й вынесла яго на сабе да гэтае ролі. Апрача таго, і тады, як і раней ды пасьлей, пры масавым выкананьні твору ці раз паўставалі некаторыя непаладкі й няпрыемнасьці на груньце ягонага музычнага боку, які ставіць поўныя цяжкасьці перад гэтым выкананьнем, ці раз чуліся й галасы аб патрэбе нейкага зрэфармаваньня мелёдыі ў бок спрошчаньня, «папулярызацыі» яе, дасюль, аднак, нікім не задавольненыя. Дык і захаваньне «Ваяцкім маршам» ролі нацыянальнага гімну за сабой і надалей таксама выглядае на сяньня даволі праблематычным.

І толькі адны «Не пагаснуць зоркі», адразу паўстаўшы (рэвалюцыйнай пароаю 1917-18 г.г.) як гімн, аніразу дасюль ня выйшлі з гэтае ролі. Праўда, часам і ім давядзілася адступаць крыху на задні плян перад іншымі, вышэй згадванымі сваймі «канкурэнтамі», але затое ніхто й нішто ня здолелі іх выпхнуць зусім, хоць на час, із песьневага ўжытку. Спрыяла гэтаму, пэўна-ж, і даволі даступная, «папулярная», лёгкая мэлёдыя (хоць у гэтым дачыненьні яна крыху можа й сулупае перад мэлёдыяй «Марсэльезы»), і праніклыя, жывыя, сяньня яшчэ ў поўнай меры актуальныя, падбадзёрвальныя й абнадзейвальныя, поўныя веры ў праўду й будучыню нацыянальнае справы Купалавы словы. І асабліва сяньня, калі паэтава сьмерць канчальна пагадзіла ўсіх нас зь ім і зварачае нам яго зноў у поўнай велічы й блеску постаці нацыянальнага прарока, — сама сабою яшчэ больш узростае цяга й да выснаванага ім гімну нацыі. Мы ня хочам тут прадканоўваць гэтае справы, але пачуваемся да патрэбы выказаць меркаваньне, што прынамся на пэўны адрэзак часу «Не пагаснуць зоркі» могуць (дый ці не павінны) пераняць на сябе зноў ролю нашага галоўнага нацыянальнага гімну.

Выказваючы гэта проста як сваё, падчыркваем яшчэ раз, меркаваньне толькі, мы хочам пры гэтым галоўна закрануць некаторыя пытаньні ў справе рэдакцыі слоўнага тэксту гімну (як наагул, так і «Не пагаснуць зоркі» ўпаасабку), што выплылі былі ў парадку леташняе палемікі вакол «Новага песеньніка крывіцкага» Б. Скарынiча, якому мы прысьвяцілі былі рэцэнзію ў папярэднім № 1 «Сакавіка», дакляраваўшы там зьвярнуцца асобна да высьсненьня, як сказалі мы, «агульных ліній рэдакцыі нацыянальных гімнаў», што й хочам зрабіць цяпер на гэтым месцы.

Б. Скарыніч у сваім «Высьсненьні» да некаторых водгукаў на ягоны «Песеньнік» зусім добра кажа, што «на

ўсім сьвеце, калі верш робіцца нацыянальным гімнам, дык зьмест ягоны балей або меней мяняюць — каб прытарнаваць да вымаганьня гімну». Гэтую бясспрэчную й агульнаведамую, часам толькі хіба зусім сьведама й знарок «забываную» аксыёму, між іншага, пацьвярджае поўнасьцяй і гісторыя нашых нацыянальных гімнаў, асабліва можа апошняга зь іх — вышэйзгадаванага «Ваяцкага маршу» («Мы выйдзем шчыльнымі радамі»). Папраўкі, зробленыя тут у вапошняй рэдакцыі («Няхай жыве магутны, сьмелы наш беларускі родны дух» — замест ранейшага аўтэнтычнага аўтаравага «Хай ажыве закамянелы наш беларускі...» і г. д., «народу слаўнага» замест «народу беднага», «цярпелі мы» зам. «цярпеўшыя» й інш.) былі аднагалосна прынятыя ўсімі, і ніхто навет ня пытаўся, хто іх зрабіў і «хто дазволіў», «якім правам». Зразумела, што такому прыняцьцю памагла актуальнасьць і ўдаласьць зробленых паправак як із боку палітычнага, так і з паэтычнага. Зробленая-ж адначасна папраўка «Рэспублікі» на «Бацькоўшчыны» ўжо адразу-ж, а цяпер канчальна адкінулася, і зноў-жа, дзеля тых самых матываў-няўдаласьці як палітычнай (паслабленьне нацыянальна-палітычнага, гаспадарстваўскага - «дзяржаўніцкага» мамэнту), так і паэтычнай (калечаньне штучна перанесеным націскам жывога слова «Бацькаўшчыны»).

Калі-ж зьвярнуцца да гісторыі нацыянальных гімнаў іншых народаў, дык можа асабліва паўчальным тут — зрэшты, у тым ліку й для самога Б. Скарыніча — быў-бы прыклад ведамага польскага нацыянальна-рэлігійнага гімну «Boze cos Polske». Гімн гэты зьявіўся ў часе заснаваньня расейскім імпэратарам Аляксандрам I «Каралеўства польскага» пад ягоным зьверхніцтвам, як гаспадарстваўскі гімн гэнага «Каралеўства». У першай сваёй рэдакцыі ён і меў радок, беспасярэдня зьвязаны з асобаю «імпэратара ўсерасейскага й караля польскага»: «Krola naszego zachowaj nam Panie». Але пасьлей, у часе паўстаньня, стыхійна паўстала й зусім новая рэдакцыя гэтага радка: «Ojczyzne nasza racz nam zwrocic, Panie». Між іншага, цікава, што расейская царская паліцыя даўжэйшы час, аж пакуль разабралася ў гэтай зьмене, ня толькі не забараняла, але навет салютавала гімну, які ў гэткай рэдакцыі меў ужо нацыянальна-вызваленскі характар, сьціраваны тым самым супраць расейскага царату й імпэрыі. Далей, калі Палякі аднавілі сваё незалежнае гаспадарства па першай сусьветнай вайне, зьявілася й трэйцяя рэдакцыя ўспамінанага радка, у форме як-бы сынтэзу абедзьвюх папярэдніх: «Ojczyzne nasza zachowaj nam, Panie». I нарэшце, цяпер, калі запраўды незалежная польская гаспадарстваўшчына ізноў страчаная, нацыянальна-настроеныя Палякі зноў зьвярнуліся да другое рэдакцыі — «Ojczyzne nasza racz nam zwrocic, Panie».

Вось-жа вельмі падобнае паўстала і ў нас якраз із пратэгаваным намі гімнам «Не пагаснуць зоркі», у якім, як ведама, ёсьць радок — «Не загіне Край Забраны». Калі паставіць пытаньне, ці дазваляюць сяньня абставіны, каб зьмяніць у гэтым радку слова «Забраны» на якое-небудзь іншае, што ўжо не ўспамінала-б аб «забранасьці», акупаванасьці чужынцамі нашага краю, дык адказ, панашаму, можа быць толькі адзін: не, калі ўсё трывае яшчэ гэтая акупаванасьць. Дык таму й тыя «некаторыя», што «прабавалі замест «Край забраны» пяяць «Край наш родны», аб якіх успамінае Б. Скарыніч, як і сам ён, праводзячы ў сваім «Песеньніку» іншую замену («Край крывіцкі») — ня маюць із гэтага гледзішча аніякае рацыі. Рабіць падобныя замены сяньня значыла-б пераскокваць праз сучаснасьць, хоць і цяжкую, але нажаль, рэальную, замазваць ці забывацца на яе, тымчасам як абавязак загадвае якраз ні на мамэнт не адцягвацца ад гэтага сумнага факту, а наадварот, мець яго навоку ўсюды й заўсёды, каб усюды й заўсёды быць гатовымі да змаганьня й змагацца за вызваленьне спад чужацкага бота ўсё яшчэ забранага краю. I толькі за вялікую вартасьць разгляданага намі гімну можна вызнаць тое, што ён за кажным разам нагадвае нам аб гэтым сьвятым абавязку, падтрымваючы пры тым яшчэ й веру, што **«не загіне»** край», хоць ён і **«забраны»**. Гэтую-ж антытэзу зусім здымаюць успомненыя папраўкі, тым самым паслабляючы ўжо навет і чыста-паэтычны бок тэксту.

Але й гэта яшчэ ня ўсё. Бо калі Б. Скарыніч цьвердзіць пры гэтым, быццам «забраных краёў ёсьць шмат, а нам ідзе пра наш крывіцкі край», дык у такім цьверджаньні выяўляе толькі глыбокае незразуменьне якраз паэтычнага боку справы. Бо **«Забраны Край»** якраз адзін, бо і ў нашай народнай творчасьці, з традыцыі якое гэтае азначэньне ўзязенае і ў Купалы, які першы ўвёў яго ў кніжную паэзію ды так часта ўжываў, і ў Дубоўкі, і ў шмат каго зь іншых — між таго, і ў «Гімне выгнанцаў» («Забраны ў няволю з Забранага Краю») яно — ужо трапны паэтычны пэрыфраз, тарнаваны **толькі** да нашага краю, пэрыфраз такога-ж тыпу (у сэньсе самое паэтычнае структуры), як «Новы Сьвет» у дачыненьні да Амэрыкі, «Край узыходнага сонца» — да Японіі й пад. (дарэчы й да ўвагі сп. Скарыніча: «Новых Сьветаў» для Эўропы таксама было колькі — і Аўстралія, і Антарктыда — але толькі адна Амэрыка замацавала за сабой гэты пэрыфраз, як і адна Японія з усіх усходніх краёў — годнасьць «Краю ўзыходнага сонца»). Дык і ў гэтым нашым пэрыфразе якраз «ідзе пра наш крывіцкі край» і толькі пра яго, але «йдзе» глыбака-паэтычна, а ня будзённа-празаічна. I замена гэтага мастацкага вобразу на звычайны геаграфічна-этнаграфічны тэрмін, асабліва-ж пры разьвітых вышэй матывах, ня можа даць нічога, апрача абніжэньня паэтычнага й палітычнага ўзроўню твору. Мала гэтага, навет калі-б і надыйшоў такі мамэнт, што «забранасьць» нашага краю была-б пераможаная й пры гэтым разгляданы намі верш утрымаўся-б у ролі нашага нацыянальнага гімну, так што зайшла-б патрэба ў вадпаведных зьменах ягонага тэксту — гэткую зьмену, на нашую думку, давялося-б правесьці нейкаю іншаю дарогаю (скажам, заменаю будучага часу на прошлы, наводля: «не загінуў Край Забраны, бо знайшліся людзі», ці «паўсталі людзі», ці «не далі людзі», ці неяк падобна).

Калі-ж конча хацець, каб у гімне «йшло» пра заначэньне ягонае, казаў той, «нацыянальнае прыналежнасьці», дык у разгляданым намі творы дзеля гэтага зусім даволі выразу «беларускаю рукою», які пры жаданьні лёгка замяняецца й на «крывічанскаю рукою», што й зрабіў у рэдакцыі тэксту ў сваім «Песеньніку» Б. Скарыніч.

Дык-жа, падагульняючы нарэшце: мы — за «Не пагаснуць зоркі ў небе», як за галоўны наш нацыянальны гімн на дадзеным этапе руху, з канечным захаваньнем у ім бязь зьменаў вобразу «Край Забраны», як палітычна-мабілізацыйнага й паэтычна-сакавітага пэрыфразу назову нашае Бацькаўшчыны.

**Ад рэдакцыі.** Зьмяшчаем у парадку абмеркаваньня.

---

## ДА СПРАВЫ ДВУПАГОНІ

**Наш «Сакавік» выходзіць пад эмблемаю «Двупагоні». Справа гэтае эмблемы, узьнятая яшчэ ў 1944 гг., сёлета зноў усплыла наўзьверх у сьвяточным нумары газэты «Бацькаўшчына», прысьвечаным трыццатым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. У дадатак, пашырэньне й падмацаваньне пададзенага там становішча зьмяшчаем зацемку аднаго з нашых супрацаўнікаў, які паведамляе некаторыя новыя факты. — Рэдакцыя.**

Хіба ня шмат каму ведама, што «Двупагоня» ня толькі дагэтуль была праектам, парушаным сваім часам Альгердзічам у «Раніцы», але ўжо ад 1944 году ўжывалася аднэй зь беларускіх незалежніцкіх груповак, як сымбаль-знак Незалежніцкае Беларускае Ідэі.

Група гэтая, задзіночыўшы ў сваіх радох на чужыне ў Нямеччыне сялянска-незалежніцкія левыя элемэнты на чале зь некаторымі былымі дзеячамі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, апанавала сваім часам гэтак зв. «Б. І. Б.», афіцыйна — быццам прыбочны орган «Беларускае Цэнтральнае Рады», неафіцыйна-ж — асяродак незалежніцка-радыкальнае апазыцыі, што змагалася з палітыкай Б. Ц. Р.

Вось-жа група гэтая дэманстрацыйна высунула справу «Двупагоні», уводзячы яе на ўсіх друках Б. І. Б., тымчасам як друкі Б. Ц. Р. значыліся звычайнаю Пагоняй. У вабароне «Двупагоні» БІБ мусіў правесьці цэлае змаганьне з культурна-прапагандавым аддзелам Рады й ягоным рэфэрэнтам, дасягаючы свайго.

«Двупагоня» Б. І. Б. на друках мела двох спалучаных коньнікаў на фоне абрысаў этнаграфічнае карты Беларусі, узятых у вакруглы вянец зь беларускага нацыянальнага сьцягу. Знак «Двупагоні» на пячатках і нагрудны меў выгляд, пададзены ў «Бацькаўшчыне», без абрысаў карты й вянца.

**Б.**

## СЬВЕЖАЕ СЛОВА

**Янка Брыль. Апавяданьні. Дзяржаўнае Выдавецтва БССР. Менск 1946, 122 бал. Цана 2 руб. 50 кап.**

У разгляднай кніжцы зьмешчаны 5 апавяданьняў і «Замест Прадмовы» Кандрата Крапівы.

Крапіва як нельга лепш азначыў нацыянальную вартасьць маладога пісьменьніка, што выказвае ці малы талент. Край наш багаты на паэтаў — калісь нехта зацеміў, але ў прозе запраўды няшмат ёсьць чым пахваліцца. Таму новы ўклад у нацыянальную літаратуру, уношаны Я. Брылём, тым вартасьнейшы.

Крапіва мусіў старацца надаць Брылю характару савецкага пісьменьніка, але адкрыта, «у жывыя вочы», махляваць цяжка. Таму ён прызнае: «Янка Брыль у сваіх творах не займаецца вырашэньнем вялікіх палітычных і сацыяльных праблем».

Ды якія-ж «праблемы» мог-бы «вырашыць» малады й непартыйны Янка Брыль? Хіба ўжо даўно «вырашаныя» гэніяльным Сталінам яшчэ раз развалкоўваў-бы і падносіў-бы ў новай юшцы стары кісель. «У цэнтры ўвагі заўсёды знаходзіцца чалавек... А найбольш блізкі і знаёмы яму чалавек гэта — беларускі селянін». Янка Брыль запраўды апісвае ў сваіх апавяданьнях жыцьцё й асяродзьдзе яму роднае, зжытае. Мірскія сяляне й мяшчане — гэта асобы Брылёвых апавяданьняў. Іхныя дзеі й зь імі падзеі апісаныя даслоўнай моваю сялянаў Міра й ягонае ваколіцы. Лёгкім сказам, а сардэчным тонам, мастацкімі нарысамі тчэцца, зацікаўлеваючы, апавяданьне. Чытаць лёгка й прыемна ды застаецца ўспамін аб даўно перажытым. Кажнае апавяданьне Брыля — гэта быццам пахкі палетак, бярозавы лясок ды родная саламяная хата.

«З той уважлівасьцяй і любасьцяй, зь якой Янка Брыль ставіцца ў сваіх апавяданьнях да чалавека, адносіцца ён і да мовы. Ён не карыстаецца гатовай, штампаванай фразай, якая сама навязваецца аўтару. Ён шукае і ўмее знайсьці патрэбнае сьвежае слова, каб із найбольшай паўнатой і выразнасьцяй данесьці да чытача свае вобразы, думкі й пачуцьці». А гэтыя сьвежыя словы запраўды так рэдкія ў сучаснай савецкай беларускай літаратуры. Мова Брыля — гэта запраўдная сучасная мова мірскіх сялянаў. У ёй запраўднае, часамі дакумэнтальна праўдзівае пераданьне на паперы жыцьця й гутаркі. Навет расейскія словы ўпісаныя так, як іх вымаўляе мірскі мешчанін, і таму навет гэтыя словы адбіваюць сьвежасьцяй ад стандартных словаў савецкае пісаніны.

Брыль мусіў узгадоўвацца ў васяродзьдзі, беларускім не із штампу, але з адвечнае прыроды. А праўдзіва культурны чалавек, раз навучыўшыся мовы, умее, яе ўтрымаць няспэцканаю чужымі наляцеласьцямі ці «перавапрочваньнем», так модным у савецкім абыходку. Таму Брыль не дабірае словаў, а піша моваю найбольш сялянскаю, каб гэтым высьцерагчыся непатрэбнага засьмечваньня сваіх беларускіх апавяданьняў. І апавяданьні нязвычайна адбіваюцца прыгаствам мовы. Гэта — васілёк у тандэтнай шарыні перакладаў з расейскае мовы перакладнікамі, што ня ўмеюць пабеларуску. Толькі бо такою літаратураю ў бальшыні занятае Дзяржаўнае Выдавецтва БССР і толькі такою «белмоваю» кормяцца й гадуюцца там.

Дык можна адно пажадаць Янку Брылю ўтрымацца на ніве літаратурнай і далей сьціплым васільком, пасланым Богам зморанаму ратаю на разьвесяленьне ягонага позірку ў часіне адпачынку.

**Др. Вікт.**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Вельмі паважаны сп. Рэдактар!**

Прашу зьмясьціць у Вашым часапісе «Сакавік» наступнае:

У № 4 «Шыпшыны» быў зьмешчаны мой верш «У бубны й літаўры». Апрача таго, у хроніцы, у зацемцы «У літаратурным згуртаваньні Шыпшына», успамінаецца маё імя.

У сувязі з гэтым, падаю да грамадзкага ведама, што я ўжо даўно ня лічу сябе сябрам вышэйуспомненага згуртаваньня. Праўда, я не паведамляла аб гэтым рэдактара «Шыпшыны» афіцыйным лістом, але ўсім было ведама, што ніякае лучнасьці ані зь ім, ані з гэтым згуртаваньнем я ня мела ўжо ад верасьня 1946 г., а навет яшчэ раней.

Аб тым, што я тады ня была сябрам літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына», найлепей сьветчыць факт поўнага байкоту літаратурным згуртаваньнем «Шыпшына» абходу 25-х угодкаў мае літаратурнае дзейнасьці 21-га верасьня 1946 г.

Прычыны майго выхаду із згуртаваньня «Шыпшына» не патрабуюць, хіба, выясьненьня. Мне здаецца, што кажны запраўды сьведамы Беларус, які стаіць на груньце незалежнасьці Беларусі і ўсюды ды заўсёды верна служыць сьвятой для нас ідэі, зразумее маё становішча.

Мой верш «У бубны й літаўры», зьмешчаны рэдактарам «Шыпшыны» ў № 4 часапісу, трапіў да яго, разам із вязанкаю іншых маіх вершаў, яшчэ ўлетку 1946 г. Шчыра кажучы, я аб ім навет і забылася, ніколі, зрэшты, не дапушчаючы, што пасьля майго разрыву із рэдакцыяй «Шыпшыны» ён будзе яшчэ калі-колечы ёю скарыстаны.

17. 5. 1947 г.

Із пашанаю,
**Н. Арсеньнева.**

## ЗЬМЕСТ:



### З СУСЬВЕТНАЕ СКАРБНІЦЫ



### ВОЛЬНАЯ ДУМКА



Whiteruthenian Magazine „Sakavik“ („The March“)
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division A P O 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.